

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№124 March 2006 Сакавік Год выд.. 14

## НАРОД З ПОЛЬСКА-ЛЕТУВІСКАГА ПАМЕЖЖА






Беларусы ніколі не здабылі працяглай дзяржаўнай незалежнасьці. Магчыма, што прычынаў гэтага трэба шукаць у іхнай этнічнай мінуўшчыне — яны славянізаваныя балты.

Уважлівыя дасьледнікі беларускай гісторыі канцэнтруюцца на апошніх дэкадах першага тысячагодзьдзя, калі кіеўскія валадары прыступілі да катэгарычнай хрысьціянізацыі выклікаючы хвалю ўцёкаў паганцаў за паўночныя балоты Палесься, у бясьпечныя пушчы балтаў, продкаў сучасных летувісаў і латышоў. Прычым варта ведаць пра йснаваньне кантынэнтальнага тады „Шляху з Варагаў у Грэкі", які йснаваў ад антычных часоў. На ім стварыліся, у асноўным дзякуючы тым жа варагам-вікінгам, раньнія протадзяржаўныя формы з цэнтрамі ў Кіеве, Вялікім Ноўгарадзе, Полацку.

Полацак на пачатку ня быў славянскі; улада была там у руках скандынаўскіх ваяроў, а сярод насельніцтва пераважаў менавіта балцкі, і часткова угрскі элемэнт. Славянізацыя адбывалася паступова, дзякуючы вышэйшай культурнасьці славян, пазьней ахопленых хрысьціянскай цывілізацыяй, якая потым набыла рысы візантыйскай.

Гістарычную Беларусь мы асацыюем зь Вялікім Княствам Літоўскім, якое разам з Польскім Каралеўствам стварыла Рэч Паспалітую Абодвух Народаў у 1569 г. ў Любліне. Княства ўзгадоўвалася ва ўмовах своеасаблівай гістарычнай цішы, якая стаяла на Ўсходненяцьвіскім верхнім Панямоньні знаходзячы апірышча ў штораз багацейшым горадзе Міндоўга Навагрудку. Вакол былі тады шалёныя войны — Полацк ледзь трымаўся пад напорам тэўтонаў, Русь дагарала пад капытамі мангольскіх ордаў, жмудзінаў ды прусакоў рэзалі як барбараў; а ў Польшчы Лакетэк намагаўся аднавіць каралеўства. І толькі ў Навагрудку вораг быў другога гатунку: калі й даходзіў хто, дык гэта былі няўрымсьлівыя галіцыйцы, падбухтораныя закарпацкімі вугорцамі альбо манголамі.

Вялікае Княства Літоўскае было магутным за часоў геніяльнага князя Вітаўта. У эпоху бітвы пад Грунвальдам яно сягала „ад мора да мора", пранікаючы нават у данскія стэпы і даходзячы амаль да ваколіцаў Масквы. Яднаючы ў сваіх межах мноства рускіх уладыкаў, якіх раней бязьлітасна прынізіла Арда, ВКЛ ня мела таксама й шанцаў на ўнутранае разьвіцьцё. Ягоная тэрытарыяльная вялікасьць характэрызавалася разьлеглымі абшарамі гаспадарчага ўпадку, выкліканага зьнішчэньнямі пасьля наездаў Чынгіз-хана. Чарназёмнае Прычарнаморе разам з украінными валасьцямі, а таксама Паўднёвая Маскоўшчына, якую спусташалі татары, чакалі засяленьня, а землі — ўзараньня — толькі з надыходам магутнасьці Рэчы Паспалітай.

Вітаўт, як і ягоныя каралеўскія наступцы, маглі разьлічваць на дастаткова ўгрунтаваны ў сваёй заможнасьці пасьлябалцкі арэал паміж палескімі гарадамі, рухавай дэльтай Дзьвіны і задняпроўскай Смаленшчынай. Неўзабаве сфармаваўся тут беларускі этнас — пасьля адлучэньня Русі й Падляшша ад гістарычнай Літвы ў часы апошняга Ягелёна Жыгімонта Аўгуста. Канчаткова сфэдэравацца з Польскай Каронай прымусіў Вільню раптоўны рост магутнасьці Вялікга Княства Маскоўскага, неўзабаве перайменаванага ў царства. Перад ім безупынна адступалі; урэшце Іван Жахлівы ледзь не здабыў Вільню. Сытуацыю ўратавалі польскія войскі ды вугорскія палкі Стэфана Баторыя.

З эпокай рэнэсансу ў старабеларускай культуры было яшчэ няблага, хаця баярства ўжо тады пачало стыхійна палянізавацца, рабіцца шляхтай. Пашырэньне вуніяцтва напрыканцы Залатога Веку, і пераход элітаў на каталіцызм зьяўляюцца, у пэўным сэньсе, заслугай Крамлёўскіх валадароў. Не на жарты спужаная маскоўскім ярмом дробная літоўская шляхта кінулася ў абдымкі палітычна прываблівай Польшчы й полькасьці. Мужыкі ўцякалі на землі, кіраваныя польскім правам, паводле якога мужык мог абараняць свае правы ў судох, а ягонай жонкі й дачок ніхто не лічыў гарэмам пана-барына. Многія сялянскія сыны атрымоўвалі нават вышэйшую адукацыю ў Кракаве ці на Захадзе, а Масква ні ў якім сэнсе не давала добрага прыкладу. Друкаваньне кніг там успрымалі як д'ябальшчыну. Поўная цемрадзь! У гэтай постмангольскай правінцыі не было нічога, што можна было б назваць пэрыядам у літаратурнай творчасьці, віяўленчым мастацтве ці дойлідзтве. Гэта гвалтам прабаваў быў зьмяніць аматар польскай мовы Пётр I.

Літоўскі баярскі народ аказаўся праглынутым польскі шляхецкім народам. Такім было наступства зьліцьця Вялікага Княства Літоўскага з Польскім Каралеўствам. Вышэй развітая культура ў адной дзяржаве заўжды пераможа слабейшую. Так адбылося з даўнімі беларусамі-русінамі, псыхамоўная тоеснасьць якіх была зрэдукаваная да мужыкоў на паншчыне.

Калі польская культура, а ў ёй літаратура, у сувязі з глыбока закарэненай нацыянальнай дзяржаўнасьцю не магла быць іншай, чым шляхецкая, то беларуская культура магла адрадзіцца адно як мужыцкая. На ўзор рустыкальных потым нацыяў ад Скандынавіі да Балканаў. Таму згаданая Літва ўжо ў часы швэдзкай вайны пачала нагадваць польскую паддзяржаву як у культурным, гэтак і рэлігійным сэнсе (гістарычнай адваротнасьцю гэтай сытуацыі зьяўляецца сучасная Рэспубліка Беларусь, якую лічаць расейскай паддзяржавай). Гэткае хістаньне — ад поўнай палянізацыі да поўнай русыфікацыі — знаходзіць ня толькі зразумелае тлумачэньне, але й нараджае акрэсьленыя дылемы ў гэтай частцы Эўропы. Лёгкасьць, зь якой сялянская Беларусь паддаецца чужой дамінацыі — у адрозьненьні, напрыклад, ад казацкай Украіны — нясе ў сабе непрадказальны зарад гістарычнай катастрофы. Найбольш яскрава ілюструюць гэта мэханізмы канфліктаў у прыродзе. Раман Дмоўскі меркаваў некалі, што найбольш бясьпечна было б падзяліць Беларусь паміж Польшчай і Расеяй, бо ў адваротным выпадку будзе адбывацца безупынная барацьба за гэтую тэрыторыю.

Упадак Рэчы Паспалітай ня выклікаў у Літве ўсеагульнага шоку, як гэтага хацеў Адам Міцкевіч у „Пане Тадэвушы". Тут надалей кіравала шляхта, надалей дамінавала польская мова, уключна з польска-патрыятычным парафіяльным школьніцтвам, сярэднім і вышэйшым; беларушчыну ж нават зь вёскі выцясьнялі. Такі падыход скончыўся толькі пасьля паразы паўстаньня 1863 г. і надзяленьня зямлёй сялян, якіх раней людзьмі лічылі хіба што паэты-рамантыкі ды сэнтымэнтальныя паненкі родам з дробнашляхецкіх фальваркаў... Марыля Верашчака любіла сялянскія песьні з-над Нёмана й Дзьвіны, але ня йначай чым палкоўнік Аляксандар Рыпінскі, які пісаў вершыкі „у гэтай польскай гаворцы беларускай", дадаючы „Tey Polskey Prowincyi".

Аднак нараджэньне беларускай нацыянальнасьці, а значыць і ідэі Беларусі як дзяржавы, аказалася нечым непазьбежным. Балазе, на гістарычную сцэну выйшла найбуйнейшая з грамадзкіх клясаў — сяляне. Мар'я Канапніцка, якая на такую тэктоніку была ўражлівая, пасьля паездкі да Элізы Арэшкі ў Гародню напісала, што там у будучыні будзе менавіта Беларусь, і нічога іншага апрача Беларусі. Kresy Wschodnie — гэта ўсё ж прыгожы міт ідэалістаў, галоўным чынам лірыкаў міжпаўстанчага* часу. /*маецца на ўвазе час паміж паўстаньнямі 1831 і 1863 гг./ (У часы шляхецкай Рэчы Паспалітай гэты панятак увогуле не йснаваў).

Прынцыповай умовай поўнай асыміляцыі дадзенага абшару заўжды зьяўляецца гаспадарчае інтэграваньне яго ў буйнейшую частку краіны; аднолькавы хлеб для ўсіх. Чыясьці культурная дамінацыя тут ніколі не была істотнай. Сучасная літаратура беларусаў, парасткі якой узыходзілі ў пэрыяд пасьля надзяленьня мужыкоў зямлёй характэрызавалася каталіцкім паходжаньнем і лацінскім альфабэтам на шматмільённай гладзі Белай Русі. Вершаў жа ня пішуць непісьменныя. Людзі адукаваныя тут атрымалі менавіта польскую культурнасьць і доўга не лічылі сябе беларусамі, хаця й тварылі па-беларуску. Аўтар патрыятычнага закліку „Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмёрлі" віленскі адвакат Францішак Багушэвіч на шчасьце паслухаўся Элізы Арэчкі (якая ў літаратуры разьбіралася), і пачаў пісаць вершы па-беларуску, бо добраму пісьменьніку наканавана тварыць на роднай мове, гэтым натуральным адзеньні чалавечай душы. Пры ўсёй Божай дапамозе, гэта нялёгкі крок.

Кіеўская паезка Язэпа Пілсудскага ў 1920 г. мела на

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108;
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Пруські

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

мэце не адбудову „імпэрыі палякаў ад мора да мора", якая некаторым мроілася. Думалі пра Міжмор'е — ад балтыйскіх дзяржаваў да Ўкраіны з Крымам і Бэсарабіі — пад кіраўніцтвам Польшчы. Ідэя была зачучасная, і таму няўдалая. Нацдэмаўскія лідэры, якія прыйшлі да ўлады, і якія ўпарта трымаліся нацыялістычнага эгаізму, не прыслухаліся да асьцярогаў маршалка, што Польшча без саюзьнікаў не пратрывае і аднаго пакаленьня. Неўзабаве яна трапіла ў сталінскія абцугі.

Зь беларускага гледзішча, кампанію 1920 г. прайгралі з патрахамі. Слуцкі збройны чын і Армію генэрала Булака-Балаховіча здрадзілі недальнабачныя варшаўскія начальнікі. Паўстанцаў раззброілі і часткова выдалі наўпрост бальшавікам. Так рэалізавалі рыскі трактат, за заключэньне якога Пулсудскі абяцаў быў „адстраліць камусьці дурную галавешку".

Ад гэтага гістарычнага моманту беларускі вызвольны рух, які дагэтуль прасякнуты быў палянафільствам, пачаў зьмяняць сваю палітычную арыентацыю на прасавецкую. Чырвоны Крэмль дзейнічаў рашуча: беларуская рэспубліка атрымоўвала зь ягонай ласкі самастойнасьць, зь яе жыцьця зьнікала расейская мова. Далі самастойнасьць узброеным сілам, пачалі ўсебаковую беларусізацыю, пашырылі этнічную тэрыторыю. Хутка будавалі Беларускі Дом, у які неўзабаве пацягнуліся й беларусы з Польшчы. Ніхто тады не падазраваў, што гульню вялі кропленымі картамі.

Цяжка сказаць, ці выйграла б перадваенная Польшча, калі б яна анімавала ў сваіх межах беларускую і ўкраінскую нацыянальнасьці не зважаючы на зразумелыя палітычныя страты. У трыццатыя гады было вырашана паставіць на гзв. ўзмацненьне польскага маёмаснага стану на ўсходзе. Масавае руйнаваньне праваслаўных цэркваў на Хэлмшчыне, ці намеранае перасяленьне няпольскага элемэнту за Віслу, углыб Польшчы, вельмі абурала грамадзтва, схіляючы нацыянальныя меншасьці да прыняцьця інтэрнацыянальнага камунізму. Хутчэй за ўсё слушнага выйсьця тады не было зусім, пра што сьведчыць хаця б распад узорна-дэмакратычнай да мюнхэнскай драмы Чэхаславаччыны. (...)

Крэсы Ўсходнія аказаліся нечакана ўбогім у параўнаньні да цэнтру Польшчы набыткам, які трэба было безупынна падтрымоўваць датацыямі з дзяржаўнага бюджэту, і гэтае „шчасьце" не давала ніякіх карысьцяў, калі не лічыць меркаваньняў дзяржаўнай бясьпекі. Калі пашукаць эўрапейскіх аналёгіяў, згадвецца прыклад Усходняй Прусіі, якая засыхала не зважаючы на вялізныя грошы, пампаваныя ў яе з Бэрліну. Гаспадарчая геаграфія ў сваёй дынаміцы не зьвяртае ўвагі на ідэалягічныя, ці шырэй беручы— духовыя — патрэбы.

Другая ўсясьветная вайна канчаткова парассякала Эўропу на нацыянальныя дзяржаўнасьці. Сярод дзясяткаў народаў палякі найменш выразна бачылі менавіта беларусаў, якіх тэрытарыяльна атаясамлівалі з колішняй Польшчай Ягелёнаў. А па-людзку памяталі пра тыя нацыянальнасьці, у кантактах зь якімі пралілі шмат крыві; беларусы нічым асаблівым не адзначыліся ў калектыўнай памяці палякаў, асабліва нічым трагічным. Часткова іх ічылі землякамі, якія дрэнна гавораць па-польску, крэсавякамі, якіх ранейшыя „санацыйныя" ўлады прызначалі дзеля асыміляцыі-палянізацыі. У трыццатыя гады, напрыклад, праваслаўных сьвятароў прымушалі весьці ў цэрквах набажэнствы выключна па-польску. А настаўнікаў пачатковых школ абавязвалі біць вучняў, якія прылюдна карыстаюцца беларускай мовай. Бізуна! Без ваганьняў пераянялі рэпрэсійны арсэнал царскіх русыфікатараў.

Зразумела, усё гэта асела ў беларускай калектыўнай памяці, а ў час анэксіяў другой усясьветнай прычыніліся да крывавых эпізодаў. Потым польскі панадворкавы імпэрыялізм скквапна выкарыстоўвалі і Саветы, і гітлераўцы, хаця яны ў значна меншай ступені, чым у Галіцыі ці на Валыні (беларускі нацыялізм толькі-толькі нараджаўся).

Па сёньня няма ўнівэрсальнай дэфініцыі нацыянальнасьці. Аднак мінулыя стагодзьдзі падказваюць, што нацыі — або пачуцьцё сваіх сярод сваіх — стварааюцца супольным лёсам, а яго заўжды, напрыклад у сярэдневеччы, найперш ініцыявала сфармаваная на дадзенай тэрыторыі ўлада — як у афарызме стваральнікаў Каралеўства Італіі зь XIX ст.: „Мы стварылі Італію, цяпер трэба ствараць італьянцаў". Польскі лёс пасьля Ялты быў прывабліва, пасьляваенная рэпатрыяцыя з каляніяльных Крэсаў Усходніх ахапіла сотні тысяч ахвотных; у той самы час з Заольза рэпатрыяваўся ў Польшчу толькі адзін(!) грамадзянін. Нечакана? Патрыятызм — пачуцьцё прыгожае, але ён зусім не прымушае адмаўляцца ад лепшай долі, і ў нашыя дні гэта вельмі кідаецца ў вочы.

Стэрэатып беларускай галечы надалей жывы сярод старэйшага пакаленьня палякаў, якія памятаюць сапраўдную галечу. Ім цяжка цяпер растлумачыць, што сучасная Беларусь ня надта адрозьніваецца ў сэнсе дабрабыту ад сучаснай Польшчы. Дастаткова пагля́дзець на вуліцы тамтэйшых гарадоў, ня кажучы пра буйнейшы за Варшаву амаль двухмільённы сталічны Менск — у амаль дзеяцільмільённай краіне — зь вялікім і элегантным мэтро. Ягоная лацінаамэрыканскасьць у нечым іншым — у духовай абдзеленасьці.

Польскія палітыкі ня маюць найменшага паняцьця аб тым, што Беларусь зьяўляецца не нацыянальна-беларускай, а сацыяльна-савецкай дзяржавай. Гэта прамысловыя руіны Савецкага Саюзу. Адсюль усе наступствы. Сапраўдная папулярнасьць славутага Аляксандра Лукашэнкі бярэцца з жывой памяці пра жыцьцё ў мінулыя дэкады, калі эканоміка была зарыентаваная на Крэмль, гіганцкую гонку ўзбраеньняў, абслугоўваньне найбуйнейшага войска на сьвеце, фінансаваньне сэпаратызмаў, якія вялі да разьвіцьця глябальнага камунізму. Распад СССР на нацыянальныя дзяржавы аўтаматычна прымусіў засяродзіцца на ўнутраных праблемах. У Беларусі на калісьці пустых паліцах крамаў паявіліся тавары, а ў гандлёвых цэнтрах паявіліся такія тавары, пра якія раней і ня марылі (таксама імпартныя). Па вуліцах езьдзяць заходнія аўтамабілі... Сярэднестстыстычны беларус, спрадвеку прызвычаены да галечы, ня мае надта высокіх матэрыяльных амбіцыяў, гэта ж не „шляхцюк". Паляка ён надалей бачыць як непрадказальнага пана і несамавітага бабздыра. „Zastaw się a postaw się"? — што ж у гэтым разумнага? Правінцыйная напышаная дурасьць, адно жалю вартая!

Лягчэй са „шляхцюкамі" паразумеецца „вольны запароскі казак". Падобная да беларускай псыхасацыяльная праблема з палякамі-арыстакратамі не дае спакойна спаць і летувісам-жмудзінам, латышам-зэмгалам, эстам ці фінам-суомі. Беларускі мужыцкі народ дрэнна кантактуецца са шляхецкім польскім народам. Два розныя сьветы, дзьве розныя філязофіі.

Калі б у Варшаве ўважлівей аналізавалі гісторыю Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў, альбо прынамсі больш задумляліся чытаючы „Ляльку" Баляслава Пруса, альбо аналізавалі гаспадарчы ўпадак міжваеннай Польшчы, даўно зразумелі б, што значэньне Польшчы ў Эўропе бярэцца зь яе значэньня на Ўсходзе. За кожным упадкам Літвы-Беларусі заўжды йшоў упадак і самой Польшчы.

**Сакрат Яновіч**, "Polityka"

**********************************************************

# Віктар Казько: "У Беларусі стала сорамна жыць"

Міхась Скобла. Сэрыя "Вольная студыя", "R. Svaboda"

Нядаўна Саюз беларускіх пісьменьнікаў двойчы апынаўся на лаве падсудных — у Гаспадарчым і Вярхоўным судах. Найстарэйшай творчай арганізацыі краіны ўпершыню за ўсю яе семідзесяцігадовую гісторыю пагражае ліквідацыя. Падзеі вакол СБП, сытуацыя з айчыннай культурай — у гутарцы зь пісьменьнікам Віктарам Казьком.

(Міхась Скобла:) "Спадар Віктар, адкуль такое імкненьне ўладаў — пасьпешліва прыдушыць Саюз пісьменьнікаў, прычым адразу ў дзьвюх петлях?"

(Віктар Казько:) "У гэтым праяўляецца страх. Страх улады. Улада адчула апошнім часам няўпэўненасьць. Хаця, здаецца, усё пад кантролем, усё схоплена. Але ж улада ня бачыць сябе заўтра, яна не адчувае сябе гаспадаром ні ў эканоміцы, ні ў культуры. Падчас "памаранчавай" рэвалюцыі ва Ўкраіне ўкраінскі Саюз пісьменьнікаў быў штабам Юшчанкі. І вось такія, пэўна, аналёгіі ўзьніклі ва ўладзе беларускай. Да таго ж беларуская ўлада бясконца далёкая ад культуры, ад разуменьня сучаснага мысьленьня. Нас хочуць запіхнуць у мінуўшчыну. Сёньня ў Беларусі ўсіх, хто паводзіць сябе хоць трошкі "насуперак", спрабуюць паставіць па камандзе "сьмірна" перад шыбеніцай. Гэта датычыцца і калектыўнага нябожчыка (амаль ужо) — Саюзу пісьменьнікаў, у якім спрадвек быў беларускі дух, беларуская думка. Улада імкнецца загнаць думку пад татальны кантроль".

(Скобла:) "Узяць пад кантроль — мэта ўлады. А вось выступаючы па БТ, кандыдат у прэзыдэнты Аляксандар Казулін абвясьціў на ўсю краіну, што Саюз беларускіх пісьменьнікаў зачыняюць менавіта з-за яго, таму што ўвесь Саюз яго падтрымлівае".

(Казько:) "Ты бачыш, наколькі ўсё ў нашай краіне пранізана лукашызмам. Ён ужо ў нашай крыві. І таму дзеяньні Казуліна пры ўсёй да яго павазе — гэта тыя самыя мэтады, якімі дзейнічае Аляксандар Рыгоравіч. Усе мусяць думаць так, як думаюць яны! Паслухай, як гаворыць Лукашэнка: "Гэта мая краіна! Гэта мой народ!". І кожнаму тыкае ў твар. Але я — не яго народ, Беларусь — не яго краіна. Яму загадана народам быць толькі гарантам Канстытуцыі, а ён яе кінуўся парушаць. Адчуў сябе прарокам, адчуў сябе мэсіяй і з вышыняў свайго ўласнага мэсіянства ён зноў і зноў дорыць людзям трактары, аўтамабілі, дзіцячыя садкі. Якія ў яго могуць быць трактары, якія садкі?! Каму ён дорыць, ад каго ён адбірае, каму носіць, каго задобрывае? Тое ж самае адбываецца і ў літаратуры, калі пісьменьнікі выдаюцца толькі з ласкі аднаго чалавека — на прэзыдэнцкія гранты, з найвышэйшага дазволу".

(Скобла:) "З трыбуны Ўсебеларускага сходу Аляксандар Лукашэнка зрабіў чарговае адкрыцьцё адносна біяграфіі Францішка Скарыны. Паслухаем фрагмэнт яго выступу".

(Аляксандар Лукашэнка:) "І нам трэба вярнуць гэтыя праграмы. Гэта ж... Чаго мы саромеемся? Ну мы жылі ў той краіне. І Скарына быў ня толькі беларусам, ён жыў і ў Піцеры, і ствараў там. Гэта наш Скарына. Расяяне з гордасьцю пра яго гавораць. Чаго мы баімся? Чаго мы адмаўляемся, як Ленін гаварыў, ад гэтай вялікай спадчыны — Талстога, Някрасава, Ясеніна і таго ж Маякоўскага, Пушкіна і другіх? Чаго? Мы жылі ў той дзяржаве, яны жылі ў нас, яны натхняліся нашай прыродай, нашым народам. Яны тут стварылі, пісалі. Ад якой спадчыны мы адмаўляемся, навошта мы ад яе адмаўляемся? Гэта ж гордасьць нашай краіны! Мы гэта павінны захаваць! І мы павінны вывучаць гэтыя творы".

(Скобла:) "Што самае дзіўнае — словы пра Скарыну былі паўтораныя ў вечаровым тэлеэфіры. Мне аж падумалася, што тэлерэдактары вырашылі зрабіць свой пасільны ўнёсак у выбарчую кампанію. Мауляў, робім, што можам".

(Казько:) "У мяне ўражаньне, што наша тэлебачаньне аказвае мядзьведжую паслугу Аляксандру Рыгоравічу. Сёньня чалавек, які думае, мае нешта ў галаве, ён ня можа глядзець БТ. Бо такой вакханаліі на экране, як сёньня, не было яшчэ ніколі! А наконт выказваньняў Лукашэнкі... Днямі я яшчэ адно пачуў. Гаворачы пра тое, што беларускія жанчыны ня хочуць нараджаць, ён выдаў фразу: "Гэтую праблему, гэтае вузкае месца трэба расшыць!" Чарнамырдзін адпачывае... Падобнае ў Беларусі толькі адзін раз было сказанае — Дзямянцеем пра чалавека, які "стаіць у заднім праходзе". Дзіву даешся — хто ім даваў веды? Калі меркаваць па нашым нацыянальным тэлебачаньні, то беларусы сёньня з радасьцю, аддана́сьцю ўладзе і праўдаю, з усёй нашай шчырасьцю і працавітасьцю дасцыплінавана і арганізавана, параўнаньня, зь песьнямі са "Славянскага базару" адыходзяць на той сьвет: штогод 38—40 тысяч нябожчыкаў. Шчасьлівыя людзі на гэтым сьвеце не затрымліваюцца.

Я яшчэ трохі памятаю калгасны час, калі старшыня калгасу альбо брыгадзір цікаваў за жанчынай, якая на полі зьбірала салому, каб напхаць сяньнік. Сядзеў у засадзе і цікаваў. І калі яна пасьцілку з саломай ускідвала на плечы, ён падбягаў і падпальваў! Падпальваў салому на яе плячах! Вось у такім падпаленым стане апынулася сёньня беларуская культура, вось такія падпальшчыкі сёньня кіруюць у Беларусі".

(Скобла:) "З вуснаў прэзыдэнта мы пачулі і тое, што ў беларускіх школах мала вывучаюць расейскую клясыку. Мяркуючы па тым, як старанна канспэктаваў Лукашэнку міністар адукацыі, заўтра школьныя праграмы могуць перапісаць".

(Казько:) "Трэба вывучаць і Маякоўскага і Ясеніна. Але ж за гэтым стаіць нешта больш страшнае — яны ўводзяцца наўзамен свайго, беларускага. Каб мы забыліся на сваё званьне на зямлі. Гэта робіцца ў разьліку на маладое пакаленьне, якому не дазваляецца нават праходзіць практыку за мяжой. Каб яны не нахапаліся там чужога духу, духу вальнадумства. Я апошні час пабываў у шмат якіх раённых кнігарнях. Што вымушаныя чытаць нашы людзі? Якая літаратура ім прапануецца? Сатанінская, бясоўская, д'ябальская! Чорная магія, белая магія, загаворы — як прыгаварыць каханага, як наслаць на чалавека праклён. І такая літаратура карыстаецца попытам. І што гэта, калі ня скокі, ня танцы на магіле нашай культуры?

Гэтую нашу беларускую магілу вы можаце ўбачыць у кожнай кнігарні Менску — з усіх бакоў мноства расейскіх, замежных кніг і недзе збоку закуток — магіла беларускай літаратуры з аўтарамі-нябожчыкамі. Вось такое літаратурнае сталічнае нэкрафільства на фоне правінцыйнага шабашу сатанізму. У мяне адчуваньне, што ідзе мэтанакіраваная д'ябалізацыя культуры. Мы адчуваем, як ідзе гэтая д'ябалізацыя зьверху, як яна абрынулася на чалавека з тэлеэкрану.

Уладам чалавек разумны не патрэбен. Лягчэй кіраваць чалавекам, які духоўна абмежаваны. У мяне апошнім часам уражаньне, нібы я не жыву, выпаў з жыцьця, знаходжуся ў сьвеце абсурду, фантасмагорыі. І я ўжо часам сумняваюся, ці вярнуся я зноў да нармальнага чалавечага стану? Ці вернецца Янка Брыль, які замоўк? Ці вернуцца Генадзь Бураўкін, Анатоль Кудравец, Сяргей Законьнікаў? Ці вернуцца нашы сапраўдныя творцы? Ці застанецца толькі скобелеўска-чаргінцоўская непісьменнасьць? І моладзь, пачытаўшы яе, будзе думаць, якая гэта лёгкая справа — пісаць кніжкі. Ну, сеў і накрэмзаў, як гэта робіць Чаргінец, без цара ў галаве. Скобелеў уславіў прэзыдэнта,услужыў яму — і ўсё, і ён ужо пісьменьнік. Вы пачытайце холдынгаўскія выданьні, які там “палёт духу”. Гэта нагадвае час пралетарскай літаратуры, калі ў Саюз пісьменьнікаў прымалі ўсіх падрад і гаварылі пра кагосьці: “Ну, ня ўмее пісаць, ня можа — але як лаецца! Як валодае расейскім матам! Драматург будзе!” Нешта падобнае адбываецца сёньня і ў нашай літаратуры”.

(Скобла:) “Вы згадалі Чаргінца. Адзін зь ягоных намесьнікаў у наваствораным пісьменьніцкім саюзе нядаўна прыйшоў у Міністэрства адукацыі і запатрабаваў, каб са школьных праграмаў тэрмінова выкінулі “няправільных” пісьменьнікаў, а ўключылі туды “правільных” на чале з тым жа генэралам Чаргінцом. Падобнае можа адбыцца?”

(Казько:) “У наш час немагчымага няма. Ідзе ня толькі выкідваньне з падручнікаў. Беларускіх пісьменьнікаў пазбаўляюць слова. На апошняй Радзе Саюзу пісьменьнікаў быў зачытаны ліст міністра адукацыі Радзькова, у якім загадана не пускаць ва ўстановы адукацыі сяброў “няправільнага” Саюзу пісьменьнікаў — Саюзу Купалы, Коласа, Танка. Нам фактычна забаронена выступаць перад сваімі чытачамі”.

(Скобла:) “Вы на пачатку гутаркі зьвярнулі ўвагу на тое, як кіраўнік краіны любіць гаварыць усім “ты”. Днямі па адным з маскоўскіх тэлеканалаў быў паказаны мастацкі фільм пра Максіма Горкага. Мяне ўразіла, як ён мог размаўляць са Сталіным — не дазваляў таму зьвяртацца да сябе на “ты”. Чаму ў нас “тыканьне” ўсім без разбору стала нормай?”

(Казько:) “Тыканьнем” чалавек адразу нівэлюецца, зводзіцца на нішто. Як і іншымі абмежаваньнямі ўладаў, абавязковымі для ўсіх. Нядаўна падчас сходу я назіраў, што адбывалася вакол Кастрычніцкай плошчы. Яе ачапілі, і людзі не маглі прайсьці. Як яны іх лаялі — і ўладу, і тых міліцыянтаў, якія не дазваляюць хадзіць па сваёй зямлі! Усе, хто ні ішоў і каго заварочвалі назад. Абураліся страшэнна. У народзе ўжо насьпеў пратэст. А міліцыянты нібы ахоўвалі нават не прэзыдэнта, які якраз на сходзе выступаў. Ахоўвалі слова яго, каб ня дай Бог, нішто не парушыла і паветра там, дзе яно неслася з уладных амбонаў. Брыдка стала жыць у Беларусі. Брыдка і сорамна”.

(Скобла:) “Мне запомнілася фраза з вашай аповесьці “Час зьбіраць косьці” (“Дзеяслоў”, №14): “Як жа хутка псее чалавек. Толькі што прымерваў крылы, але не пасьпеў іх прыладзіць, як паперлі рогі”. Атрымліваецца, чалавек не абаронены выхаваньнем, багажом культуры ад апісанай вамі дэградацыі?

(Казько:) “На вялікі жаль, не абаронены. Мы ў гісторыі маем прыклады Сталіна, Гітлера, Гебельса. Мы маем гулагі, трэблінкі, асьвенцімы, дзе чалавек забываўся на сваю чалавечую сутнасьць, адмаўляўся ад чалавека ў самім сабе. І гэта адбываецца тым больш хутка, што мы ня толькі інтэлектуальна не абароненыя, мы не абароненыя сацыяльна. Мы згубілі само жаданьне жыць. Жыць наперад, як некалі жылі.

Згадваю сябе малога. Мне дзесяць-дванаццаць гадоў. Чытаю ў адной кніжцы — чалавек будзе на Марсе на самым пачатку другога тысячагодзьдзя, бо адлегласьць у гэты час паміж Марсам і Зямлёй будзе найменшай. Прыкідваю: дзьвюхтысячны год? Дажыву. І пачаў жыць. Бо нада мной быў космас. Космас быў над Беларусьсю. А сёньня вось такой неабходнасьці жыцьця, касьмічнага жыцьця наперад у нас няма. Таму што наперадзе мы нічога сьветлага ня бачым. Раней мы гаварылі пра сьвятло ў канцы тунэлю. Дык вось, тунэль гэты замкнуўся. Ён вядзе ці не да самага таго сьвету, і сьвятла ў ім сёньня амаль што няма. А як толькі зьяўляецца — адразу тушыцца”.

(Скобла:) “Але ж мы не краты, у цемры жыць ня зможам. Калі ж распраменіцца і разьясьніцца над нашымі галовамі беларускае неба?”

(Казько:) “Цемра вакол нас ствараецца ў нечым і штучна. Але гісторыя, і наша, і сусьветная, ведала і больш змрочныя эпохі. Мне здаецца, у Славаччыне быў такі час, што славацкую мову ведала толькі адна жанчына. Адзіная засталася. А сёньня Славаччына — сувэрэнная краіна, і славакі жывуць лепш за беларусаў. Мы ўжо сваім мінулым далучаныя да ўсясьветнай культуры. Мы ня толькі буфэр паміж Эўропай і Азіяй, мы — праваднік. І дзе б Скарына, у Пецярбургу ці ў іншым месцы ні жыў, але ён застаецца беларусам. І далучанасьць Беларусі да ўсясьветнай культуры — гэта дзіўная зьява, я б сказаў, у гэтым нейкае наканаваньне Божае.

# „Рацыя” — рэактывацыя!

**Інфармацыя пра адкрыццё Радыё „Рацыя” паўтаралася прынцыпова кожную гадзіну ўвесь дзень (22 лютага) у агульнапольскіх і лакальных СМІ. Ньюс прагучаў таксама ўва ўсіх важнейшых сусветных масмедыях, а першую перадачу ў прамым эфіры сфільмавала, між іншым, чэшскае тэлебачанне. Яе змест сам гаварыў за сябе — першыя навіны паведамлялі пра арышты і рэпрэсіі, якія ў мінулую ноч спасціглі чатырох дзеячаў дэмакратычнай апазіцы ў Беларусі.**

Таксама ў час афіцыйнага адкрыцця, — як пасля пісала адна мясцовая штодзёнка, — рух у рэдакцыі прыблізна быў такі, як на недалёкім базары. Факт, у сціплым памяшканні радыё госці, палітыкі і журналісты ледзь памясціліся. З нагоды падзеі можна было пачуць слушныя ды нават ашаламляльныя выказванні:

— Вельмі мы рады, што ў Польшчы ёсць такое моцнае беларускае асяроддзе, якое хоча працаваць у карысць дэмакратыі ў Беларусі, — гаварыў абраны ад падляшскай структуры партыі Права і справядлівасць віцэ-маршалак Сената Кшыштаф Путра.

— Мы, палякі, доўга змагаліся за незалежнасць і дэмакратыю, нам дапамагалі краіны Захаду, — адзначыў Путра. — Сёння ў нас гістарычны доўг у адносінах да нашай суседкі, Беларусі. Важна, каб палякі ў Беларусі таксама маглі паслухаць роднае слова. Мы верым, што дэмакратызацыя Беларусі паўплывае на паляпшэнне ўмоў жыцця тамтэйшага грамадства.

Аднаўленне дзейнасці Радыё „Рацыя” гэта партнёрскі, агульнабеларускі праект. Пачаў ён ажыццяўляцца пасля сустрэчы з прэм’ер-міністрам Казімежам Марцінкевічам, які сёлета па запрашэнні Беларускага саюза гасцяваў на праваслаўнай Куцці ў Беластоку. Пакуль радыё вяшчае дзве гадзіны на сярэдніх хвалях 1080 кГц і частоце 1038 УКХ з Літвы. Пакуль чуваць яго толькі ў Беларусі. Цягам будучага месяца ўзнікнуць таксама беларускія і польскія перадачы для меншасцей па абодвух баках мяжы.

* * *

Мікола Маркевіч, праграмны шэф Радыё „Рацыя” (рэпрэсаваны рэдактар гродзенскай „Пагоні”) назваў падзею „святлом у цемры”:

— Беларусь уяўляе сёння сабой адзін вялікі канцлагер, — казаў ён. — Наша краіна глядзіцца ў крывое люстэрка лукашэнкаўскага тэлебачання і мы там не пазнаем сябе, не ведаем куды нам ісці, не ведаем што рабіць...

„Рацыя” — паводле Маркевіча — гэта добры сігнал, гэта святло, якое паказвае, што беларусы могуць зрабіць нармальную дэмакратычную краіну, у якой запануе справядлівасць і праўда.

Маркевіч звярнуўся таксама да ворагаў беларушчыны і дэмакратыі:

— Гэты дзень павінны адзначыць і тыя людзі, якія хочуць кінуць беларусаў на калені і трымаць іх у такім стане ўсё жыццё. Яны павінны пабачыць і зразумець, што з намі ўсе людзі добрай волі. Што з намі праўда! Што з намі справядлівасць! Што з намі Бог!

* * *

Хуткая рэактывацыя „Рацыі” невыпадковая. Аб’ектыўная незалежная інфармацыя мае зараз за задачу падмацаваць дэмакратычную апазіцыю ў час прэзідэнцкіх выбараў. У першай перадачы прагучала, між іншым, інтэрв’ю з Аляксандрам Мілінкевічам.

— Яшчэ некалькі тыдняў да Аранжавай рэвалюцыі на Украіне мала хто ў Польшчы верыў, што там магчымыя змены, — адзначыў міністр Адам Ліпінскі. Дэкларацыю салідарнасці з Беларуссю Ліпінскі падмацаваў канкрэтамі. Успомніў ён пра нядаўна рэактываваны Сеймам РП спецыяльны фонд, які будзе несці падтрымку народам Усходняй Еўропы.

— Гэты інстытут распараджаецца аграмадным бюджэтам, — запэўніў міністр. Паводле яго слоў, Радыё „Рацыя” — гэта доўгатэрміновы праект і незалежна ад вынікаў прэзідэнцкіх выбараў будзе далей працягваць сваю дзейнасць. Для гэтага ўжо падрыхтаваныя сродкі, якія забяспечаць рэалізацыю і развіццё ідэі. Пры нагодзе адзначыў заслугу Грамадзянскай платформы:

— Хаця ў апошні час між Правам і справядлівасцю ды Грамадзянскай платформай шмат разыходжанняў, то ў справе Беларусі мы аднадумцы.

* * *

Задавальнення з нагоды рэактывацыі радыё не скрывалі супрацоўнікі „Рацыі”:

— Для мяне гэта мае вялікае псіхалагічнае значэнне, — гаварыў Міхал Андрасюк, — гэта наяўны доказ таго, што мы можам нешта зрабіць, дабіцца поспеху і знайсці падтрымку. Яшчэ больш мацуе яго рэальная магчымасць несці падтрымку суродзічам з-за мяжы.

— Інфармацыя — гэта дэфіцытны прадукт, — перакананы Андрасюк. — Чалавек не можа быць вольным, калі не мае доступу да інфармацыі.

Мінская журналістка Яна Каменская, з-за непадпарадкавання цэнзуры два гады таму страціла працу.

— Галоўнае для мяне — гэта магчымасць працаваць на радыё журналістам. Перспектыва супольнай працы з мясцовымі беларусамі і палякамі, — мяркуе Яна Каменская, — цікавая і карысная.

**Ганна Кандрацюк**

# ЧЫТАЮЧЫ КУПАЛУ

## Прарок на тое і прарок, каб бачыць далёка наперад

Гартаючы збор твораў “Спадчына” Янкі Купалы, перачытаў верш, які асабліва ўражвае, прымушае моцна біцца сэрца. Напісаны ён у 1908 годзе, амаль стагоддзе таму. Але каб не ўказаная дата, не мог бы справіцца з адчуваннем, што вялікі Прарок Айчыны жывы і паклаў на паперу гэтыя ўзрушаныя радкі сёння, калі над Беларусюю навісла пагроза паглынання яе суседняй дзяржавай. Гэта ж яе эмісары гойсаюць тут як у сябе дома, ухваляюць тое, што ў нас творыцца, усяляк падтрымліваючы галоўнага “інтэгратара” абсурду і нібыта не бачачы рэальнасці: шальмавання і гвалтавання грамадскіх інстытутаў, дэмакратычных кандыдатаў на пасаду прэзідэнта... Арышты, суды, турмы, збіццё паважаных людзей, цкаванне ўсяго беларускага, пагроза знішчэння Саюза беларускіх пісьменнікаў з яго больш чым паўтысячай сяброў, якім сёння нават забаронена выступаць перад сваімі чытачамі; ліквідацыя беларускіх школ, Ліцэя, кафедраў ВНУ, — усюды і ва ўсім нечуваны здзек і гвалт, якія, можа, не сніліся і царскаму самаўладдзю. Божа міласэрны, якія ж цёмныя сілы запаланілі нашу прастору, не даюць вольна дыхнуць?!

...Глядзеў у тэлескрыні, як апантана бараніў нашага “бацьку” адзін з высокапастаўленых маскоўскіх эмісараў Барыс Грызлоў. Брыдка было бачыць яго ману, хоць згаданы пан і глядзеўся даволі прэзентабельна. Ведаючы, што розныя грызловы, селязнёвы, барадзіны, паўлоўскія і г.д. ніколі не “снизойдут”, каб чытаць беларускую дэмакратычную прэсу, я хоць віртуальна скажу ім: годзе, панове, соваць нос у чужы агарод! І перш чым павучаць іншых, прыгадайце знакамітую байку вашага класіка з актуальнай і сёння парадай: “не лучше ль на себя, кума, оборотиться?”

Абярніцеся і паглядзіце, да чаго вы, шаноўныя паны, “радетели” за лукашэнкаўскую Беларусь, давялі сваіх жа суайчыннікаў-расіян, асабліва ў глыбінцы. Мільёны іх, не знаходзячы ні ў мясцовых, ні ў вышэйшых уладаў праўды і справядлівасці, гібеюць у беспрасвецці і галечы. Іх лёсам распараджаюцца незлічоная армія усемагчымых чыноўнікаў і некалькі “алігархаў”... Няўжо вам, нястомныя ваяжоры з Расіі, няма чым заняцца ў сябе дома? Не трэба пасвіць нас, беларусаў, як статак, і гнаць, цягнуць у вялікі дурдом. Мы самі разбярэмся, як жыць, за каго галасаваць, як ладзіць сваю будучыню.

А вось і згаданы мною прарочы верш найвялікшага песняра Янкі Купалы.

### Беларушчына

Сотні лет, няпрыяцелем-братам прыбітая,
Зарастаючы зеллем чужым, як лазой сенажаць,
Ты ляжала няпамяці пылам пакрытая,
А народ твой быў змушан маўчаць і табой пагарджаць.

І круцілі цябе, як каму падабалася,
Кожны строіў, наводзіў на свой строй, на свой лад;
Ажно часам жальба, як кляцьба, разлягалася,
Ды нячутай ляцела, ўміраючы, ў грудзі назад.

Спаў народ, і ты спала, і ворагі верылі,
Што ніхто не разбудзіць цябе, што заснула навек.
І дзялілі цябе, ўсімі мерамі мерылі, —
Што памерла ўжо ты, — не адзін так казаў чалавек.

Час ішоў. К жыццю новаму клікі пачуліся;
Ўсе народы паўсталі на бітву за права свае.
Ты — як спала — ўскрасла, твае дзеці прачнуліся,
Твой народ, ты сама ўсталі новае строіць жыццё.

І цяпер хоць прыблудаў даносы ў ход пушчаны,
Хоць пад права твае падрываецца шмат хто, як крот, —
Як жыла і жывеш, будзеш жыць, Беларушчына:
Зразумеў і ўспомніў цябе твой мільённы народ.

Сціхнуць віхры, заціхне пара непагодная,
Сілы грозныя ўстануць, акрэпнуць к другому жыццю;
Панясуцца, як звон, песні вольныя, родныя,
Апяваючы долю, нядолю, народзе, тваю.

***

Што можа дадаць да гэтых мудрых слоў? Усё тут высвечана, бы на далоні. На тое і Прарок, каб бачыць далёка наперад. Ён несмяротны, пакуль будзе жыць у нашых сэрцах любая Бацькаўшчына.

Жыве Беларусь!

Алесь РЫБАК , пісьменнік

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

**УВАГА!**

Дзеля слабога стану здароўя выдаўца газэты ды іншых прычынаў, — ‘Беларускі Дайджэст’ будзе выходзіць нерэгулярна..

Дзякуем Усім за зразуменьне і супрацоўніцтва. М.П.

# Д. Буш: "Думкі нашай нацыі з тымі, хто быў затрыманы і кінуты ў турмы ў Беларусі"

Зварот Прэзыдэнта ЗША з нагоды 88-х угодкаў утварэньня БНР.



"Я вітаю ўсіх тых, хто працуе на карысьць вяртаньня свабоды і адзначае 88-я ўгодкі першай спробы ўсталяваць незалежнасьць Беларусі.

Свабода – гэта права, якое даецца кожнаму чалавеку па нараджэньні і дае пастаянную надзею ўсяму чалавецтву. Прага справядлівасьці, свабоды, павагі да правоў чалавека і надзейнага ды рэпрэзэнтатыўнага ўраду, зьяўляецца унівэрсальнай. Нацыі разьвіваюцца тады, калі таленты і свабоды квітнеюць, а не тады, калі яны падаўляюцца. Урады могуць натхніць грамадзтва і надаць уладу грамадзянам толькі праз захаваньне законнасьці, абмежаваньне ўлады дзяржавы, правядзеньне свабодных і справядлівых выбараў ды павагі да правоў усіх людзей.

Я з павагай стаўлюся да тых, хто працуе на карысьць вяртаньня свабоды ў Беларусі. Думкі нашай нацыі знаходзяцца з тымі, хто перасьледаваўся, быў затрыманы, кінуты ў турмы і зьбіты за свае намаганьні. Злучаныя Штаты асуджаюць дзеяньні беларускіх службаў аховы парадку раніцай 24 сакавіка і заклікаюць усіх сяброў міжнароднай супольнасьці далучыцца да нас і асудзіць любыя злоўжываньні, а таксама патрабаваць ад беларускіх уладаў паважаць права ўласных грамадзянаў мірна выказваць свае меркаваньні. Злучаныя Штаты Амэрыкі будуць і надалей падтрымліваць народ Беларусі і тых, хто дапамагае Беларусі заняць належнае месца ў дэмакратычнай судружнасьці".

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# Адкуль нашы прашчуры?

Да гэтага часу няма адзінага меркавання аб тым, як рассяляліся на землях Усходняй Еўропы славяне: адкуль яны прыйшлі, якімі шляхамі рухаліся, якую тэрыторыю займалі асобныя плямёны. Я бяру на сябе смеласць прапанаваць увазе чытачоў уласную версію-гіпотэзу. Археалагічныя раскопкі старажытных курганоў і гарадзішчаў прыблізна вызначаюць тэрыторыі славянскага рассялення, але, на маю думку, з дапамогай геаграфіі гэта можна вызначыць больш дакладна. І не толькі тэрыторыі, якія першапачаткова займалі асобныя славянскія і балцкія плямёны, але і акрэсліць этнічныя межы даўнейшага пражывання беларусаў — народа, які сфарміраваўся ва Усходняй Еўропе ў XIII—XIV стагоддзях пры зліцці асобных славянскіх і балцкіх плямёнаў.

Па меркаваннях большасці гісторыкаў, першапачаткова славяне жылі дзесьці ў басейнах еўрапейскіх рэк Эльбы і Одры (усходняя частка цяперашняй Германіі і заходняя — Польшчы).

На захадзе ад іх жылі плямёны германцаў, на ўсходзе — балтаў.

У V стагоддзі нашай эры славянаў з захаду пачалі цясніць германцы, і яны вымушаны былі шукаць для сябе новыя землі. Частка славян рушыла на поўдзень, дайшоўшы да Балканскага паўвострава (гэта цяперашнія славенцы, чэхі, славакі, харваты, сербы, балгары). Другая частка пачала рухацца на ўсход, абыходзячы з поўдня балцкія землі, і ў рэшце рэшт дасягнула Волгі і Дона, рассяліўшыся на велізарнай тэрыторыі.

Якімі ж шляхамі маглі рухацца славяне на ўсход? І адкуль яны прыйшлі на тэрыторыю будучай Беларусі? Як рассяляліся на ёй? Каб адказаць на гэтыя пытанні, трэба ведаць, як жылі славяне паўтары тысячы гадоў таму...

Гэта былі жыхары лясістых раўнін. Займаліся паляваннем. Лес даваў ім ежу і дровы, драўніну для пабудовы жытла. Земляробствам славяне тады займаліся яшчэ мала, як і развядзеннем хатняй жывёлы. У лясістай, а то і забалочанай мясцовасці адзінымі шляхамі перамяшчэння маглі быць толькі рэкі. На раўнінах яны ўтваралі густую сетку, сваімі прытокамі блізка падыходзячы адна да адной.

Вось гэтымі старажытнымі "дарогамі" і рухаліся на ўсход славяне. Плылі па рэках на лодках, але маглі рухацца ўздоўж іх пешшу, у тым ліку і зімою — па лёдзе. Толькі каля рэк у тыя часы знаходзіліся свабодныя ад густога лесу лугавіны з кармамі для хатняй жывёлы; зямля тут была больш урадлівай і прыдатнай для пасева.

Пачаўшы свой рух на ўсход дзесьці ў V стагоддзі з басейна Эльбы і Одры, першыя невялікія славянскія плямёны перабраліся адтуль у басейн Віслы, а потым і ў вярхоўі Заходняга Буга, абыходзячы з поўначы горы Карпаты. Гэтае перамяшчэнне ішло дзесяткі гадоў, цягам якіх славяне засялялі не толькі берагі гэтых рэк, але і прытокі.

Спускацца бліжэй да Балтыйскага мора па Віслe і Бугу славяне не маглі: гэтыя землі былі ўжо занятыя балцкімі плямёнамі. Таму наступная хваля перасялення рушыла далей на ўсход і выйшла да Прыпяці і яе паўднёвых прытокаў. Прыпяць для славян сталася падарункам лёсу — яна цякла з захаду на ўсход, і было лёгка плыць уніз па цячэнні. Хутчэй за ўсё ў час першага перамяшчэння ўздоўж гэтай ракі моцна забалочаная раўніна не зацікавіла перасяленцаў, таму што гісторыкі знайшлі тут толькі некалькі сведчанняў жыцця славян, якія адносяцца да VI стагоддзя — часу іх першага прыходу на сучасную тэрыторыю Беларусі. Але па Прыпяці славяне дабраліся да Дняпра і рассяліліся ўніз па яго цячэнні аж да ўпадзення ў Дняпро прытокаў Росі і Сулы (гэта 200—250 кіламетраў на поўдзень ад сённяшняга Кіева). Тут балот ужо не было, клімат стаў больш цёплым, а зямля ўрадлівай. Далей на поўдзень славяне не пайшлі — там заканчвалася зона лесу і лесастэпу, і пачыналіся бязмежныя стэпы, жыць у якіх яны ў тыя часы не ўмелі. Дарэчы, паходжанне назваў рэк Рось і Сула так і не растлумачана дакладна вучонымі. А паколькі рэкі з такімі з назвамі ёсць і ў басейне Нёмана — на другой мяжы славянскага рассялення, то гэтыя назвы могуць абазначаць пагранічныя землі ці воды.

Апынуўшыся ў басейне Дняпра, у больш спрыяльных умовах, славянскае насельніцтва пачало павялічвацца. У VII стагоддзі частка яго рушыла ўверх па цячэнні Дняпра і яго прытокаў — Дзясны, Прыпяці, Сожа, Бярэзіны, Друці. Да гэтага магла далучыцца і новая хваля перасяленцаў з тэрыторыі Заходняй Еўропы.

Дайшоўшы да вярхоўя вялікай ракі і абыходзячы з усходу землі балтаў, па прытоках гэтых рэк славяне перабраліся ў басейн Акі і Заходняй Дзвіны. Засяліўшы верхнюю частку басейна Заходняй Дзвіны і не маючы магчымасці рухацца далей на захад, частка славян перабралася ў басейн Ловаці і па ёй і Волхаву да X стагоддзя дайшла аж да Ладажскага возера. Пасля гэтага прадоўжылася славянская каланізацыя на ўсход: з басейна Ловаці і Заходняй Дзвіны асобныя групы славян перабраліся ў басейн Волгі і пачалі там рассяляцца.

З тых часоў — пасля X стагоддзя — да нас ужо даходзяць першыя пісьмовыя звесткі аб усходнеславянскіх плямёнах (палянах, валынянах і бужанах, драўлянах і севяранах, крывічах і дрыгавічах, радзімічах і іншых). У старажытных славянскіх летапісах упаміналіся і асобныя балцкія плямёны — яцвягі, літва, прусы, латгалы, эсты, нальшаны і іншыя. Упамінаюцца ў іх і першыя гарады славян — Кіеў, Полацк, Ноўгарад, Смаленск, Валынь, Гомель, Чарнігаў, Корасцень, Тураў. На самай справе такіх гарадоў было значна больш, проста назвы не ўсіх дайшлі да нашага часу, і толькі археалагічныя раскопкі дазваляюць даць уяўленне аб тым, якімі яны былі.

Найбольш важныя гарады славян, будучыя сталіцы земляў і княстваў, размяшчаліся на галоўных рэках — Дняпры, Дзясне, Бугу, Сожы, Прыпяці, Дзвіне, Волхаве, Ацэ, дазваляючы лёгка дабірацца па вадзе да гэтага горада з любога прытоку ў рачным басейне.

Кожнае славянскае племя часцей за ўсё займала поўнасцю басейн якой-небудзь ракі. Басейны больш вялікіх рэк займалі некалькі плямёнаў. Так, бужане рассяліліся ў вярхоўях Заходняга Буга, валыняне і дулебы — на паўднёвых прытоках Прыпяці (магчыма, яны займалі толькі басейн Стыры, а басейн Гарыні — дулебы), паляне — на прытоках сярэдняй часткі Дняпра, драўляне — у басейне Ужа і Цецерава, севяране — Дзясны, радзімічы — Сожа, дрыгавічы — Прыпяці, Бярэзіны і Друці, полацкія крывічы — Заходняй Дзвіны, смаленскія крывічы — у верхняй частцы басейна Дняпра, славяне — Ловаці і Волхава. Адпаведныя басейны рэк ці толькі іх часткі займалі і іншыя славянскія, а таксама балцкія плямёны. Калі якое-небудзь племя займала акрамя "свайго", і басейн суседняй ракі, то яно пачынала дзяліцца на часткі. Напрыклад, крывічы падзяліліся на полацкіх, смаленскіх і пскоўскіх.

Займаючы басейн ці частку аднаго басейна ракі, лягчэй было падтрымліваць адносіны ўнутры племя, таму што ўсе прытокі выходзілі да галоўнай ракі і з аднаго прытока па вадзе можна было папасці ў другі. Гэта пазней, у XII—XIII стагоддзях, славяне пачалі высякаць у лясах дарогі, злучаючы паміж сабою прытокі больш кароткімі, сухапутнымі шляхамі.

Галоўныя гарады кожнага славянскага племені знаходзіліся на галоўных рэках: ці пасярэдзіне тэрыторыі рассялення (Кіеў, Полацк, Ноўгарад, Тураў і іншыя); ці на ўскрайку, але ў нізоў'і ракі (Чарнігаў, Смаленск, Гомель, Разань і іншыя).

Абвёўшы басейны адпаведных рэк, мы можам даволі дакладна вызначыць тэрыторыі рассялення кожнага славянскага, ды і балцкага племені.

На рассяленне ўсіх народаў Зямлі ў старажытнасці вялікі ўплыў аказвалі прыродныя перашкоды — горы, берагі мораў і праліваў. А для народаў на раўнінах такімі перашкодамі былі водападзелы (паласа ўзвышшаў ці высокіх раўнін), якія аддзялялі басейны рэк. Таму і сённяшнія дзяржавы, створаныя гэтымі народамі пазней, сваімі межамі часта ўпіраюцца ў гэтыя прыродныя перашкоды: Грузія, Вялікабрытанія, Італія, Іспанія, Чэхія. У тых дзяржаў, якія знаходзяцца на раўнінах (Беларусь, Украіна, Літва, Латвія, Германія, Польшча), яшчэ даволі добра прасачоўваецца, басейны якіх рэк яны займалі першапачаткова. І гэта — нягледзячы на тое, што прайшло шмат стагоддзяў і межы амаль усіх еўрапейскіх дзяржаў неаднаразова змяняліся.

Выяўляючы адпаведныя басейны рэк, можна, дзеля вылучэння дапісьмовай гісторыі, узнавіць раёны былога рассялення сучасных народаў. Што я і паспрабаваў зрабіць адносна беларускага.

Беларусы як адзіны народ фарміраваліся з XIII—XIV стагоддзяў пры зліцці шасці асноўных плямёнаў, насяляўшых басейны Дняпра, Нёмана, Заходняй Дзвіны і Буга. Чатыры з іх былі славянскімі: полацкія і смаленскія крывічы, дрыгавічы і радзімічы; два — балцкімі: яцвягі і літва. Зліццё плямёнаў адбылося дзякуючы ўтварэнню адзінай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Жамойты (жмайты) былі далучаны да Вялікага княства толькі ў XV стагоддзі, таму значнага ўплыву на асаблівасці беларускага (ліцвінскага) народа не паспелі аказаць. Думаю, няма ўжо патрэбы тлумачыць, што "Літоўскае" ў назве княства абазначала тэрыторыі басейна Нёмана, занятыя змешаным балцкім насельніцтвам. А "Рускае" — тэрыторыі басейнаў Дняпра і Заходняй Дзвіны з пераважна славянскім насельніцтвам (русамі).

Узнаўляючы тэрыторыі гэтых шасці плямёнаў, можна ўстанавіць і межы этнічных беларускіх земляў (гл. карту 2). Беларусаў нельга адносіць да чыста славянскіх народаў, гэтак жа, як і ўкраінцаў, рускіх, палякаў, сербаў і іншых. Усе яны, прыходзячы на новыя землі, змешваліся з мясцовым неславянскім насельніцтвам і потым ўтваралі новы народ. Так што, дапускаю, мы хутчэй — балта-славяне ці балта-русы.

Такім чынам, тэрыторыя этнічных беларускіх земляў ахоплівае верхнія часткі басейна Дняпра (з Прыпяццю, Сожам і Бярэзінай), Заходняй Дзвіны і Нёмана, а таксама сярэднюю частку басейна Заходняга Буга (з Наравам). Гэта даволі блізка да той тэрыторыі, якую паказваюць на сваіх картках гісторыкі. Тэрыторыі, якія займалі асобныя плямёны ў старажытнасці, таксама добра вызначаюцца па карце. Межы гэтых тэрыторый праходзілі па водападзелах і аддзялялі басейны адных рэк ад іншых. Але гэта межы толькі першапачатковага рассялення. Пазней, калі пачалі з'яўляцца першыя дзяржавы-княствы, яны маглі змяняцца ў выніку захопаў і далучэнняў.

На карце добра вымалёўваюцца першапачатковая тэрыторыя радзімічаў (поўнасцю басейн Сожа), полацкіх і смаленскіх крывічаў (верхнія часткі басейнаў Заходняй Дзвіны і Дняпра адпаведна). Самую вялікую тэрыторыю займалі дрыгавічы (басейны самога Дняпра і яго правых прытокаў Прыпяці, Бярэзіны і Друці). Раней дрыгавічы павінны былі займаць яшчэ большую тэрыторыю, аж да ўпадзення Прыпяці ў Дняпро, таму што было выгадна па рэках перабірацца з Дняпра ў басейн Прыпяці. Але абараняць такую вялікую тэрыторыю было вельмі складана, таму ў перыяд фарміравання першых дзяржаў яны і страцілі больш за ўсё земляў. Паўднёвая мяжа рассялення дрыгавічоў праходзіла па паласе ўзвышшаў — Валынскай градзе і Оўручскім кражы, аддзяляючы іх землі ад земляў валынян і драўлян.

Складаней устанавіць раёны пражывання

балцкіх пляменаў — яцвягаў і літвы. Пісьменнасць у іх з'явілася пазней, чым у славянаў, і таму мы валодаем меншымі звесткамі пра раёны іх пражывання. Яцвягі першапачаткова павінны былі засяляць амаль увесь басейн Заходняга Буга. Але пазней, цяснімыя з поўдня славянамі, перасунуліся ўніз па цячэнні і да моманту рассялення дрыгавічоў займалі толькі басейн ніжняга цячэння Буга (пачынаючы ад раёна сённяшняй Тамашоўкі, прыкладна там, дзе праходзіць беларуска-ўкраінская мяжа ці, калі браць прыродныя перашкоды, Люблінскае ўзвышша і Валынская града). На ўсходзе яцвягі межавалі з дрыгавічамі і літвой.

Племя літва займала верхнюю частку басейна Нёмана да ўпадзення ў яго Котры. Басейн верхняй Віліі маглі займаць літва ці больш дробныя балцкія плямёны (нальшаны, аўкшайты, дзяволтва), аб месцах пражывання якіх мала ўпаміналася ў славянскіх летапісах. Заходняя мяжа рассялення літвы магла праходзіць між прытокамі Нёмана Котрай і Мяркіс, а па Віліі — паміж яе прытокамі Ашмянкай і Жэўмянэ, дзе якраз праходзіць лінія водападзелу — Балтыйская града, якая працягнулася з паўночнай Польшчы паўз Гродна і Вільнюс да г.Даўгаўпілса на Дзвіне. Па гэтай градзе праходзіла і лінія раздзелу паміж полацкімі крывічамі і латгаламі.

Кожнае славянскае племя імкнулася засноўваць свае гарады не толькі ў сярэдзіне сваіх земляў, але, зыходзячы з ваенна-стратэгічных мэтаў, паблізу межаў свайго рассялення. Часцей за ўсё гэта былі верхавіны прытокаў, якія служылі асноўнымі дарогамі ў тыя часы.

Аналізуючы карту, можна выявіць і асноўныя накірункі славянскай каланізацыі балцкіх земляў у X—XIII стагоддзях. З поўдня, па Заходнім Бугу, на землі яцвягаў, а потым і заходнія землі літвы насоўваліся валыняне. У месцах новай каланізацыі яны будавалі свае гарады-крэпасці: Брэст, Камянец, Кобрын, Гродна, Ваўкавыск і іншыя.

З усходу стараліся прыдбаць землі балтаў дрыгавічы і полацкія крывічы, таксама будаваўшыя гарады-крэпасці: Слонім, Турыйск, Навагрудак, Нясвіж, Крытагор'е (зараз Дзяржынск), Герцыке, Кукенойс і іншыя. Сёння ў гэтых месцах параскідана шмат гарадзішчаў, большасць з якіх пакуль не даследавана.

Падводзячы вынікі, можна сказаць, што славяне прыйшлі на тэрыторыю Беларусі ў VI—VII стагоддзях з паўднёвага захаду па Прыпяці і яе паўднёвых прытоках. Потым яны рассяліліся па басейнах Дняпра і Заходняй Дзвіны, будуючы свае гарады і ствараючы першыя дзяржавы. Зліўшыся з балтамі, што жылі ў басейнах Нёмана і Заходняга Буга, яны стварылі адзін з самастойных і адметных еўрапейскіх народаў — ліцвінаў-беларусаў з самабытнай мовай і культурай, сягаючай у глыбіні стагоддзяў. І хаця тэрыторыя нашай дзяржавы не супадае сёння з этнічнымі беларускімі землямі, гэта ўсё ж такі наша дзяржава, гісторыю ўзнікнення якой мы павінны вывучаць і добра ведаць.

Станіслаў ХОЛЕЎ, настаўнік.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# Няўжо будзе ліквідаваны Саюз, членамі якога былі Янка Купала, Якуб Колас, Кузьма Чорны?..

У Гаспадарчым судзе Мінска павінна працягнуцца слуханне справы па іску Галоўнага гаспадарчага ўпраўлення (ГГУ)Кіраўніцтва справамі прэзідэнта да Саюза беларускіх пісьменнікаўю

Прэзідэнцкія чыноўнікі лічаць, што за карыстанне маёмасцю адказчык павінен аплаціць доўг у суме 55,5 мільёна рублёў па стаўках арэнднай платы альбо вызваліць займаемыя памяшканні.

Наступленне на нелаяльны да ўладаў Саюз беларускіх пісьменнікаў пайшло адразу па некалькіх франтах.

— 3 сакавіка ў Вярхоўным судзе Беларусі будзе разглядацца яшчэ і іск Міністэрства юстыцыі да Саюза пісьменнікаў Беларусі аб ліквідацыі апошняга, — паведаміў карэспандэнту “Народнай волі” старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Алесь ПАШКЕВІЧ. — Па меркаванні Мінюста, адна з “цэнтральных” правінаў нашага Саюза ў тым, што на будынку Дома літаратара, дзе размяшчаецца Саюз беларускіх пісьменнікаў, вісіць шыльда з выявай герба “Пагоня” (незарэгістраваная сімволіка). Другая прэтэнзія — што некалькі месяцаў мы выкарыстоўвалі пячатку, якая не адпавядала заканадаўству. Я, калі стаў старшынёй Саюза беларускіх пісьменнікаў, аб гэтым не ведаў, аднак адразу ж пасля таго, як Міністэрства юстыцыі пісьмова папярэдзіла нас аб гэтым, пячатку мы змянілі. І трэцяя прэтэнзія амаль анекдатычная — Саюзу беларускіх пісьменнікаў прыпісваюць правядзенне ў Доме літаратара з'езда Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада). Аніякім дакументам гэта не пацверджана, аніводнага члена Саюза беларускіх пісьменнікаў на гэтым з'ездзе не было.

“Сітуацыя зразумелая — уладамі ўзяты курс на ліквідацыю Саюза беларускіх пісьменнікаў, — гаворыць народны паэт Беларусі Ніл ГІЛЕВІЧ. — І гэта частка курса на згортване ўсяго руху за нацыянальнае адраджэнне Беларусі. Атрымліваецца, што ўладзе не патрэбны сапраўды патрыятычныя беларускія арганізацыі. Ім патрэбны іншыя ўстановы. Усе тыя, якія будуць служыць гэтай уладзе, працаваць на яе, усхваляць і дзьмуць у адну дуду. У якую штодня дзьмуць дзяржаўныя тэлебачанне, радыё і прэса. Пакуль у нас у краіне не зменіцца карэнным чынам сітуацыя, трэба і надалей чакаць такіх недарэчных і нялюдскіх акцый. Што далей будзе з Саюзам беларускіх пісьменнікаў? Тады ўжо і будзе вырашацца, калі не дай Бог Мінюст прыме рашэнне аб ліквідацыі пісьменніцкай арганізацыі. Аднак заўсёды ж у такіх сітуацыях хочацца верыць — а раптам агледзяцца, а раптам усаромеюцца. Таму што занадта ж неверагоднае, занадта ж нялюдскае тое, што адбываецца. Ліквідаваць Саюз, сябрамі якога былі Янка Купала, Якуб Колас, Кузьма Чорны, Кандрат Крапіва, Міхась Лынькоў, Аркадзь Куляшоў, Максім Танк, Пятрусь Броўка, Пімен Панчанка, Іван Мележ, Васіль Быкаў, Уладзімір Караткевіч... Гэта сотні імён вялікіх творцаў. У якой яшчэ краіне можа быць, каб такі Саюз быў ліквідаваны? Тут, як кажуць, каментарыі не патрэбны”.

Алесь СІВЫ.

**************************************************

# Ніл Гілевіч: «Сам Бог з намі. Значыць, перамога за намі»

"Я вельмі абураны тым, як улады абышліся з людзьмі, што выйшлі засведчыць сваё законнае права на свабоду, на справядлівасць. Тым больш, гэта выглядае непрыстойна, што адбываецца ў дзень вялікага свята беларускага народа 25 сакавіка. Марныя ўсе гэтыя высілкі людзей, якія фальсіфікуюць не только выбары, а ўсе, што можна фальсіфікаваць. Нічога гэтым яны не даб`юцца. Такім спосабам гвалту, разбою, праўду не задушыць і сапраўдную волю не задушыць. І ўладам не хапае ня толькі элементарнага сумленьня, і розума не хапае, каб вось гэтае зразумець. Ганарыцца трэба тымі нашымі грамадзянамі, якія не могуць цярпець гвалту і здзеку і выходзяць, каб заявіць свой пратэст. Асабліва трэба ганарыцца маладымі людзьмі. Як жа ня сорамна пра гэтую слаўную, патрыятычную моладзь казаць такія гнуснасці, якія колькі дзен гучаць па дзяржаўнаму тэлебачанню? І ўсё-такі за ўсе гэта прыйдзецца плаціць -- гэтага не даруюуь ні людзі, ні Бог. Так нельга абыходзіцца са сваім народам. Народ за гісторыю сваю заслужыў іншай долі, свабоднага жыцця. Я хачу пажадаць усім: і моладзі, і усім, хто разумее наша становішча -- каб не падалі духам, не верылі ашуканцам і правакатарам, каб стойка трымаліся сваёй пазыцыі, бо увесь прагрэсіўны дэмакратычны свет з намі. І сам Бог з намі. Значыць, перамога за намі. Жыве Беларусь!", -- заявіў Народны пісьменнік Беларусі Ніл Гілевіч для прэсавага цэнтру Хартыі-97, каментуючы жорсткі разгон мірнай дэманстрацыі ў Менску ў Дзень Волі.

**************************************************

## БЕЛАРУСКУЮ АПАЗІЦЫЮ ТРЭБА "АКТЫЎНА І ДОЎГА" ПАДТРЫМЛІВАЦЬ

Яшчэ адная газэта, **"Financial Times Deutschland"**, лічыць, што важнейшым ад магчымых наступстваў ёсьць “актыўная і доўгатэрміновая” падтрымка для беларускай апазыцыі. “У гэтым кірунку існуюць вялікія недапрацоўкі – а мусіць паўстаць інстытуцыя, якая б гэтым займалася”. Меркаваньнем газэты, лічба такіх праектаў і інстытуцыяў будзе іспытам, які пакажа, чаго вартыя дэкляраціі Брусэля і Бэрліну пра салідарнасьць з беларускай дэмакратычнай апазыцыяй.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# **Мітынг салідарнасці з беларусамі ў Таронта**

*26 сакавіка на цэнтральнай плошчы Таронта перад гарадской управай “Сіці Гол” адбыўся шматлюдны мітынг, прысвечаны 88-м угодкам БНР і ў знак пратэсту супраць гвалту і перасьледаў ў Беларусі. На ім выступілі старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла,сакратар прэм’ер-міністра Канады Джэйсан Кэні, дэпутаты парлямэнту Борыс Вжэснеўскі і Пэггі Нэш, пісьменьніца Вольга Іпатава і іншыя.*

“Мы ведаем, як цяжка давялося пераадольваць наступствы таталітарызму на Украіне, і мы будзем пераконваць нашых парламентароў больш увагі удзяляць такім жа працэсам у Беларусі” – сказаў Борыс Вжэснеўскі.

Мітынг пачаўся гімнам “Мы выйдзем шчыльнымі радамі”, а закончыўся неўміручымі радкамі песьні “Магутны Божа”, якія спявалі не толькі удзельнікі гурту “Яваровыя людзі”са Згуртаваньня беларусаў Канады, але і ўся плошча. Арганізатары мітынгу падрыхтавалі вялікія стэнды з фатакарткамі апошніх гвалтоўных дзеянняў улад Беларусі, каля якіх тоўпілася мноства людзей. “Мы з вамі, беларусы!” – гаварылі канадыйцы, што таксама прыйшлі на мітынг у падтрымку дэмакратыі ў краіне “апошняй дыктатуры ў Еўропе.”

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# ЕЗ увёў санкцыі супраць Беларусі і прэзідэнта Лукашэнкі

Краіны-удзельніцы ЕЗ выступілі за ўжыванне санкцый супраць Беларусі. Еўрасаюз абвясціў аб .гэтых санкцыях супраць рэжыму Лукашэнкі. З сумеснай ініцыятывай ужывання санкцый выступілі 9 краін-удзельніц Еўрасаюза: Польшча, Славакія, Вугоршчына, Чэхія, Славенія, Літва, Латвія, Эстонія, Данія.

Еўрасаюз уводзіць персанальныя санкцыі супраць прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі. Меры будуць прынятыя супраць тых кіраўнікоў Беларусі, хто адказвае за парушэнне міжнародных выбарчых стандартаў. Гаворка ідзе аб павелічэнні спісу асоб у кіраўніцтве краіны, якім будзе забаронены ўезд у краіны Еўрасаюза. Не выключана і замарожванне рахункаў, якія належаць беларускім уладам. Аднак поўнамаштабныя эканамічныя санкцыі супраць Беларусі ЕЗ не ўводзіць.

Кіраўнікі дзяржаў і ўрадаў краін Еўрапейскага Звяза дамовіліся пашырыць забарону на паездкі беларускіх службоўцаў у краіны ЕЗ, які зараз распаўсюджваецца на шэсць беларускіх службовых асобаў: экс-генпракурор, цяпер кіраўнік адміністрацыі прэзідэнта Віктар Шэйман, кіраўнік МУС Уладзімір Навумаў, былы міністр спорту Юрый Сіваков, камандзір брыгады ўнутраных войскаў Зміцер Паўлічэнка, кіраўнічка ЦВК Лідзія Ярмошына і камандзір менскага АМАПа Юрый Падабед.

**************************************************

## "БАЦЬКА ЛУКАШЭНКА"...?!

*Аляксандр Лукэшенка ў трэці раз перамог на прэзіденцкіх выбарах у Беларусі. Па дадзеным Центрвыбаркама, ён набрал 82,6 працэнта. Апазіцыя сцвярджае, што бацька насамрэч не здолеў перамагчы у першым туры, набраў, паводле дадзеных exit polls, не больш за 45 працэнтаў, і, такім чынам, легітымнасць яго мандата пад пытаннем. Назіральнікі адзначаюць, што 60 працэнтаў усіх выбарнікаў у сельскіх раёнах прагаласавалі датэрмінова, а ў цэлым па краіне 30 працэнтаў выказалі сваю волю да афіцыйнага дня выбараў. Як галасавалі, дзе галасавалі, чаму галасавалі датэрмінова і ці галасавалі наогул гэтыя самыя перадавікі галасавальнай вытворчасці – сакрэт...*

**************************************************

# Перамога Лукашэнкі незаконная

Сталая Камісія Парлямэнцкай Асамблеіі NATO ў часе паседжаньня ў Гдыні ў адмысловай рэзалюцыі заклікала правесьці ў Беларусі паўторныя прэзыдэнцкія выбары, прызнаўшы, што перамога цяперашняга кіраўніка краіны 19 сакавіка незаконная.

Галоўная адметнасьць рэзалюцыі Сталай Камісіі Парлямэнцкай Асамблеі NATO ў тым, што ў ёй утрымліваецца заклік да Расеі – далучыцца да галасоў дэмакратычных краінаў сьвету ў ацэнцы беларускіх выбараў і націснуць на рэжым Лукашэнкі, каб той “пачаў працэс грамадзкіх рэформаў”.

Паводле прадстаўніка Польшчы ў Камісіі, дэпутата Сэйму Марыяна Пілкі, гэта “фактычна азначае, што на Расею ўскладаецца адказнасьць за сытуацыю ў Беларусі”.

Удзельнікі паседжаньня Сталай Камісіі, якое было закрытым для мэдыяў, вырашылі запрасіць кандыдата ад аб’яднаных дэмакратычных сілаў Аляксандра Мілінкевіча на сэсію Парлямэнцкай Асамблеі NATO, што адбудзецца сёлета ў траўні ў Парыжы.

У склад Парлямэнцкай Асамблеі NATO ўваходзяць каля 400 дэпутатаў з 26 краінаў-сяброў Паўночна-атлянтычнага альянсу і 15 краінаў, якія маюць статус назіральнікаў.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

## **Чацьвёра грамадзян Беларусі маюць узрост больш за... 115 гадоў**

Як паведамілі ў Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны, у пачатку гэтага года ў Беларусі налічвалася 767 чалавек, якія маюць узрост 100 і болей гадоў. Пры гэтым цікава, што пераважная большасць доўгажыхароў нашай краіны (676 чалавек) — жанчынамі. І толькі 91 — прадстаўнікамі «моцнай» паловы чалавецтва.

Не менш адметна, што найбольшая колькасць доўгажыхароў налічвалася ў Гродзенскай і Мінскай абласцях (188 і 156 чалавек адпаведна), а найменшая — у сталіцы (49). Адначасова ўзрост 100 і болей гадоў мелі 116 жыхароў Брэстчыны, 105 — Віцебшчыны, 80 — Гомельшчыны і 71 — Магілёўшчыны. Дарэчы, паводле звестак Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, у пачатку 2006 года 21 грамадзянін нашай краіны меў узрост ад 110 да 115 гадоў, а ўзрост яшчэ 4 чалавек перавышаў 115-гадовую адзнаку.

**************************************************

# ВЕК ГІСТОРЫКА МІКАЛАЯ УЛАШЧЫКА

**Вера Сабковіч**

***Знаны беларускі гісторык, дасведчаны краязнаўца, таленавіты аўтар Мікалай Мікалаевіч Улашчык нарадзіўся у 1906 годзе, сканаў ён у лістападзе 1986-га. З гэтых васьмідзесяці гадоў поўных 12 гадоў яму давялося правесці ў турмах, ссылцы і гулагаўскіх лагерах, а самыя прыдатныя гады для творчай працы - болей за чвэрць стагоддзя - прайшлі ў атмасферы сталінскіх паляванняў на нацыянальную інтэлегенцыю і вольную думку. Па-сутнасці, плённай навуковай творчасцю ён змог прысвяціць сябе, калі 49-гадовым чалавекам быў вызвалены з лагера і рэабілітаваны. За якія грахі сядзеў, за што над ім здзекаваліся ўлады - ніхто не дасць адказу. Ні за што, проста так, бо век быў звярыны, і кіраваў краінай, што займала адну шостую частку Зямлі, бязлітасны чалавеканенавіснік. Можна сказаць, што Мікалаю Улашчыку яшчэ пашанцавала - не замардавалі насмерць, не змарылі голадам, не расстралялі, як мноства яго равеснікаў, сяброў і знаёмых.***

У 1956 годзе з ініцыятывы Хрушчова прагучалі афіцыйныя лічбы ахвяраў масавых рэпрэсіяў у 1935-1940 гадах: было арыштавана па абвінавачванні ў "антысавецкай дзейнасці" 1.920.635 чалавек, з іх расстралялі 688.503 чалавека. Мог быць сярод гэтых 700 тысячаў забітых і наш адораны зямляк. Дзякаваць Богу, такі лёс - куля ў патыліцу - яго абмінуў.

Нарадзіўся Мікалай Улашчык 1 лютага (па старым стылі) 1906 года на Койданаўшчыне, у вёсцы Віцкаўшчына, што была за 20 ад Мінска, ў шматдзетнай сям'і (сем дзяцей). Да паступлення ў БДУ ў 1924 годзе Мікалай пачаў працаваць у Кніжнай палаце Беларускай дзяржаўнай бібліятэкі. У 1926 годзе ў Дзяржаўную бібліятэку прыйшоў новы супрацоўнік, які толькі вярнуўся з эміграцыі, асоба заслужоная і цяпер вядомая ў нашай гісторыі - кіраўнік слуцких паўстанцаў Уладзімір Пракулевіч. Было што пачуць ад яго цікаўнаму да гісторыі роднага краю студэнту.

Сярод даследчыкаў існуе меркаванне, што пад час працы ў Дзяржаўнай бібліятэцы Мікалай Улашчык пашчасціла адшукаць купалаўскі аўтограф - словы, якімі паэт адгукнуўся на савецка-польскія падзелы Беларусі па Рыжскім міру 1921 года, калі новай Беларускай ССР пакінулі 52,3 тысячы кв. кіламетраў і 1,353 млн чалавек насельніцтва (паводле перапісу 1920 года): „Далі шэсьць паветаў, дзякуй і за гэта" - і запусціў гэтую крылатую фразу песняра ва ўжытак.

Здаўшы ўсе іспыты на сацыяльна-гістарычнае аддзяленне педагагічнага факультэта, Улашчык, аднак, у кастрычніку 1924 г. быў выкраслены са складу студэнтаў, паколькі паступіла скарга, што яго бацька нібыта кулак і "эксплуататар". Улашчык здолеў аднавіцца ў студэнтах толькі з дапамогай знаных гісторыкаў - Ігнатоўскага і Пічэты, але "кулацкі" цэнь, кінуты на яго, паспрыяў таму, што яго абавязалі аплочваць навучанне ў адрозненне ад "рабоча-сялянскай" моладзі.

Час ішоў, набліжаліся гады калектывізацыі, пачаўся наступ на беларусізацыю з усімі рэпрэсіўнымі наступствамі. Нарэшце ў 1930 годзе атрымала ход гучная справа сфальшаванага чэкістамі гэтак званага "Саюза Вызвалення Беларусі". Мэтай гэтай жорсткай і несумленнай акцыі быў разгром беларускай інтэлегенцыі. Не абмінулі пільныя органы ўвагай і Мікалая Улашчыка. Арыштам спрыяла створаная ў краіне татальная сістэма даносаў, у якую ўцягваліся ўсе "свядомыя савецкія грамадзяне". Як пазней узгадваў Улашчык, вуліцы Мінска ў той час стракацелі абвесткамі такога ганебнага кшталту: "У такі дзень чыстку будзе праходзіць такі-то, давайце на яго кампраметуючыя матэрыялы".

Яшчэ да 1930 года савецкая Беларусь зведала такія працэсы над нацыянальнымі культурнымі, палітычнымі і рэгігійнымі дзеячамі, што ніхто не мог памыляцца адносна справядлівасці савецкіх карных органаў. Прыкладам , узімку 1922 года па прыгаворах савецкіх карных органаў былі расстраляныя 1691 святар, 1962 манахі, 3447 манахіняў і паслушніц. У 1927 годзе быў арыштаваны і прысуджаны да 10-гадовай высылкі на Салаўкі драматурга Францішка Аляхновіча, які даверыўся абяцанкам бальшавікоў і вярнуўся ў Савецкую Беларусь з Вільні годам раней. Са студзеня 1930 года ў Беларусі пачалося раскулачванне каля 19.000 сялянскіх гаспадарак - палова ад іх агульнай колькасці. Усяго пазбаўлена правоў і падпала пад высяленне ў Сібір каля 700 тысяч сялянаў, абвешчаных "кулакамі" і "міраедамі".

Наўрад ці прыроджаны розум дазваляў Мікалаю Улашчыку мець ружовыя ілюзіі наконт сапраўднага характару тагачаснай савецкай улады. Каб ўратавацца ад рэпрэсіяў, Улашчык перабіраецца ў Маскву, а адтуль - у Ленінград да свайго старэйшага брата Канстанціна. За гэты час мінскае чэкісцкае следства пачынае інкрымінаваць менавіта яму кіраўніцтва маладзёвым крылом сфантазіраванага "Саюза Вызвалення Беларусі". Чэкісты абвяшчаюць яго ва ўсесаюзны вышук. У следчыя органы выклікаюць Канстанціна, які працаваў інжынерам на заводзе. Ратуючы брата, Мікалай Улашчык добраахвотна ідзе да чэкістаў з павіннай. Яго арыштоўваюць 12 чэрвеня 1930 года і перавозяць у Мінск, дзе ён трапляе ў сумнавядомую "амерыканку". У гэты час, 18 ліпеня, у Мінску арыштоўваюць пісьменніка, акадэміка, былога прэм'ера БНР Вацлава Ластоўскага па абвінавачанню ў кіраўніцтве неіснуючай "нацдэмаўскай" арганізацыяй "Саюз Вызвалення Беларусі". Праз дзень у камеры патрапілі 108 чалавек буйнейшай беларускай інтэлегенцыі, у тым ліку акадэмікі Язэп Лёсік і Сцяпан Некрашэвіч, прафесар Аркадзь Смоліч. 13 верасня там жа апынуўся вядомы гісторык акадэмік У.Пічэта. 20 лістапада пасля выкліка на допыт народны паэт Янка Купала, якога органы ДПУ планавалі абвінаваціць у кіраўніцтве неіснуючым "Саюзам Вызвалення Беларусі", зрабіў замах на самагубства.

Такія вязні і такія нешчаслівыя вескі прыходзілі ў "амерыканку" з волі. У камеры Мікалай Улашчык тры месяцы сядзіць разам з Іванам Цвікевічам, потым яго пераводзяць у адну камеру з Вацлавам Ластоўскім. Уся творчая эліта нацыі была сабрана і напакавана ў каморы пад дахам турмы. Улашчыку галоўнае было не зламацца, праходзячы праз усе колы чэкісцкага пекла. Краязнаўчая праца, якая на пачатку 20-х гадоў здавалася натуральнай праявай цікавасці да роднага краю, у 1930 годзе была прызнаная шкоднай, антынароднай і антысавецкай. У красавіку 1931 года прагучаў прысуд. Згодна з артыкуламі 58-10 (антысавецкая прапаганда і агітацыя) і 58-11 (арганізаваная дзейнасць, накіраваная на падрыхтоўку і здзяйсненне злачынстваў) Мікалай Улашчык быў сасланы ў Налінск, што ў Вяцкай вобласьці. Тут ён прабыў тры гады, а потым быў высланы ў Сібір, у "сталіцу" сібірскіх канцлагераў - Марыінск (да месца ўзгадаць, што праз 8 год у Марыінску памрэ першы выдавец і рэдактар "Нашай Ніві" Аляксандр Уласаў).

5 лютага 1935 году тэрмін пакарання Мікалая Улашчыка нарэшце скончыўся. За гэты час зведаў ссылку як "міраед" ягоны бацька, а вярнуўшыся з яе ў 1934 годзе памер. Параз'ехаліся з радзімы па розных кутках браты Мікалая Улашчыка. Таму вярнуцца на Беларусь значыла для яго выракчы сябе на беспрацоўе і непазбежны новы арышт. Імкнучыся ўнікнуць гэтага, Улашчык вырашае не затрымлівацца на адным месцы працы больш за год.

Ён едзе ў Ташкент, на той час горад сасланых, а таму сярод іх лягчэй згубіцца. Знайсці працу ў Ташкенце быловельмі няпроста - у горадзе было поўна людзей з вышэйшай адукацыяй. З Ташкента Улашчык едзе ў Мінск наведаць магілу бацькі і пабачыць знаёмых. Але ў любым яго сэрцу Мінску знаёмыя стараліся не пазнаць Улашчыка, паспешліва пераходзілі на іншы бок вуліцы. Наадварот, пачалі дабівацца сяброўства тыя, хто ніколі сябрам ня быў, - такая ўжо ў іх "службовая арыентыроўка".

Улашчык выязджае ў Вятку, толькі год таму перайменаваную ў Кіраў. Пакуль знайшлася праца, у Кіраве сярод высланых беларусаў пачаліся арышты. Улашчык зноў вымушаны вандраваць - Іванава, Ульянаўск, Саратаў. Яшчэ да "адсідкі" ён пазнаёміўся са студэнткай Ленінградскага інстытута прафзахворванняў Наталляй Шамшорынай. У 1938 годзе маладыя людзі ажаніліся, а праз год Мікалай перабіраецца да жонкі ў Ленінград, дзе знаходзіць сабе працу настаўніка і здае аспіранцкія іспыты. Спакойнае жыццё доўжыцца нядоўга - яго абрывае напад гітлераўскай Германіі. Усе "ненадзейныя элементы" трапляюць пад прэвентыўныя затрыманні. Зразумела, што сярод іх апынуўся і Мікалай Улашчык, забраны проста з мабілізацыйнага пункта.

7 ліпеня 1941 года Улашчыка адпраўляюць на этап, і пачынаецца чарговы трагічны перыяд яго жыцця. У турме горада Златавуста ён правёў год, а потым па рашэнні суда быў высланы ў Навасібірскую вобласць на пяць гадоў.

Жонка Улашчыка, навуковы супрацоўнік АН СССР, у той час разам з Акадэміяй была ў эвакуацыі ў Казані. Там жа знаходзіўся віцэ-прэзыдэнт Акадэміі Навук акадэмік Лявон Арбелі, якога Наталля і ўмаліла заступіцца за яе мужа. Арбелі, зрабіў безумоўна шляхетны, смелы і рызыкоўны ўчынак - напісаў прашэньне на імя Берыі, дзе хадайнічаў за гісторыка Мікалая Улашчыка. 28 лістапада Улашчык ледзь жывы выходзіць з турмы. Лёс яго пашкадаваў, відаць, маючы разлік на яго будучую навуковую дзейнасць.

Улашчык дабраўся да свайго брата Івана ў Татарыю, у якую той ужо разам з сяі'ёй ад арышту па радзіме ў 1935 годзе. Тут ён доўга вылечваўся ад набытай у турме хваробы лёгкіх. Толькі ўлетку 1943 года Мікалай дабраўся ў Казань да жонкі. Яму пашанцавала уладкавацца выкладчыкам гісторыі ў мэдычную школу. Магчыма, Улашчык застаўся бы працаваць у Казані, бо ў сталіцы ехаць не хацеў, слушна мяркуючы, што там увага і кантроль, прверкі і затрыманні больш шчыльныя. Але жонка і жончына сяброўка пачала схіляць Улашчыка да навучаньня ў аспірантуры.

У студзені 1944 года Улашчык перабіраецца ў Маскву навучацца ў аспірантуры АН СССР, праз тры гады ён абараняе кандыдацкую дысертацыю „Падрыхтоўка эканамічных рэформаў у Беларусі і Літве перад 1861 годам". Усё быццам складваецца няблага: ён чытае лекцыі ў Маскоўскім універсітэце, працуе ў Інстытуце гісторыі АН СССР.

Але напрыканцы 1950 года яго зноў арыштоўваць і прысуджаюць да пазбаўлення волі на 8 гадоў. Яго этапіруюць у Кемераўскую вобласць, у лагер пасёлка Суслава, дзе дваццацю гадамі раней ён "цягнуў" свой першы тэрмін. Выжыць Мікалаю Улашчыку дапамог начальнік лагера Міхаіл Галенчык, аднавясковец. Ён прызначыў хворага Улашчыка загадчыкам рэчавага складу зэкаў. Каб не гэтая ласка, наўрад ці Мікалай Улашчык застаўся бы жывы.

Па вызваленні ў 1955 годзе Мікалай Мікалаевіч Улашчык усе гады стала пражыў у Маскве, але часта выпраўляўся ў вандроўкі на радзіму, ліставаўся з беларускімі навукоўцамі і пісьменнікамі. Да 1986 Мікалай Улашчык працаваў навуковым супрацоўнікам Інстытуту гісторыі АН СССР.

Да апошняга дня свайго працаваў над рукапісамі і памёр за рабочым сталом. Пахаваны быў у Маскве, але потым перапахавалі ў Мінску на Чыжоўскіх могілках побач з жонкай.

Усе людзі, якія яго ведалі, ганарыліся сяброўствам з ім, высока шанавалі яго мудрасць, мужнасць, веды, нязломленую пакутамі жыцця дабрыню.

*********************************************

***Да 125-годдзя з дня нараджэння Янкі Журбы***

**Цімафей Ліякумовіч**

# з купалаўскага выраю

Янка Журба – адзін з кагорты пачынальнікаў новай беларускай пісьменнасці. Ён прыйшоў у літаратуру на пачатку XX стагоддзя з ужо акрэсленымі поглядамі, з жаданнем паэтычным словам служыць справе адукацыі свайго народа, справе вызвалення яго з цянётаў забітасці і матэрыяльнай беднасці. Ужо ў сваім першым надрукаваным допісе на старонках "Нашай Нівы" растлумачваў: "Кожны народ розніцца ад іншых сваёю моваю, жыццём, звычаямі і г. д.; і ён мае права жыць, як асобная нацыя, развіваць сваю мову, сваю літаратуру, мае права пазнаваць навукі ў сваёй роднай мове, развіваць сваю культуру. З гэтага права народ пачынае карыстаць толькі тады, як усе сыны яго добра знаюць, хто яны, да якой нацыі належаць. Каб нашы беларусы сталі моцнай нацыяй, каб яны здалелі завяваць сабе агульналюдскія правы, патрэбны два варункі: перш-наперш трэба як найбольш свету даць беларусам, бо цемната – галоўная прычына нашага цяжкага палажэння; а яшчэ -- падняць нацыянальную свядомасць беларусаў. Гэта надта вялікая праца: трэба разбудзіць сонныя вумы беларусаў, каб не былі такімі забітымі і загнанамі, як дагэтуль, каб цяжкія, несцярпімыя варункі жыцця нашага змяніліся на лепшыя".

Вось да гэтай цяжкай працы самаахвярна падключыўся малады асветнік і паэт, які абраў сабе псеўданім Журба (яго сапраўднае імя Іван Якаўлевіч Івашын), хаця ўвесь час быў перапоўнены клопатамі пра зямныя чалавечыя радасці. Ён належыць да тых пісьменнікаў, якія яшчэ побач з Янкам Купалам і пад яго непасрэдным уздзеяннем сталі ля вытокаў беларускага Адраджэння.

Янка Журба (1881—1964) пражыў вялікае і нялёгкае жыццё. Нарадзіўся ў вёсцы Купніна Чашніцкага раёна Віцебскай вобласці ў шматдзетнай сялянскай сям'і. З першых жыццёвых крокаў сустрэўся з беднасцю і галечай.

*У бацькі хлеба не хапала,*
*Сваю сям'ю каб пракарміць.*
*Ён на мулярскія работы*
*Штогод павінен быў хадзіць.*

*Каб зарабіць, я летам з бацькам*
*Па розных вёсках вандраваў.*
*Зімой вучыўся і з маленства*
*Цяжкую працу я спазнаў...*
*"Маё маленства".*

Вясковаму юнаку пашчасціла вучыцца ў Полацкай настаўніцкай семінарыі (1898—1902), пасля заканчэння якой ён некаторы час працаваў на Віцебшчыне. Потым працягваў вучобу ў Глухаўскім настаўніцкім інстытуце на Чарнігаўшчыне (1906—1909). Тут, на Украіне, далучыўся да студэнцкага руху, прымаў удзел у нелегальных гуртках, усвядоміў неабходнасць сацыяльнага і нацыянальнага вызвалення народа.

Свой першы верш "На беразе Дзвіны" Янка Журба надрукаваў у 1909 годзе ў той жа "Нашай Ніве",

якая і вызначыла беларускі кірунак ягонай літаратурнай дзейнасці, бо да таго, як трапіла газета на вочы, пачынаючы паэт пісаў на рускай мове. Яго захапіла свежасць слова Янкі Купалы, Якуба Коласа, М.Багдановіча, Ядвігіна Ш., А.Гаруна. Ён лічыў, што іх творы запалалі светачам для беларусаў, што ў іх выдатных радках родная мова "набралася сілы, цудоўнай красы" і "на ўвесь край заблішчэла агнём залатым". У сваю чаргу Янка Купала, а потым М.Багдановіч прыхільна паставіліся да вершаў Янкі Журбы, убачылі ў ім здольнага паэта. Характар сваёй дакастрычніцкай творчасці паэт вызначыў у вершы "Мая песня":

*Мой спеў звінеў не для багатых,*
*Што працай беднаты жылі, --*
*Аб горкай долі думы-песні*
*У хаты бедныя плылі.*

*Мой спеў напоўнен быў жаданнем,*
*Каб наш прачнуўся родны люд,*
*Каб выйшаў ён на шлях змагання,*
*Парваў ланцуг сваіх пакут.*

Паэт верыў, што не вечна ў родным краі будзе панаваць цьма "і не вечна наш край будзе скуты", спадзяваўся на тое, што будзе скінута ярмо прыгнечання і ў нябыт сойдуць "нявоља, здзек".

Грамадзянскія матывы вершаў паэта былі падказаны самім жыццём і аказаліся сугучнымі часу. Змест і форма ягоных твораў паставілі яго ў шэраг абаронцаў народных правоў, песняроў свабоды і незалежнасці. Янка Журба складаў не толькі скаргі-жальбы, але і вершы, прасякнутыя жыццялюбнай верай у надыход светлых дзён, заклікі да перабудовы жыцця на карысць чалавека працы. Асабліва бадзёрыя поклічы і інтанацыі сталі адчувацца ў творах 1912—1913 гадоў, калі ў краіне зноў узняўся вызваленчы рух. Актывізацыя народных мас пасля гадоў рэакцыі надавала энергіі і іх песняру. "Трэба сонных разбудзіць нам", -- раіў ён у вершы "Вокліч". "Прыйшоў час змагацца за лепшую долю", -- сцвярджаў у вершы "Голас з вёскі". "Ёсць за што ў жыцці змагацца, ёсць у ім што палюбіць", -- пераканаўча даводзіў Янка Журба сваёй творчасцю. Паэта не пакідала надзея ўбачыць шчаснай долю сваёй роднай старонкі ("За праўду!", "Касцёр" і інш.).

Абставіны склаліся так, што Янка Журба не мог поўнасцю прысвяціць сябе літаратурнай справе, бо лічыў, што для адраджэння Беларусі неабходна ў першую чаргу "самаабразаванне ў беларускім духу і шырэнне ідэі аб нацыянальнай беларускай школе". Значны час працаваў вясковым настаўнікам у Беларусі, на Ўкраіне і нават у Сімбірскай губерніі, куды яго закінуў лёс бежанца.

Кастрычніцкую рэвалюцыю, якая абяцала перабудаваць свет на карысць працоўных, прыняў з радасцю ў адрозненні ад многіх іншых тагачасных беларускіх пісьменнікаў, што даволі падазрона паставіліся да яе. У 1921-1922 гадах – супрацоўнік навукова-педагагічнай камісіі Нарасветы БССР. З 1923 па 1927 гады займаў пасаду інспектара народнай асветы ў Бабруйску, а потым у Клімавічах. У 1927—1934 гадах – выкладчык у чэрыкаўскай сямігадовай школе, у магілёўскім медвучылішчы. На гэтых пасадах садзейнічаў арганізацыі школьнай справы, ліквідацыі непісьменнасці, пастаноўцы навучання на роднай мове. Самааддана працаваў на асветніцкай ніве, бо разумеў, што нацыя мае патрэбу ў адукаваных людзях, без якіх немагчыма дасягнуць поспехаў ні ў адной галіне чалавечых ведаў. А яшчэ марыў, што з дапамогай ведаў з асяродку беларусаў вырастуць уласныя Пушкіны, Шаўчэнкі і Міцкевічы.

У 1934—1937 гадах Янка Журба – супрацоўнік Інстытута мовазнаўства АН БССР. Пагаршэнне здароўя, прагрэсіруючае зніжэнне зроку прымусілі яго ў 1937 годзе пакінуць працу і паехаць з Мінску ў Чашніцкі раён.

Першы зборнік вершаў Янкі Журбы "Заранкі" ўбачыў свет у 1924 г. Рукапісы некаторых яго паэтычных кніг загінулі ў час вайны.

Найбольш прадуктыўнымі ў выданні вершаваных зборнікаў былі для паэта пяцідзесятыя гады: "Ластаўкі" і "Выбраныя творы" (1950), "Сонечная раніца" (1955), "Ясныя шляхі" і "Светлыя дні" (1959). У вершах гэтых зборнікаў Янка Журба ўслаўляў Беларусь, плённую працу, славіў мір, дружбу народаў, захапляўся нашай моладдзю. Не сумняваўся ў тым, што "Перашкоды мы зломім Гартаваннем-разгонам І развеем туманы вякоў". Ён хацеў, каб стваральны рытм Рэспубліцы пульсаваў "творчым імкненнем", каб была "праца сагрэта натхненнем". Услаўляў і апяваў адданую працу на карысць роднай старонкі. Жадаў, каб "наш край любімы Багацеў няспынна, Каб заўжды квітнеў ён, Як цудоўны май".

У спадчыне Янкі Журбы нямала ўзнёслых лірычных вершаў пра каханне, якія вабяць чысцінёй пачуццяў, адкрытасцю сэрца і шчырай задушэўнасцю ("Не забыць мне дзён маёвых...", "Каханне", "Помню стрэчу з табой..." і інш.)

*Сама кветкай цвіла веснавою,*
*Незабудкай цвіла лугавой.*

*Твае вочы бліщчэлі заранкай,*
*Твае шчокі гарэлі агнём.*
*Пацалунак ружовага ранку*
*Запаліў нас, бы хмелем віно...*
*"Сярод кветак"*

Нельга адмовіць Янке Журбе і ў майстэрстве пейзажнай лірыкі, якая трымаецца на мяккіх фарбах, што ўзнаўляюць жывыя малюнкі беларускіх краявідаў. Паэт захапляўся хараством роднага краю, шчымліва занатоўваў звычайныя прыродныя праявы, у якіх падгледзеў незвычайныя дзівосы ("Сустракаць пайду вясну", "Гімн сонцу", "Ясная раніца " і інш.):

*Налятаў ціха ветрык на ніву,*
*Калыхаў, цалаваў каласы.*
*Нам шумелі прыветліва травы,*
*І мігцелі слязінкі расы.*
*"У маёвую раніцу"*

Значнае месца ў творчасці Янкі Журбы займалі вершы, прысвечаныя дзецям. Ён з замілаваннем пісаў пра маленства беларускіх дзяўчынак і хлопчыкаў, вучыў іх горача любіць Радзіму, звяртаў увагу на хараство сваёй зямлі. Невыпадкова яго вершы друкаваліся ў падручніках па літаратуры і мове, з ахвотай вывучаліся навучэнцамі. І сёння яны працягваюць дапамагаць настаўнікам выхоўваць у вучняў любоў да беларускай прыроды, да мілагучнага беларускага слова.

У цэлым тэматыка вершаў Янкі Журбы не адрознівалася ад матываў творчасці іншых беларускіх паэтаў – ягоных сучаснікаў, але нельга ёй адмовіць у індывідуальнай адметнасці, якая выяўлялася ў прастаце і выразнасці адлюстравання жыццёвых падзей. У ягоных вершаваных радках многа света і прастору. Адчуваецца, што яны напісаны чалавекам добрага сэрца, які спагадліва ставіўся да людскіх клопатаў і цешыўся людскімі радасцямі. Яны вабяць да сябе аўтарскай шчырасцю, якая надае вершам задушэўную танальнасць. Асабліва прываблівае адухоўленая інтанацыя, якую можна назваць сярэбранай, настолькі яна непрымусовая і дзякуючы якой вершаваныя радкі мілагучныя, песенныя, бо ў іх многа музыкі, якая робіць іх надзвычай напеўнымі. Паэт з дзіцячых гадоў захапляўся народнымі песнямі, якія часта спявала маці пры выкананні хатняй работы, і на ўсё жыццё застаўся чуйным да мелодыі гукаў і слоў. Невыпадкова песеннасць яго вершаў радкоў вабіла да сябе Л.Абеліёвіча, П.Падкавырава, Р.Пукста, М.Чуркіна і іншых беларускіх кампазітараў.

Пасля вайны Янка Журба некаторы час працаваў настаўнікам спеваў. Потым аказаўся ў полацкім доме для састарэлых. Апошнія гады жыцця паэта былі асабліва цяжкімі: ён страціў зрок ды і матэрыяльнае становішча пакідала жадаць лепшага. Станіслаў Шушкевіч са спачуваннем пісаў, што ў гэты час Янка Журба ўяўляў "сабою абскрыленага птаха, які сумуе па выраі, які не можа ўзняцца да палёту".

Удзячныя нашчадкі не забываюць песняра. Пасмяротна выдадзены яго "Вершы", "Роднае", "Мая песня".

Лепшыя з твораў Янкі Журбы трывала прапісаліся ў беларускай паэзіі, а яго імя неадрыўна ад гісторыі беларускай літаратуры.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

## Рыгор Барадулін афіцыйна вылучаны на Нобелеўскую прэмію

Рыгор Барадулін афіцыйна вылучаны на Нобелеўскую прэмію па літаратуры. Як паведаміў "Белорусским новостям" кіраўнік ініцыятыўнай групы па яго вылучэнні Уладзімір Някляеў, усе неабходныя дзеля гэтага дакументы ўжо накіраваны ў Шведскую акадэмію літаратуры. Кандыдатурныя заяўкі гэтая ўстанова прымала да першага лютага.

"Згодна з працэдурай, неабходна, каб прэтэндэнта вылучылі не менш за тры літаратурныя арганізацыі, — распавёў Уладзімір Някляеў. — Кандыдатуру Рыгора Барадуліна падтрымалі беларускі ПЭН-цэнтр, расійскі ПЭН-цэнтр і Саюз пісьменнікаў Украіны. Мы таксама вялі перамовы з некаторымі пісьменніцкімі суполкамі з краін Цэнтральнай і Паўночнай Еўропы, аднак яны ў гэтым годзе падтрымалі іншага кандыдата".

Нагадаем, што шэраг духоўных асоб, пісьменнікаў, мастацтвазнаўцаў выступілі з ініцыятывай вылучэння Рыгора Барадуліна на Нобелеўскую прэмію пасля прэзентацыі ў чэрвені мінулага года новага зборніка паэта "Ксты". У гэтую кнігу ўвайшлі духоўныя і філасофскія вершы Барадуліна розных гадоў. Сам Рыгор Іванавіч кажа, што да свайго вылучэння ставіцца спакойна, бо разумее: любая прэмія — гэта латарэя.

Працэдура вызначэння Нобелеўскага лаўрэата па літаратуры суправаджаецца атмасферай поўнай сакрэтнасці. У бліжэйшыя месяцы Нобелеўскі камітэт разгледзіць заяўкі. У красавіку будуць абраныя дваццаць прэтэндэнтаў на прэмію. У кастрычніку гэты спіс скароціцца да пяці прозвішчаў, пасля чаго шляхам галасавання будзе вызначаны новы ўладальнік літаратурнага Нобеля. Памер Нобелеўскай прэміі складае 10 мільёнаў шведскіх крон (прыкладна 1 мільён 300 тысяч долараў).

Па словах Уладзіміра Някляева, зусім не абавязкова, што Нобелеўскім лаўрэатам стане літаратар, вылучаны ў гэтым годзе: "Акадэмія разглядае кандыдатуры за некалькі гадоў. Да прыкладу, ужо не адзін год у статусе прэтэндэнтаў знаходзяцца расійскі пісьменнік Андрэй Бітаў і паэтэса Бэла Ахмадуліна. Андрэй Вазнясенскі ўвогуле быў вылучаны на Нобеля раней за Іосіфа Бродскага, які атрымаў прэмію ў 1987 годзе. Больш за тое, Бродскага вылучалі за паэзію, а Нобелеўскі камітэт адзначыў яго эсэістыку.

**********************************************

## ВЕРШЫ БАРАДУЛІНА ПА-АНГЛІЙСКУ

***30 студзеня Рыгор Барадулін быў афіцыйна вылучаны на Нобелеўскую прэмію па літаратуры. Шмат намаганняў, каб звярнуць увагу шведскіх акадэмікаў на творчасць выбітнага беларускага паэта, трэба будзе прыкласці ў бліжэйшыя месяцы.***

Пра падрабязнасці гэтага працэса распавяла сакратар аргкамітэта па вылучэнні Рыгора Барадуліна на Нобелеўскую прэмію, укладальнік і рэдактар ягонай кнігі "Ксты", кандыдат філалагічных навук Ала Сакалоўская.

**- Ала Станіславаўна, нагадайце, калі ласка, гісторыю вылучэння Рыгора Барадуліна на Нобелеўскую прэмію.**

- Праца над кнігай "Ксты" пачалася ў кастрычніку 2004 года. У мяне з'явілася ідэя сабраць усе вершы Барадуліна духоўнага, філасофскага плану ў адно выданне, я пра гэтую сваю задуму сказала пробашчу Чырвонага касцёла ксяндзу Уладзіславу Завальнюку. Ён вельмі ўхваліў яе, далучыўся да гэтай працы і ў якасці ўкладальніка, і ў якасці кансультанта. Такім чынам, ідэя з'явілася ў кастрычніку, а 23 чэрвеня адбылася першая прэзентацыя кнігі ў Чырвоным касцёле. І пасля прэзентацыі ў ксяндза Уладзіслава ўзнікла ідэя вылучыць "Ксты" на Нобелеўскую прэмію. Яе падтрымалі. У выніку быў створаны аргкамітэт - старшынёй быў абраны ксёндз Уладзіслаў. А сакратаром абраная была я. Трэба разумець, што гэта не афіцыйная арганізацыя. Для яе рэгістрацыі не трэба - гэта зусім іншая справа.

**- Якія патрабаванні існуюць у Нобелеўскага камітэта да прэтэндэнтаў на прэмію?**

- Для ўзгаднення гэтай працэдуры мы звязваліся непасрэдна са Стакгольмам. Першае, што патрабуецца, гэта заява аб вылучэнні. Па правілах Нобелеўскага камітэта, яна робіцца адной асобай, без абмеркавання і без галасавання. Гэта зрабіў ксёндз Уладзіслаў Завальнюк. Затым неабходна, каб дакумент аб вылучэнні разгледзела якая-небудзь пісьменніцкая арганізацыя (меў права гэта зрабіць таксама Інстытут літаратуры Акадэміі навук). Паперу аб прадстаўленні Рыгора Барадуліна на Нобелеўскую прэмію мы атрымалі ад Саюза беларускіх пісьменнікаў за подпісам яго старшыні Алеся Пашкевіча. Патрэбна таксама прадставіць Нобелеўскаму камітэту біяграфію паэта, поўную бібліяграфію, кніжку ў арыгінале і яе пераклад на англійскую мову. Прычым правілы якія? Можна вылучаць за ўсю творчасць, а можна за адзін твор, адну кнігу. Мы пайшлі па другім шляху. Але ж акадэмікаў, натуральна ж, цікавіць, хто такі Рыгор Барадулін, што ён напісаў. Вылучэнне яго на Нобелеўскую прэмію падтрымалі таксама Нацыянальны саюз пісьменнікаў Украіны, ПЭН-цэнтр Расіі і ПЭН-цэнтр Беларусі. Адпаведныя паперы ад дзвюх апошніх арганізацый мы атрымалі за дзень да таго, як неабходныя дакументы былі адпраўленыя членам нашага камітэта ў Стакгольм. Ён паехаў туды непасрэдна, бо нельга перасылаць гэтыя дакументы па пошце. Адзначу, што было дастаткова аднаго прадстаўлення ад Саюза беларускіх пісьменнікаў, астатнія арганізацыі проста выступілі ў яго падтрымку.

**- Як ішла праца над перакладам "Ксты" на англійскую мову?**

- Мы выдалі гэты зборнік у так званым "люстэркавым" варыянце: гэта значыць злева верш надрукаваны па-беларуску, справа - па-англійску. Кніга атрымалася на 800 старонак. Перакладамі займаліся беларусы - як вядомыя перакладчыкі і паэты, так і дэбютанты. А вось рэдактарамі ўжо былі два амерыканцы, пісьменнікі і прафесары, быў таксама кансультант з Велікабрытаніі. Кніга выдадзеная на еўрапейскім узроўні. Яна вельмі прыгожая, з шыкоўнай вокладкай і паперай. Афармленнем займаўся вядомы мастак Генадзь Мацур.

**- Ці трэба чакаць зараз нейкай рэакцыі ад Нобелеўскага камітэта?**

- Рэакцыі ад Нобелеўскага камітэта не будзе ніякай. Усе рашэнні там прымаюцца вельмі датаемна.

Кандыдатуры разглядаюць так званыя "чорныя эксперты". Ніхто не ведае, хто яны і як гэта адбываецца. Заява аб вылучэнні падаецца адзін раз, але гэта можа быць на ўсё жыццё. Толькі тады чалавек выбывае з банку дадзеных Нобелеўскага камітэта, калі ён сам здымае сваю кандыдатуру альбо калі паміраe, бо прэмія пасмяротна не выдаецца. Узнагароджаны ў мінулым годзе англійскі драматург Гаральд Пінтэр чакаў дваццаць пяць гадоў гэтай прэміі.

**- Барадулін вылучаны на Нобелеўскую прэмію. Што далей?**

- Цяпер пачынаецца яшчэ большая праца. Цяпер трэба, каб пра Рыгора Іванавіча ведалі не толькі ў Беларусі, не толькі ў Расіі і на Украіне. Трэба, каб пра яго ведала Еўропа, ведаў свет. Трэба праводзіць прэзентацыі. **Гутарыў Віктар ПАЗЬНЯКОЎ**

Ванкарэм Нікіфаровіч (Чыкага)

## Запозьненае, але вельмі патрэбнае знаёмства

**Трэба абавязкова выдаць зборнік прозы Аўгена Кавалеўскага**

Даручыўшы складаць зборнік "Беларуская драматургія на эміграцыі", Беларускі інстытут навукі й мастацтва даў мне магчымасьць пазнаёміцца з многімі рукапісамі і матэрыя- ламі, што захоўваюцца ў архіве гэтага інстытуту. Меркавалася, што спадчына артыста, рэжысёра і пісьменьніка Аўгена Кавалеўскага – гэта, у асноўным, драматургічныя творы (шматактовыя, аднаактоўкі, скетчы, жарты, п'есы для дзяцей). Але якое было мае шчасьлівае зьдзіўленьне, калі сярод спісаных чарнілам на абодвух баках выцьвілых да гэтага часу аркушаў паперы я убачыў і прачытаў зусім не драматургічныя творы, а некалькі невялікіх апавяданьняў, прычым апавяданьняў найвышэйшай, на мой погляд, мастацкай якасьці, сапраўдных, нажаль, невядомых дагэтуль чытачам, пярлінаў беларускай прозы.

Пра Аўгена Кавалеўскага мы ведаем параўнаўча мала. Ён нарадзіўся 7 студзеня 1921 года, выхоўваўся ў дзіцячым садку, дзе выхавацелькай была Уладзіслава Луцэвіч, жонка Янкі Купалы. З дзяцінства ён захапляўся тэатрам, удзельнічаў у спектаклях Тэатра юнага гледача. Рана страціў бацьку, якога сталінскія сатрапы абвінавацілі ў "нацдэмаўшчыне". Займаўся у школе пры Беларускім дзяржаўным драматычным тэатры, іграў у спектаклях гэтага тэатра. З 1944 года Аўген Кавалеўскі жыў у Нямеччыне, арганізоўваў у беларускіх лагерах драматычныя і эстрадныя гурткі, ставіў спектаклі і тэматычныя вечарыны, супрацоўнічаў з беларускімі часопісамі, пісаў п'есы (некаторыя з іх павінны быць апублікаваныя ў складзеным мною зборніку "Беларуская драматургія дыяспары"). Потым Аўген Кавалеўскі пераехаў у Парыж, працягваў пісаць п'есы і наладжваць сцэнічныя гурткі, быў адным з кіраўнікоў Беларускай незалежніцкай арганізацыі ў Францыі. 27 лістапада 1955 года ў зале Salle Iena ў Парыжы адбылася прэм'ера спектакля па драме Аўгена Кавалеўскага "Асуджаныя". Ен сам паставіў гэты спектакль і выконваў у ім адну з галоўных роляў. Пастаноўка выклікала вялікі рэзананс у французскай сталіцы. Памёр Аўген Кавалеўскі ў гарадку Раян у Францыі 13 жніўня 1963 года пасля цяжкой хваробы.

Няма сумненьня ў тым, што многія рэаліі прозы Аўгена Кавалеўскага навеяныя аўтабіяграфічнымі матывамі. Але вартасьць яе зусім ня ў гэтым. Здзіўляе, уражвае перш за ўсе яе высокаякасная мастакоўская фактура: як пісьменьнік валодае словам і ствараe вобразную і сымбалічную структуру, як па-майстэрску прымушае чытача адчуць і міжволі увайсці ў створаныя ім, пісьменьнікам, адметны рытм (найскладанейшая якасьць у майстэрстве сапраўднай прозы) і інтанацыю, дзе на дзіва ўдала спалучыўся эмацыянальны і рацыянальны пачатак. Беларуская мова гучыць у Аўгена Кавалеўскага на ўзроўні іншых еўрапейскіх моваў у сацыялагічным і мастакоўскім кантэксце; калі наша адметнасьць і наша сувярэннасьць – літаратура, дык творы Аўгена Кавалеўскага – значны фактар гэтага разуменьня.

У аснове яго апавяданьняў – споведзь, але не завузка суб"ектыўная; у падтэксце кожнага твора адчувальны няспынны працэс мастацкага аналізу і абагульненьня. Адсюль, магчыма, і амаль бясспрэчная ўзорная кампазіцыйная завершанасьць апавяданьняў Аўгена Кавалеўскага. Можна многа цытаваць з прозы Аўгена Кавалеўскага і дзівіцца натуральнасьцю і нязмушанасьцю яго вобразна-рытмічнай плыні і адначасова ўмельствам трымаць унутраную сюжэтна-фабульную напружанасьць.

Але, як мне здаецца, не толькі моўна-вобразнае багацьце прыцягне ўвагу сённяшніх чытачоў да гэтай прозы. Надзвычай актуальны яе адраджэнскі матыў, яе сугучча многаму, што хвалюе нас сёння. Аўген Кавалеўскі ў гісторыі нашай літаратуры бачыцца папярэднікам Брыля, Быкава, Пташнікава, Казько, Стральцова. Упэўнены, што беларуская літаратура ня толькі ў нацыянальным кантэксце можа ганарыцца такой навелістыкай; чытаючы яе, узнікаюць асацыятыўныя паралелі з асобнымі апавяданнямі заходнееўрапейскіх і лацінаамe- рыканскіх майстроў... Адразу зьнікае і "ружовы туман", і ўсе развагі пра нібыта "несама- дастатковасьць" беларускай літаратуры ў 20-м стагоддзі. Праблема толькі ў тым, што мы, на жаль не ўсё яшчэ ведаем, – такое было жыцьцё. Можа, іх не так і замнога, выдатных дасягненняў беларускай літаратуры і мастацтва, але яны, як сказаў яшчэ Максім Багдановіч, "ня толькі свайму народу, але і ўсясветнай культуры... нясуць свой дар".

На пачатак знаёмства з творчасцю Аўгена Кавалеўскага прапаную адно з лепшых яго апавяданьняў – "Я мушу жыць!", якое мае філасофскі падтэкст, што ня страціў сёньня сваёй актуальнасьці.

Аўген Кавалеўскі

## Я мушу жыць!

Была восень.

У далі, на вуліцы, за шпітальнымі мурамі жаласна стагнаў вецер, зрываючы з дрэваў апошнія счарнелыя лісты. А тут, дзе я ляжаў, у начным змроку палаты жудасна храпеў мой сусед.

Ён паміраў…

Я бачыў зусім выразна, як у цьмяным сьвятле вулічных ліхтароў, якое прабівалася праз высокія шпітальныя вокны, падоўжваўся, бялеў ягоны худы твар з вачыма, залітымі сьмяртэльнай жудасьцю, з разьзяўленым ротам, страшнымі, сьлюнявымі зубамі, і дзікі, нявымоўны жах раптоўна агарнуў маю душу. Замільгацелі маланкава думкі: мне прыгадалася, як яшчэ ўдзень галасіла над маім ложкам маці, як моўчкі, жаласьліва глядзела на мяне санітарка, і я толькі цяпер зразумеў, што й я, відаць, дажываю апошнія гадзіны, што й па мяне чакае сьмерць…

Я закінуў на галаву падушку й моцна зацiснуў яе рукамі, каб нічога ня чуць, ня бачыць, каб толькі ня думаць аб ёй, аб сьмерці, ня думаць!

Праз якую гадзіну сусед мой сьціх… Зьявіліся дзьве маўклівыя здані санітараў, моўчкі, звыклымі рукамі паклалі ягонае цела на насілкі й… зьнiклі за дзьвярыма палаты. А я плакаў пякучымі дзіцячымі сьлязьмі, кідаўся ў прыступе гарачкі на сваім ложку, клікаў кагосьці, але... ніхто не прыйшоў, каб усьцішыць мой боль, супакоіць мяне.

Раніцою санітарка прынесла мне маленькі пакунак. Гэта быў таўсты сшытак майго духовага настаўніка і старэйшага сябры – пісьменьніка Б.М. Там было колькі малых апавяданьняў пад агульнымі назовамі "Маладыя гады". На першай старонцы чарнеліся дробныя, старанна выпісаныя літары: "Прысьвячаю майму маладому сябру Аўгену К." Крыху ніжэй, ужо большымі літарамі, быў выпісаны нейчы афарызм:

***Ты мусіш жыць,***
***Каб змагацца за волю,***
***І за прышласьць народу свайго!***
***Ты мусіш жыць,***
***Каб праз долю-нядолю***
***Несьці ў край наш надзеяў сьвятло!***

І я не памёр. Я застаўся ў жывых, каб жыць!

Але было б лепш, каб я памёр тады ў шпіталю, чымсьці даведаўся, што майго сябра ўжо няма. У часе мае хваробы ён быў засуджаны на 15 гадоў прымусовых прац "без права переписки» за «нацдемовский уклон в области белорусской литературы». Нягледзячы на малы ўзрост (мне было тады 13 гадоў), я ўжо добра ведаў, што гэта мае значыць, – Сібір, голад, марудная, але пэўная смерць… Ад таго часу прайшло мала ня тры гады. Маладое бурклівае жыццё неяк вылячыла мяне ад роспачы, але ня здолела сьцерці з мае душы гэтага глыбокага, балючага сьледу.

***

Надышоў жудасны 1937 год. Ізноў над маёй галавой скучыліся чорныя хмары. Ды ці ж толькі над маёю? Менск, як і ўся падсавецкая Беларусь, былі апанаваныя жахамі «яжоўшчыны». Людзі, прыгнечаныя гэтымі жахамі, цураліся адно другога, палохаліся собскіх слоў, думак, і нават у сваіх найлепшых сяброх падозрвалі згубцаў падасланых агентаў НКВД. Адны, пры надыходзе вечаровых змрокаў, хаваліся па сваіх кватэрах, напружана прыслухоўваючыся да кожнага гуку, які даносіўся знадворку, з вуліцаў, і дрыжэлі, чакаючы на «зялёных госьцяў» да позьняе начы, аж пакуль сон не заваладваў імі. Іншыя ў гэтым часе панура пілі гарэлку па сталовых, клюбах, рэстаранах, пілі без меры, прапівалі свой жалю годны заробак, імкнучыся гэтым сьціішыць свой жах перад рэчаіснасьцю, «запіць» яго моцнай «Маскоўскай». А «чорны воран», як ашалелы, насіўся па вуліцах Менску, і сотні інтэлігентаў, рабочых, урадоўцаў кожную ноч зьнікалі ў ягонай ненасытнай, пражэрлівай пашчы. Мала ня кожная сям'я панесла яму ў ахвяру роднага або блізкага сабе чалавека…

Заўчора забралі двух нашых найлепшых прыяцеляў, учора – майго дзядзьку, а сяньня… сяньня была чарга майго бацькі. Прыйшоўшы з працы, ён гэтак і сказаў:

- Сяння прыедуць за мною.

І, запраўды, у дзьве гадзіны ночы мы пачулі моцны грукат у дзьверы. Маці спалохана ўсхапілася з ложка, падбегла да дзьвярэй, але рукі ейныя гэтак дрыжэлі, што яна доўга не магла іх адамкнуць. За гэты час бацька мой, чалавек моцнай волі, хутка апрануўся й, відаць, авалодаўшы сабою, зьнешне спакойны, цярпліва чакаў на ночных «гасьцей», склаўшы на грудзёх рукі.

Дзьверы адчыніў я. У кватэру ўскочылі трох чырвонаармейцаў са стрэльбамі й двух старэйшых сяржантаў НКВД. Без выбачэньня, з мацернаю лаянкаю кінуліся яны раскідваць у пакоях нашую адзежыну, падушкі, сшыткі ды фотакарткі, усё нечага шукаючы. Маці, зваліўшыся на ложак, сьціху, прыглушана плакала, малодшы брат мой, гэтак неспадзявана ўзбуджаны, галасіў на ўсю кватэру, а я стаяў, як аслупянелы, не разумеючы таго, што рабілася навокал мяне. Па «вобыску» загадалі бацьку апрануць паліто, маці падала яму загадзя падрыхтаваны клуначак з бялізнаю.

Надышла часіна нашага разьвітаньня з бацькам. Ён, стараючыся ўсьміхацца, пацалаваў маці, падбадзёрваючы яе словамі, сьмешнымі і непатрэбнымі ў гэтую часіну, а потым прыціснуў да грудзёх сваіх майго брата, які 'шчэ мацней загаласіў. Але калі дайшла чарга да мяне, я ня вытрываў: кінуўся яму на шыю, моцна ўчапіўся за яго рукамі й нейкім не сваім, чужым галасам праз сьлёзы ды ўсхліпы выгукнуў:

- Бацька, я загіну, я не хачу жыць без цябе!

Ён адарваў ад сябе мае рукі, паставіў мяне на падлогу й, выразна гледзячы ў мае вочы, ціха, але пераканальна сказаў:

- Замалады яшчэ… Ня варта… Будучае тваё ад цябе залежыць. Тв мусіш жыць!

І гэта былі ягоныя апошнія словы.

***

Мінаціся гады за гадамі, раскладаліся перад маім зрокам калейдаскапічнымі малюнкамі, – былі і шэрыя, і чорныя, сумныя дні, былі зрэдку й сьветлыя, сонечныя, поўныя маладосьці й бесклапотнай радасьці. Адзін гэткі сонечны дзень прынёс мне знаёмства з прыгожай і разумнай дзяўчынай. Ёй было 19 гадоў. Будучы студэнткаю філялёгічнага факультэту на менскім універсітэце, яна захаплялася вывучэньнем гістарычных і літаратурных твораў, якія адносіліся да слаўнае мінуўшчыны нашае Бацькаўшчыны, і дзеля гэтага была ўся перапоўненая гордага пачуцьця, што й беларус можа ганарова насіць імя чалавека ў сям'і найслаўнейшых народаў сусьвету. Усё ейнае маладое жыцьцё асьвятлялася непамернай любасьцю да нашага народу, запраўдным патрыётызмам. Энэргічная, поўная жыцьця й руху, сьведамая нацыяналістка, яна адразу скарыла маё сэрца. Я ўпершыню закахаўся тады гэтак палка, як толькі можна кахаць у гарачыя юнацкія гады. Яна была для мяне ня толькі сардэчным сябрам, але й маім духовым кіраўніком, маім сьветачам. Мы разам здабывалі грошы, каб закупляць у прыватных асобаў забароненыя ў той час некаторыя беларускія часапісы й кніжкі, часта выязджалі ў вёскі, дзе яна запісвала народныя казкі ды песьні, зарганізавалі вакол сябе літаратурны гурток з нашых бліжэйшых прыяцеляў, крытыкавалі новыя рэчы савецкіх пісьменьнікаў, паэтаў, самі пісалі вершы, апавяданьні, драмы, якія тады не маглі друкавацца, і спрачаліся, спрачаліся бясконца аб прышласьці нашае Бацькаўшчыны. Дні ляцелі гэтак шпарка й гэтак бадзёра, мы ўпэўнена крочылі разам наперад, што не пасьпявалі азірацца вакол сябе, не заўважалі, мiналі ўсё тое горкае, абрыдлае, непрыемнае, што спатыкалася ў нашым жыцьці.

І я, здавалася, быў найшчасьлівейшым чалавекам, калі аднойчы яна прызналася, што жадала б гэтак, рука ў руку, ісьці разам са мною далей, праз усё жыцьцё! Мы самі выбралі тэрмін нашага вясельля, прызначыўшы яго на вясну, і пачалі паступова падрыхтоўвацца да гэтага дню. Мае пачуцьці й думкі былі запоўненыя толькі гэтым. Але калі, нарэшце, надыйшоў гэты тэрмін, і цёплае вясновае сонца радасна заблішчэла над намі, сталася жудасная неспадзёўка: Ніна (гэтак звалі маю нарачоную) раптоўна захварэла на тыфус. Лекары на мае трывожныя запытаньні безнадзейна махалі рукамі, бо ейнае сэрца было надарванае, занадта слабое, каб вытрываць цяжкасьць гэтае хваробы.

Бязьмежная гора ахапіла мяне. Безнадзейнасьць, роспач спаралізавалі маё жыцьцё. Я пачаў зусім сур'ёзна думаць пра самагубства, бо не ўяўляў сабе жыцьця без яе, без Ніны. І гэта неўзабаве надыйшло… Я й да гэтага часу выразна бачу перад сабой той апошні, жахліва-смутны вечар, які я правёў ля ейнага ложку. Яна ляжала зьнясіленая, бледная, цяжка дыхала. Ружовыя праменьні вечаровага сонца, прабіваючыся праз густое зяленіва дрэў, што былі за вокнамі, як-бы разьвіталіся з ёю й мякка, пяшчотна сьлізгаталі па ейнаму

мармуроваму твару, па ейных даўгіх чорных косах, якія раскідаліся на бакі падушкі, па ейных прыгожых, бездапаможна апаўшых руках. Яна нешта сьціху мармытала. Ледзьве валодаючы сабою, сьцяўшы губы, каб не расплакацца ўголас, я нізка нахіліўся над ейным тварам, прыслухоўваючыся. Ейныя бледныя вусны выразна шапталі:

- Мы яшчэ нічога не зрабілі... Для сябе, для людзей... Змагайся за шчасьце для ўсіх... Працуй, не лянуйся... Здольнасьцяў тваіх на гэта стане... Раскідай зморк, у якім жывуць людзі вакол нас... Няхай гэта станецца тваім абавязкам, тваёю мэтаю жыцьця... А я... Я, відаць, хутка памру... Можа, нават, сяння... Гэткі мой лёс... Але ты... Ты мусіш жыць!

На другі дзень, а шостай гадзіне раніцы яна памерла.

***

Прайшлі цяжкія, жудасныя гады вайны. Я не загінуў ад куляў, мяне ня раніла снарадам, не парвала бомбаю, – я ізноў застаўся ў жывых, каб жыць... Але – дзеля чаго? Ды, увогульле, ці варта жыць? Вось ужо мінае чацьверты год, як я, адарваўшыся ад сваё Бацькаўшчыны, гэтак-жаж, як і тысячы маіх суродзічаў, прымушаны жыць з чужое ласкі на чужой зямлі. Кожны надыходзячы дзень я спатыкаю з трапяткою надзеяю, спадзеючыся, што вось ён нарэшце прынясе даўгачаканую радасьць, раскуе ланцугі, якімі закаваная цяпер мая Радзіма! Але – дарма: кожны новы дзень прыносіць мне толькі новыя кроплі смутку ў жалю... І гэтак павольна й балюча, кропля за кропляю, на працягу чатырох гадоў уліваюцца ў маю душу гэныя пачуцьці. І здаецца, што няма ім выйсьця. Міжвольна ападаюць рукі, ня хочацца працаваць, калі цьвяроза зазірнеш у сваю будучыню, дзе чакае безнадзейнасьць і хуткая старасьць. І часамі, калі я знаходжуся адзін у сваім пакою, мне здаецца, што гэткае жыцьцё ня мае сэнсу, бо жыць выключна для сябе, для свайго "жывота" – ня варта. У гэткім настрою міжвольна напліваюць пэсэмістычныя думкі, верыцца ў тое, што толькі сьмерць можа пазбавіць чалавека ад гэтае гнятучае роспачы...

Але гэта здараецца толькі часамі і на кароткі момант. Чалавек збудаваны гэтак, што ў ім вера ў лепшае перамагае найжахлівейшую роспач. І тыя словы, якія сталіся ў маім жыцьці найдаражэйшым дэвізам, тыя тры словы – "Ты мусіш жыць" – заўсёды гучаць для мяне, як зманлівы падбадзёрваючы кліч.

***... Ты мусіш жыць,***
***Каб праз долю-нядолю***
***Несьці ў край наш надзеяў сьвятло!***

І я жыву, упэўнена крочу па жыцьцю, бо ведаю, што ў цяжкія, роспачлівыя часіны гэны кліч: "Ты мусіш жыць!" ня дасьць мне загінуць.

Так, я мушу жыць!

Остэргофэн, май, 1949 г.

**********************************************************

# Народны музэй – музэй для беларускага народа

**Нягледзячы на змрочныя выракі скептыкаў, беларускае культурнае адраджэньне не згасла, жыве і эвалюцыніізуе да новых форм нацыянальнага культурнага існаваньня, характэрнага для XXI стагодзьдзя. Вялікая роля ў ім належыць тым апантаным беларусам, хто сваім жыцьцём даводзіць слушнасьць агульнавядомай тэзы: не трэба думаць, што Радзіма можа зрабіць для цябе, а думаць, што ты можаш зрабіць для Радзімы! Высілкамі такіх людзей, не ў малой ступені, рухаецца працэс акумуляцыі нацыянальных культурных здабыткаў, якія павінны быць захаваныя для будучых пакаленьняў.**

**Пра аднаго з такіх адданых мастацтву і гісторыі Беларусі зьбіральнікаў беларушчыны, калекцыянэра, кіраўніка культурна-асветнага клюбу "Спадчына" Анатоля Белага сёньня можна прачытаць у шматлікіх друкаваных і электронных сродках масавай інфармацыі. У апошні час асоба гэтага неабыякавага да лёсу беларускай культуры чалавека прыцягвае ўвагу сродкаў масавай інфармацыі, мастакоў, аматараў мастацтва з нагоды ажыцьцяўленьня яго ініцыятывы – адкрыцьця ў горадзе Старыя Дарогі першага ў Беларусі прыватнага музэя выяўленчага мастацтва (фонд Анатоля Белага) – сапраўднага народнага музэя, якім можа ганарыцца любы эўрапейскі горад.**

**Але не многія нашы суайчыньнікі ведаюць, што Анатоль Яфімавіч у свой час быў першым дырэктарам музэйнага комплексу "Хатынь" і "Курган Славы", а да гэтага працаваў вучоным сакратаром Музэя Вялікай Айчыннай вайны, а таму мае вялікі досьвед у арганізацыі музэйнай справы. З гэтай пасады яго перавялі на працу ў новы мэмарыяльны комплекс "Хатынь". Менавіта тады Анатолю Яфімавічу прышлося ўдзельнічаць у ягонай будоўлі, зьбіраць матэрыялы пра трагедыю гэтай беларускай вёскі...**

Але да гэтага вучонаму каля дзесятка разоў прыходзілася сустракацца з Пятром Машэравым. Анатоль Яфімавіч ведаў стаўленьне Машэрава да ўшанаваньня памяці палеглых у гэтай вайне беларусаў. Менавіта ён падняў пытаньне ўшанаваньня спаленых фашыстамі беларускіх вёсак. А як гэта адбылося? Па словах Анатоля Белага, кіраўнікі Брэсцкай вобласьці зьвярнуліся да Машэрава з просьбай устанавіць помнік загінуўшым жыхарам адной са спаленых вёсак Берасьцейшчыны. Пётр Міронавіч іх выслухаў і даў заданьне музэю Вялікай Айчыннай вайны знайсьці назвы і месцы знаходжаньня іншых беларускіх вёсак, якія былі зьнішчаны захопнікамі. Акрамя гэтага, ён даў заданьне знайсьці самую бліжэйшую да Мінска спаленую разам з жыхарамі вёску. Так з'явілася Хатынь -- самая блізкая да сталіцы зьнішчаная вёска. Супрацоўнікам музэю прыходзілася выконваць гэтую складаную дасьледніцкую працу.

Гэты факт адыграў з Анатолем Яфімавічам злы жарт: тагачаснае кіраўніцтва музэю ўбачыла ў Белым небясьпечнага для кар'еры канкурэнта. Ён жа меў добрыя стасункі з самым Пятром Машэравым! Таму Беламу прышлося сыйсьці з Музэю Вялікай Айчыннай вайны ў музэйны комплекс "Хатынь" і "Курган Славы". Так пачаўся зусім новы этап ягонага жыцьця.



**А. Белы адкрывае на сядзібе свайго музэю ў Старых Дарогах помнік Героя Грунвальда**

Цяперашняя ж старонка дзейнасьці Анатоля Яфімавіча Белага і яго вернай спадарожніцы па жыцьці, аднадумцы Алы Мікалаеўны Белай – музэй у Старых Дарогах. Гэта сапраўдная скарбонка сучаснага нацыянальнага выяўленчага мастацтва, у якім з вялікім клопатам сабрана шмат рарытэтных экспанатаў, твораў мастацтва, гістарычных рэліквіяў.

Але пачынаецца экспазіцыя Музэя выяўленчага мастацтва ў Старых Дарогах (фонд Анатоля Белага) як раз з агляду вонкавага асяродзьдзя, якое стала прытулкам для шматлікіх помнікаў, часьцяком адзіных на ўсёй тэрыторыі нашай краіны. Тут знайшлі сваё ўвасабленьне ідэі па ўвекавечаньні такіх постацей нацыянальнай культуры, як Е. Полацкай, Л. Сапегі, А. і М. Багдановічаў, М. Улашчыка, М. Ермаловіча, Ларысы Геніюш, Натальлі Арсеньневай, Кастуся Каліноўскага, А. Бярозкі. Тут усталяваны першы ў Беларусі помнік Героям Грунвальда, "Змагарам за родную мову"...

Не так даўно на яго сядзібе адбылося адкрыцьцё памятнага знака ў гонар 80-годзьдзя з дня нараджэньня Васіля Быкава. Думаю, усім наведвальнікам будзе цікава даведацца пра тое, што гэтую ідэю ўхваліў сам Васіль Уладзіміравіч. І пра гэта сьведчаць такія факты...

Анатоль Яфімавіч даўно меў жаданьне паставіць памятны знак у гонар Васіля Быкава. Бо ў нашага народа ёсьць крылаты выраз: "Такім людзям пры жыцьці трэба паставіць помнік", але помнікі жывым яшчэ ніхто не ставіў. І ў яго ўзьнікла такая думка зрабіць тое, пра што марыў народ – паставіць помнік самаму знакамітаму Беларусу да яго 80-годзьдзя.

Паколькі В. Быкава, па вядомым прычынам, тады не было ў Мінску, А. Белы не мог зьвязацца з ім і абмеркаваць сваю задуму. Спачатку была ідэя зрабіць мэдаль для Камітэта ўшанаваньня, што працуе пры клюбе "Спадчына". У клюбе "Спадчына" разважалі пра тое, як гэты мэдаль назваць, пад якім дэвізам яго выдаць. Вырашылі, што лепшым дэвізам для новага мэдаля будзе "За праўду ў творчасьці". Бо ўся творчасьць В. Быкава і пра гэта, дарэчы, красамоўна раскрываецца ў кнізе "Доўгая дарога да дому",-- драматычнае змаганьне за праўду, якую ён нёс беларусам. Гэтыя праблемы і цяжкасьці застаюцца актуальнымі, на жаль, і сёньня. Тыя, хто сваімі творамі праўдзіва адлюстроўвае рэчаіснасьць і сёньня з цяжкасьцямі прабіваецца да чытача. І вось гэты мэдаль павінен быў стаць адзнакай творчага подзьвігу тых творцаў, якія ўсё жыцьцё імкнуліся данесьці чытачам слова праўды. Аўтарам гэтага мэдаля стаў сапраўдны прафэсіянал сваёй справы -- майстар-мэдальер Уладзімір Мелехаў.



**Фальклорны гурт "Ліцьвіны" на адкрыцьці помніка Ларысе Геніюш.**

Пісьменьніку было паведамлена, што ёсьць ідэя ўсталяваць барэльеф на вялікім камні ў тры з паловай мэтры вышыні. Каб з гэтага каменя-волата на наведвальнікаў музэя глядзеў пісьменьнік-волат. Ідэя вельмі простая, але яна спадабалася і Васіль Уладзіміравіч даў свой дазвол на гэтую справу.

Калі дазвол быў атрыманы, А. Белы і мастак У. Мелехаў замацавалі гэты мэдальён. Яны адзьнялі памятны знак і здымкі перадалі Быкаву і ён іх дакладна бачыў. Васіль Уладзіміравіч выказаў Анатолю Яфімавічу сваю падзяку і яны дамовіліся, што 19 чэрвеня будзе праведзена афіцыйнае адкрыцьцё гэтага барэльефа. Сябры клюбу "Спадчына" вырашылі, што ён будзе называцца памятным знакам. Быкаў паабяцаў, што калі ён будзе пачуваць сябе добра, то ён абавязкова прыедзе ў Старыя Дарогі...

19 чэрвеня ў прысутнасьці прадстаўнікоў беларускай грамадзкасьці, сяброў клюбу "Спадчына" і ўладаў Старых Дарог адбылося яго адкрыцьцё. На прэзэнтацыі знака выступілі ляўрэат дзяржаўных прэмій архітэктар У.Левін, старэйшы мастак Беларусі Я. Ціхановіч, пісьменьнік В. Якавенка. Удзельнікі адкрыцьця памятнага знака накіравалі віншавальны ліст пісьменьніку і В. Якавенка перадаў яго Быкаву яшчэ пры жыцьці пісьменьніка.

22 чэрвеня Васіля Быкава не стала. Статус знака зьмяніўся: цяпер гэта сапраўды першы помнік вялікаму беларускаму пісьменьніку Васілю Быкаву. Барэльеф Быкава будзе знаходзіцца ў рамках пантэону "Змагарам за мову і за Беларусь", што ствараецца на сядзібе музэя. Пісьменьнік быў адным з тых, хто пачынаў гэта змаганьне. Ён, можа, не рабіў гучных грамадзкіх акцый, але сваімі творамі, сваёй грамадзянскай пазыцыяй пастаянна змагаўся за родную мову. Ягонае слова было больш уплывовае чымсьці іншых...

Праца над помнікам "Змагарам за родную мову" працягваецца: на камні будзе ўсталявана шыльда са ста імёнамі, тых хто адстойваў правы нашае мовы, у тым ліку і ўчынкамі – адчыняў першыя беларускамоўныя садкі, патрабаваў беларускамоўнага навучаньня... Акрамя гэтага, у музэі ёсьць не мала мэдалёў з выявамі Тарашкевіча, Лёсіка, Каліноўскага і іншых знакамітых дзеячаў. І плянуецца іх "упісваць" на камень, каб яны, таксама, былі на помніку ў гонар Абаронцаў мовы.

Побач будзе помнік беларускім гісторыкам, якія вярталі гістарычную праўду і памяць беларускаму народу. Гэта будзе таксама камень, на якім будуць зьмешчаны імёны самых выбітных беларускіх гісторыкаў, публіцыстаў з надпісам "Яны вярталі гістарычную памяць Беларускаму Народу". Напрыклад, зараз на камні ўжо ёсьць скульптурны партрэт гісторыка Міколы Ермаловіча.

Але музэй слаўны не толькі сваім пантэонам славутых Беларусаў...

Як толькі трапляеш у музэй, то перад

наведвальнікам разгортваецца панарама твораў беларускага выяўленчага мастацтва, у якой прадстаўлены творы праслаўленых беларускіх мастакоў. Вышэй, на другім паверсе разгорнутая выстава "Гісторыя Беларусі ў вобразах і партрэтах". Ёсьць на пляцоўках музэю і пэрсанальныя экспазыцыі сяброў клюба "Спадчына" – мастака А.Пятрухны, выдатнага беларускага пісьменьніка В. Быкава (адзіная ў Беларусі!), а таксама асобная экспазыцыя, на якой прадстаўлена творчасьць сяброў клюба – выдадзеныя імі кнігі, навуковыя працы, ноты, паэтычныя зборнікі, афішы і абвесткі пра выставы...

У пераходах паміж заламі разьмесьцілася экспазыцыя скульптурных і керамічных твораў мастака М. Несьцярэўскага. Тут можна ўбачыць керамічныя партрэты беларускіх князёў і дзеячаў "Нашай Нівы".

Далей наведвальнікаў чакае знаёмства з заляй графікі і экспазыцыя "Старажытная Беларусь". Ёсьць асобныя экспазыцыі, прысьвечаныя Кастусю Каліноўскаму і Тадэвушу Касцюшку ў разьдзеле "Змагарная Беларусь". У зале "Маладая Беларусь" наведвальнікі змогуць пазнаёміцца з партрэтамі стваральнікаў БСГ, якія выканаы да 100-годзьдзя з моманту яе стварэньня, а таксама з выставай, што адлюстроўвае змагарны подзьвіг герояў Слуцкага збройнага чыну.

Асаблівую ўвагу наведвальнікаў музэю выкліча экспазыцыя, якая ў свой час дала штуршок для пашырэньня ведаў па гісторыі Беларусі – "Любіць Радзіму, шанаваць родную мову". Яе стэнды разьмяшчаюць каля 100 твораў, прысьвечаных Ф. Скарыну, больш за 100 твораў, прысьвечаных М. Багдановічу і іншым выбітным постацям Беларускай Гісторыі. На музэйных стэндах можна ўбачыць адзіную ў Беларусі калекцыю твораў мастакоў Заходней Беларусі -- Сеўрука Драздовіча, Сергіевіча, а таксама, каля 50 твораў мастакоў-эмігрантаў Віктара Жаўнеровіча, Івонкі Сурвілы.

Акрамя гэтага наведвальнікаў чакае самая вялікая ў Беларусі калекцыя мэдальернага мастацтва – каля 500-600 твораў. Самы даўні экспанат гэтай калекцыі – каранацыйны мэдаль караля Рэчы Паспалітай Аўгуста III (1700). Сярод гістарычных мастацкіх рарытэтаў музэя выяўленчага мастацтва ў Старых Дарогах (фонд Анатоля Белага) – графічны ліст з выявай караля Яна III Сабескага, адзіны ў Беларусі твор Валенція Ваньковіча – знакамітага беларускага мастака. Вялікую цікавасьць не толькі для спэцыялістаў выкліча і карта рэдкая мапа Вялікага княства Літоўскага са збору Радзівілаў...

**Сустрэць Анатоля Белага ў сталіцы летам амаль немагчыма. Бо лета – самы прадуктыўны пэрыяд працы па ўдасканальваньню экспазыцыі і вонкавага афармленьня музэя ў Старых Дарогах. Працы там, здаецца, непачаты край, але відавочны і вынік – каля дзесятка экспазыцыйных заляў з выдатнымі творамі беларускіх мастакоў Ваньковіча, Драздовіча Сергіевіча, Жаўнеровіча, Ціхановічаў, Шчамялева... Тут можна пабачыць скульптурныя творы, творы медальеранага мастацтва, помнікі лепшым сынам роднай Беларусі. А ў хуткім часе прыхільнікаў беларускай гісторыі чакаюць новыя падзеі – адкрыцьцё новых помнікаў знакамітым людзям Беларусі. Значыць, наведвальнікаў музэя ў Старых Дарогах паболее. Бо гісторыя і мастацтва Беларусі – невычарпальная крыніца пазнаньня і натхненьня! У гэтым упэўнены Анатоль Яфімавіч Белы.**

**Анатоль Мяльгуй**

******************************************

# Звон Свабоды загучыць на Дзень Волі

Такое рашэнне прынята групай грамадзян, на замову якіх звон адліты. Хацелася б назваць іх аргкамітэтам, але не буду — каб не выглядала, што я распавядаю пра "незарэгістраваную" арганізацыю. На думку згаданых грамадзян (а гэта слынныя навукоўцы, літаратары, мастакі, палітычныя і грамадскія дзеячы), прэзентацыя нацыянальнай святыні мусіць адбыцца 25 сакавіка ў гістарычным цэнтры сталіцы, на чарговыя ўгодкі абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Звон створаны ў развіццё традыцыі, распачатай напрыканцы 80-х гадоў. Тады неадменным атрыбутам "Чарнобыльскага шляху" ў Мінску стаў адмысловы звон, які суправаджае гэтыя шэсці і дагэтуль.

Звон, як вядома, рэч адначасова мастацкая і функцыянальная. Важыць Звон Свабоды больш 100 кілаграмаў. Ён настроены на рэвалюцыйную ноту — "рэ". Канцэпцыю звона распрацавалі Аляксей Марачкін і Алесь Шатэрнік (на здымку). Выяву "Пагоні" на звоне рабіў Леў Талбузін, а тэкставыя кампазіцыі Генадзь Мацур. Адліваўся Звон Свабоды на тым жа прадпрыемстве, дзе і мінскі помнік Адаму Міцкевічу, маладзечанскі — Міхалу Клеафасу Агінскаму, полацкі — Семяону Полацкаму.

"Пагоня" прадстаўлена ў версіі "вялікага герба". Дагэтуль мы мелі толькі "малы герб" — гэта значыць, без наверша і шчытатрымальнікаў. На Звоне Свабоды выяву Вершніка атачаюць анёлы, а ўвенчаны геральдычны шчыт каронай Вітаўта Вялікага. Тэкставая частка — словы нашых вялікіх суайчыннікаў пра Волю, Свабоду, Незалежнасць і адпаведныя цытаты са Святога Пісання і Дэкларацыя Незалежнасці БНР. Мяркуецца, што Звонам Свабоды будуць адкрываецца найбольш значныя акцыі і мерапрыемствы грамадства Беларусі.

Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.

************************************************

# Таямніца магілы Максіма Багдановіча

Любімы паэт беларусаў Максім Багдановіч памёр ад сухотаў удалечыні ад Радзімы — у Ялце. З абставінамі смерці і месцам пахавання паэта звязаны пэўныя таямніцы, як і з усім нядоўгім жыццём паэта. Так, існуе шэраг малавядомых фактаў, якія тычацца магілы ў Ялце.

Пахаваны паэт быў паводле праваслаўнага абраду з удзелам святара і псаломшчыка — пра гэта сведчыць знойдзеная ў 1990 годзе супрацоўніцай ялцінскага гісторыка-літаратурнага музея З.Лівіцкай метрычная кніга сабора Аляксандра Неўскага з запісам пра смерць Максіма Багдановіча.

У "Матэрыялах да біяграфіі Максіма" (1923 г.) бацька паэта, Адам Багдановіч, пісаў так: "Памёр ён 25(12) мая 1917 года, але я паведамленне пра гэта атрымаў на 4-ы дзень пасля яго смерці. Ён не даў гаспадыні майго адрасу, не жадаючы мяне трывожыць. Пасля яго смерці яна знайшла мой яраслаўскі адрас і тэлеграфавала па гэтым адрасе, а пакуль прыйшла тэлеграма з Яраслаўля (бацька паэта знаходзіўся ў службовай камандзіроўцы ў Сімферопалі. — Аўт.), быў ужо чацвёрты дзень. Я адразу на аўтамабілі накіраваўся ў Ялту. Але ён быў ужо пахаваны.

Пахавалі яго на Ялцінскіх могілках, што недалёка ад Мікалаеўскай вуліцы ў накірунку гор, на самым ускрайку могілак ля дарогі з супрацьлеглага мору боку, г.зн. з боку гор. У галаве пастаўлены белы крыж з надпісам на бляшанай таблічцы яго імя (студэнт Максім Адамавіч Багдановіч) і калі ён памёр. У дзвюх сажанях па прамой лініі ад галавы пахаваны студэнт Карысан. Паведамляю некаторую прыкмету".

Але ў той жа час бацька паэта адзначаў: "Месца абрана надзвычай няўдала: ліўні і патокі з крутога схілу лёгка маглі размыць магілу. Я наняў вартаўніка, каб магілу ўмацаваць і ўпарадкаваць, пакінуў грошы гаспадыні, каб пасадзіць кіпарысы і куст ружаў, прасіў сачыць за гэтым двух знаёмых, у тым ліку і дачку майго саслужыўца, асабістую знаёмую Максіма, але ці зроблена гэта — не ведаю. Праз некалькі дзён я паехаў з Крыма. Двойчы я пісаў з Яраслаўля знаёмым, але не атрымаў адказу: вядома, як дзейнічала ў гэты час пошта, ды і людзям было не да чужых магіл".

Пэўны час магілай Максіма Багдановіча ніхто асабліва не цікавіўся. А ў 1924 годзе Інбелкульт накіраваў у Ялту трох маладых паэтаў: Уладзіміра Дубоўку, Анатоля Ажгірэя і Андрэя Александровіча, якія мусілі адшукаць магілу Багдановіча, каб да 10-х угодкаў смерці ўстанавіць на ёй помнік. Працэс пошукаў апісаны Дубоўкам у артыкуле "На Багдановічавай магіле" (часопіс "Узвышша", № 2, 1927).

Паводле ўспамінаў Уладзіміра Дубоўкі, на гарадскія ялцінскія могілкі яны трапілі 18 жніўня 1924 года: "Зацікавілі вартаўніковых сыноў, якія ўзяліся дапамагаць шуканню. Прыйшлі на другі дзень, 19 жніўня. Хлапчукі прынеслі нам таблічку з жалобным надпісам, але крыжа няма... Аказалася, хлапчукі адрывалі таблічкі ад крыжоў і коўзаліся на іх з каменнай гары, па адхоне гары. Ці варта вінаваціць іх? Гэта было адзінай забавай іх. Не пакрыўдзіўся б на іх і нябожчык, які меў такое замілаванне да маладога жыцця.

Знаходзім магілу, пра якую казаў Я.Дыла (верагодна, магіла студэнта Карысана. — Аўт.). Але навокал яе таксама магілы з паламанымі крыжамі. Урэшце, падабраўшы з зямлі планку, праверыўшы самыя дробныя дэталі, спыніліся ля шуканага. У правільнасці не магло быць ніякага сумневу.

У тым жа часе далі тэлеграму ў Менск, каб прыслалі грошы на пастаноўку помніка. Гэты помнік стаўляў ужо Цішка Гартны паводле свайго праекту, бо мы павінны былі ехаць дахаты. Перад ад'ездам сфатаграфавалі магілу, каб пасля не прыйшлося шукаць нанова. Таблічка ад магілы з жалобным надпісам і негатывы фатаграфіі перададзены намі Інстытуту Беларускай культуры".

20-я гады мінулага стагоддзя былі эпохай атэізму, таму стары крыж на ялцінскай магіле быў знішчаны, а на яго ным месцы з'явіўся помнік з шэра-брунатнага вапняку з чырвонай зоркай, які і стаяў там да 2003 года. А ў 2003 годзе на магіле паэта быў устаноўлены помнік скульптараў — бацькі і сына Льва і Сяргея Гумілеўскіх. Помнік, дарэчы, так сабе... і падабаецца далёка не ўсім прыхільнікам творчасці Максіма Багдановіча.

Паліна БЯЗРУЧКА.

# Куды зніклі беларускія кнігазборы?

Кніга прыйшла на Беларусь у 90-я гады X стагоддзя разам з хрысціянствам. І адначасова пачалася мясцовая перапіска грэчаскіх кніг, а пасля з'явілася і летапісанне. Сярод першых перакладчыкаў грэчаскіх кніг на славянскую мову была вялікая спадзвіжніца Еўфрасіння Полацкая. І, мусібыць, яна мела прамое дачыненне да заснавання знакамітай "кніжніцы" (бібліятэкі) у Полацкай Сафіі, дзе пісаліся і захоўваліся Полацкія летапісы. Вядома, што чытачом "кніжніцы" быў і наш выбітны асветнік і першадрукар Францыск Скарына.

Згодна з рахункавымі кнігамі Полацка, у царкве Святой Сафіі ў XVI ст. захоўвалася пяць куфраў з рускімі, літоўскімі і лацінскімі кнігамі. Даследчыкі доўгі час сцвярджалі, што некаторыя кнігі захоўваліся ў Бельчыцкім манастыры Полацка яшчэ і на пачатку XIX ст., а пасля проста... зніклі. Аднак дзякуючы намаганням многіх і многіх навукоўцаў некаторыя таямніцы знікнення гэтых духоўных каштоўнасцяў былі раскрыты.

Як вядома, у жніўні 1579 г. пад Полацкам стаялі войскі караля Стэфана Баторыя, і пасля месяца асады салдаты ўвайшлі ў Верхні замак. Сакратар караля Рэйнгальд Гейдэнштэйн пісаў: "Храм у палацы вялізазны... Ён належаў шматлікім паслядоўнікам грэчаскага абраду, якія з даўнейшых часоў валодалі ім". Сярод захопленых каштоўнасцяў былі і кнігі з вялікай бібліятэкі палаца, пра што (да прыкладу, той жа Пскоўскі летапіс) згадваў у сваёй гістарычнай працы Рэйнгальд: мауляў, знойдзены сярод іншых у Полацкай бібліятэцы і трапілі да нас. Гэтымі звесткамі зацікавіўся вядомы на той час даследчык заходнееўрапейскіх бібліятэк французскі філолаг Л.Жакоб.

У 1644 г. Л.Жакоб пісаў, што бібліятэка з Полацкага Сафійскага сабора была вывезена ў Польшчу, і еймі рукапісамі папоўнілася Кракаўская каралеўская бібліятэка, заснаваная Сігізмундам II. Ужо ў наш час гісторык Я.Шапаў зрабіў выснову: у Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве, у фондзе "бібліятэкі ардынацыі Замойскай" знаходзіцца некалькі рукапісаў, узятых Я.Замойскім з Полацкай "кніжніцы". А перад тым гісторык добрасумленна вывучыў усе зробленыя на рукапісах запісы. Сярод тых, што колісь захоўваліся ў сценах беларускай Сафіі, — Пскоўскі летапіс, перапісаны ў 1548 г. для кафедральнага Троіцкага сабора ў Пскове; Залатаструй (1460—1470 гг.) — зборнік слоў, які належаў візантыйскаму Іаану Залатавусту; Залатавуст у 132 главах; Слова Яфрэма Сірына (да 1458 г.); Кнігі Старога запавета; Імёны рускіх мітрапалітаў (XV ст.); Евангелле павучальнае (XVI ст.) і многія іншыя.

Аднак далёка не ўсе полацкія кнігі сабраныя ў адным месцы. Вядома, што адна з іх маецца ў бібліятэцы Львоўскага універсітэта імя І. Франка. Гэта Пралог — зборнік кароткіх жыццяў і павучанняў на кожны дзень года (XVI ст.).

У "кніжніцы" Сафіі сярод іншых мелася напісаная на славянскай мове кніга Дыянісія Арэапагіта пра нябесную і царкоўную іерархію. Другі экземпляр гэтай папулярнай у той час працы знаходзіўся ў бібліятэцы Супрасльскага манастыра. Аснову гэтай бібліятэкі складалі 100 кніг, прывезеных з Расіі і падораных манастыру пры яго заснаванні ў 1510 годзе. Цікава, што ў 1557-м тут было і сем "бітых кніг", г.зн. друкаваных; і тры кнігі "друку Скарынінага". У 1646-м у гэтай "кніжніцы" мелася больш за 600 адзінак на царкоўнаславянскай, лацінскай, польскай і іншых мовах. Са старадрукаваных выданняў, якія дайшлі да нас (у двух экземплярах) з гэтага сховішча, можна згадаць "Евангелле", надрукаванае Васілём Цяпінскім.

На некаторых экземплярах маецца унікальныя звесткі, — надпісы тых, хто рабіў гэтыя дарункі. У 1575 г. удавой князя Г. Хадкевіча Супрасльскаму манастыру было падаравана некалькі надпісаных кніг: "Евангелле навучальнае", "Псалтыр з часаслоўцам" (1570), надрукаваныя ў Заблудаве Іванам Фёдаравым і Пятром Мсціслаўцам, а таксама "Апостол", надрукаваны Іванам Фёдаравым у Львове.

Значнае папаўненне бібліятэка атрымала ў XVI ст., калі тут адчынілі беларускую друкарню. Існавала да 1772 г., выйшла ў свет каля 400 твораў.

На пачатку XIX ст. прафесар Віленскага універсітэта М. Баброўскі адшукаў Супрасльскі рукапіс XI ст. А ў 1825 г. ён адправіў найкаштоўнейшую знаходку славісту Капітару ў Вену. 37 сшыткаў, дзе ўтрымліваліся жыцці святых і размовы Іаана Залатавуста, больш на радзіму не вярнуліся. А ў 1876 г. усе найбольш каштоўныя кнігі манастыра былі перададзены ў Віленскую публічную бібліятэку. 1109 кніг на лацінскай, славянскай і польскай мовах апынуліся ў Вільні, — у горадзе, які з цягам часу на пэўны тэрмін стаўся цэнтрам беларускай культуры. У тым жа 1876-м у Віленскую публічную бібліятэку адправілі і 800 кніг з

Віцебскай гімназіі. Усе яны маюць неверагодную бібліяграфічную каштоўнасць, але, на жаль, не належаць беларусам.

Расцягванне гэтых і іншых беларускіх бібліятэк ішло яшчэ доўгія гады. Зрэшты, такі працэс перадачы, абмену, набыцця, вывазу рукапісных і друкаваных выданняў адбываецца заўжды. Бо кнігі, як вядома, пражываюць свае жыцці. Жыцці многіх з іх ашчадна ахоўваюцца і зберагаюцца, але ўсё адно вельмі крыўдна, што адбываецца тое часам за межамі Беларусі. Вольга ГРЫГОР'ЕВА.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# ...Бо тварэнне мацней за разбурэнне

Афіцыйная прапаганда ўнушае беларускаму народу думку аб тым, што мы — нацыя, якая нібыта ўжо адбылася, сцвердзілася, існуе і квітнее. А вось філосаф Валянцін Акудовіч усумніўся ў тым, што такая ёсць: “Пакуль мы хоць збольшага не аформімся ў нацыю, у нас не будзе ні дэмакратыі, ні лібералізму, ні сацыяльнай справядлівасці”. Можа, ёсць рацыя звярнуцца да вопыту нашых суседзяў па Еўропе, а потым экстрапаляваць яго на нашу Беларусь?

Пашырэнне Еўрасаюза з захаду на ўсход пацвярджае выснову вучоных аб тым, што заходнееўрапейскія нацыі сфарміраваліся раней, чым цэнтральна- і паўднёва-ўсходне-еўрапейскія. І з'яўленне незалежных краін, усталяванне дэмакратый разам з рэалізацыяй правоў чалавека адбыліся там раней. Фарміраванне нацый на Захадзе Еўропы ажыццяўлялася ва ўмовах цэнтралізаваных дзяржаў (Англія, Францыя) ці ў працэсе барацьбы за ўз'яднанне дзяржаў на нацыянальнай глебе (Германія, Італія). Рашаючую ролю ў гэтым працэсе там адыгрывала пачуццё дзяржаўнай сувязі: дзяржаўная і нацыянальная прыналежнасць былі ідэнтычнымі. У такіх варунках канстытуіраванне нацыі працякала параўнальна хутка і ішло ад агульнай дзяржавы да агульнай мовы і затым да грамадзянскай супольнасці — нацыі.

Фарміраванне нацый у Цэнтральнай і Паўднёва-ўсходняй Еўропе было больш складаным і запаволеным. Прычынай — шматнацыянальны склад дзяржаў, адсутнасць у некаторых народаў свайго дваранства (славенцы, сербы, румыны, чэхі, славакі, балгары) і ў сувязі з гэтым — адсутнасць дзяржаўна-палітычных традыцый. У гэтым выпадку галоўным фактарам нацыяўтварэння з'явілася не дзяржава, а мова. Поўнасцю мадэль гэтага працэсу ў рэгіёне выглядае так: ад агульнай мовы — да нацыянальнай супольнасці (нацыі), а затым і да ўласнай дзяржавы.

Адметным у фарміраванні нацый у Цэнтральнай і Паўднёва-ўсходняй Еўропе было тое, што яно адбывалася ва ўмовах нацыянальна-вызвольнай барацьбы непаўнапраўных народаў за палітычную незалежнасць ці палітычныя ўмовы свабоднага нацыянальнага развіцця. Прычым палітычная, грамадская і творчая актыўнасць інтэлігенцыі — пісьменнікаў, публіцыстаў, настаўнікаў, вучоных, патрыятычна настроеных святароў, розных слаёў насельніцтва — фарміравалі нацыянальную свядомасць народа. Нацыянальнаму руху слугавалі навука, мастацкая літаратура, тэатры, школа, друк, рознага роду маніфестацыі і іншае. Як бачым, фарміраванне нацый ідзе ў рэчышчы некалькіх працэсаў — моўных, этна-культурных, сацыяльна-эканамічных і г.д. Гэта этап асаблівай важнасці ў гісторыі і жыцці, самім лёсе кожнага народа.

...Кастрычніцкі пераварот 1917 года прыпыніў у Расіі працэс развіцця капіталізму і разам з тым — працэс нацыяўтварэння каланіяльных народаў былой імперыі, у тым ліку і беларусаў. Камуна-чэкісты пачалі небывалы ў свеце эксперымент — этнічны генацыд дзеля стварэння новай супольнасці “савецкі народ”, узяўшы ў якасці асновы рускі народ, а ў якасці “цэменту” — рускую мову.

Палітыка гвалтоўнай русіфікацыі і асіміляцыі змяніла ментальнасць беларусаў, прывяла да прамежкавай, няякаснай мовы — “трасянкі”. І да такога ж прамежкавага няякаснага мыслення, у выніку чаго відавочна знізіўся інтэлект часткі народа. Працэс фарміравання яго ў нацыю не толькі прыпыніўся, а і набыў адваротную хаду. Ад савецкай эпохі беларусам засталася, калі называць рэчы сваімі імёнамі, феадальна-паліцэйскі лад, у якім мы — нацыя, што яшчэ фарміруецца. Але, дзякуючы выдатным паэтам і пісьменнікам, паспела стварыць літаратурную мову і магутную мастацкую літаратуру. Ды гэта — толькі адзін фактар з тых, якія неабходныя для фарміравання і кансалідацыі нацыі, прычым фактар яшчэ не задзейнічаны. Беларусь зараз — краіна з няпоўнай сацыяльнай структурай, у якой адсутнічае важнейшы кампанент фарміравання нацыі — нацыянальная буржуазія (бізнесмены, прадпрымальнікі).

Спадар В.Акудовіч сцвярджае, што беларусы (для фарміравання нацыі) маюць сваю дзяржаву. Так, маем. Але... мы не маем сапраўднай незалежнай дзяржавы. Беларусь залежыць ад Расіі палітычна. Краіна, якая мае “дзірку” ў 800—900 км на сваёй мяжы, праз якую зараз пранікае арганізаваны расійска-беларускі крымінал і праз якую ў любы момант можа ажыццявіцца аншлюс, і не можа быць незалежнай. Сказаў жа расійскі віцэ-прэм'ер С.Іваноў 5 снежня па ТБЦ у праграме “Постскрыптум”, што Расія з Беларуссю мае агульную ваенную групоўку і агульны ваенны план (!). Які план, ён не ўдакладніў, але тут усё зразумела: план па недапушчэнні “памаранчавых” рэвалюцый у Расіі і Беларусі і захаванні існуючай улады там і тут. Так што пагроза Беларусі ідзе не з Захаду, а з Усходу...

...Такім чынам, з дзвюх прапанаваных Еўропай мадэляў фарміравання нацыі беларусы, на жаль, не могуць выбраць ніводнай, бо фактычна не маюць ні незалежнай краіны, ні роднай мовы ў шырокім ужытку, якая ва ўсіх народаў гэтага рэгіёну выконвала галоўную ролю ў фарміраванні нацый. Між тым буйны дзеяч славацкага нацыянальнага руху сярэдзіны XIX ст. Л.Штур нездарма казаў: “Народ, які не мае ніякага кансалідуючага элемента, мае, аднак, такі ў сваёй літаратурнай мове”. А венгр Л.Кошут пісаў: “Мова — яшчэ не нацыя, але мы ведаем таксама, што без мовы няма нацыі”.

Цяпер зразумелі, чаму ў Беларусі мэтанакіравана рэпрэсаваны беларуская мова, літаратура, роднамоўная адукацыя, нацыянальны бізнес, няма прыватнай уласнасці? Каб беларускі народ не скансалідаваўся ў нацыю, каб праз рускую мову і культуру (часцей — дык праз бескультур'е) стаўся рускай нацыяй. Каб расійскія капіталісты на тэрыторыі Беларусі не мелі ні моўных, ні культурных, ні ў сферы капіталу аніякіх праблем! Хіба не “пракалоўся” ў гэтым плане Ул.Пуцін, сказаўшы, што рускія і беларусы — “адзін народ”! Гэта — галоўная мара і мэта імперскага Крамля.

Лідэр краіны, які не зацікаўлены ў тым, каб беларуская нацыя адбылася, робіць свой народ закладнікам імперскай палітыкі чужой краіны.

Нельга не заўважыць, што зараз у Беларусі чуецца куды больш хлусні на чужой мове, чым праўды на роднай. Вось калі колькасць праўды на роднай мове пераважыць колькасць хлусні на чужой, тады, лічы, беларускі народ пачне сапраўды пераўтварацца ў паўнавартасную нацыю.

Апошняе дзесяцігоддзе паказала, што наш народ паступова абуджаецца. Асобна хацеў бы адзначыць велізарны ўнёсак у справу кансалідацыі яго ў нацыю (а мы знаходзімся менавіта на гэтым этапе) сапраўды народнай газеты “Народная воля” з яе мужным галоўным рэдактарам Іосіфам Сярэдзічам, якая прадастаўляе свае старонкі аўтарам з усіх слаёў нашага грамадства, адлюстроўваючы ўвесь спектр думак.

Забарона нацыянальных газет у краінах Цэнтральнай і Паўднёва-Усходняй Еўропы як у XIX стагоддзі, так і ў Беларусі ў XXI стагоддзі паказвае, што шлях да будучыні ляжыць праз церніі. Але гісторыя чалавецтва сведчыць: яе хаду прыпыніць немагчыма! Бо тварэнне мацней за разбурэнне.

Алесь РАШЧЫНСКІ

*******************************************************

# Чарговы перапіс насельніцтва – у 2009 годзе?

У гэтым годзе можа быць прынята рашэнне аб правядзенні чарговага перапісу насельніцтва нашай краіны.

Апошні перапіс насельніцтва праводзіўся ў 1999 годзе. Тым не менш, у нас усё яшчэ адсутнічае адпаведная прававая база. Таму ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі і паступіў законапраект «Аб перапісу насельніцтва». У адпаведнасці з дакументам, перапіс насельніцтва павінен праводзіцца раз у 10 гадоў, – паведамляе газета “Звязда”.

З такой жа перыядычнасцю, згодна з рэкамендацыямі ААН, праводзяць перапіс насельніцтва большасць дзяржаў. Такім чынам, чарговы перапіс насельніцтва Беларусі павінен прайсці ў 2009 годзе, а ўказ аб яго правядзенні неабходна прымаць за тры гады да яго пачатку. У 1999 годзе на перапіс насельніцтва было выдаткавана каля шасці мільёнаў даляраў ЗША, на новы перапіс плануюць выдзеліць 15 мільёнаў даляраў ЗША.

У адпаведнасці з законапраектам, у праграму перапісу насельніцтва ў абавязковым парадку будуць уключацца наступныя пытанні: пол, узрост, дата нараджэння, месца нараджэння, валоданне мовамі, грамадзянства, родная адносіны членаў хатняй гаспадаркі, знаходжанне ў шлюбе, колькасць дзяцей, адукацыя, месца жыхарства, міграцыйная актыўнасць, жыллёвыя ўмовы, крыніцы сродкаў існавання, занятасць.

Саветам Міністраў у праграму могуць уключацца і іншыя пытанні. Аднак нельга будзе ўключыць у яе тыя з іх, адказы на якія могуць утрымліваць інфармацыю, што адносіцца да дзяржаўных сакрэтаў, камерцыйнай або іншай ахоўваемай заканадаўствам Беларусі тайны, парушае правы і свабоды чалавека і грамадзяніна.

pahonia.promedia.by

*******************************************************

# «Евангелле» Васіля Цяпінскага

**XXI стагоддзе азнаменавалася значнай цікавасцю нямецкай славістыкі да беларускай культуры XVI ст. У 2002 годзе было шыкоўнае выданне ў 1 045 старонак пад назвай «Біблія Руска. Выложена доктором Франціском Скоріною, Прага 1517–1519». Кніга складалася з каментарыяў да трохтомнага выдання скарынаўскіх друкаў (Мінск, 1990) і факсімільнага ўзнаўлення «Апостала» (1525) з каштоўнымі і дасведчанымі каментарамі Г.Ротэ.**

Праз год у Нямеччыне адбылося адкрыццё цікавага і каштоўнага экземпляра Бібліі Ф. Скарыны. У 2003 годзе ў Герліцкай гарадской бібліятэцы, дзе праводзілася выстава кнігаў у рамках «Году Бібліі», пастар Лобэрз убачыў Біблію Скарыны, пра што паведаміў нямецкаму славісту Н.Рандаву. Апошні зацікавіўся знаходкай і адразу ж наведаў Верхнялужыцкую навуковую бібліятэку, дзе і ўбачыў унікальны экземпляр. Вынікам знаёмства з ім стала яго паездка у Мінск, дзе восенню 2005 года на прэс-канферэнцыі ён даў падрабязныя звесткі беларускай грамадскасці пра гэты выдатны і рэдкі экземпляр скарынаўскай Бібліі. З яго паведамлення мы даведаліся, што Герліцкі экземпляр аб'ёмам 1 356 старонак знаходзіцца ў добрым стане. Ён складаецца з дзвюх частак. Першая, выдадзеная ў 1519 годзе, змяшчае Пяцікніжжа, а другая, выпушчаная ў 1518 годзе, уключае Кнігу Ісуса, сына Навіны, чатыры Кнігі Царстваў, Кнігу прамудрасці. Да кожнай кнігі дадаецца напісаныя Скарынам прадмовы і кароткія пасляслоўі, а для ўсёй Бібліі — вялікая прадмова.

У гэтым жа годзе ў вядомым нямецкім выдавецтве Фердынанда Шонінга, якое мае свае аддзелы у Аўстраліі і Швейцарыі, выйшаў чарговы фаліянт. Гэта факсімільнае выданне помніка беларускай рэнесанснай думкі — Евангелле ад Мацвея і Марка ў перакладзе Васіля Цяпінскага. Том забяспечаны грунтоўнымі каментарамі і самымі поўнымі звесткамі аб жыцці і творчасці славутага асветніка і ўяўляе сабой шыкоўную кнігу памерам 24 х 34 см. Яна выдадзена на светла-жоўтай высакаякаснай паперы, што з цягам часу не траціць сваёй вартасці і колеру. Выданне з густам афармлена, забяспечана высокакваліфікаваным навуковым апаратам і робіць вельмі прыемнае ўражанне. Яно выпушчана пад назвай «Словы Хрыстовы».

Кніга рыхтавалася на працягу многіх гадоў карпатлівай і напружанай працы вядучым спецыялістам у галіне беларускай культуры і кнігадрукавання XVI ст. Георгіем Галенчанкам і вядомым нямецкім славістам Гансам Ротэ. У выданні другога каштоўнага помніка беларускай рэнесанснай культуры ў нямецкай серыі «Біблія славіка» ўпершыню прадстаўлены беларускаму, у тым ліку і замежнаму, чытачу не толькі поўны тэкст перакладу «Евангелля» В.Цяпінскага на дзвюх мовах — царкоўнаславянскай і беларускай, але і матэрыялы з усёй спадчыны беларускага асветніка. Да тэксту дадаецца прадмова, якая захавалася да сёння толькі ў адным экземпляры ў зборах Расійскай нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбургу. Яна найбольш поўная біяграфія, клапатліва сабраная за доўгія гады пошукаў Г.Галенчанкам у аддзелах старадрукаў важнейшых бібліятэк Усходняй Еўропы. Да яго дадаецца таксама вычарпальны спіс дакументаў, куды ўвайшло больш за 60 рэестраў ды апісанне спадчыны В.Цяпінскага. У ёй шырока прадстаўлены бібліяграфічныя матэрыялы і самы поўны агляд літаратуры і дакументаў, а таксама генеалогія роду Цяпінскіх. Галоўнай ідэяй праекта «Біблія славіка» стала выданне выдатных крыніц старажытнай славянскай пісьмовасці, якім на працягу многіх стагоддзяў не аддавалася належнай увагі. Таму было вырашана вярнуць да жыцця ці наогул упершыню ўвесці ў навуковы зварот мовы, духоўныя культуры, літаратуры славянскіх народаў. Гэта ідэя зыходзіла ад прафесара Ротэ з Бона. Другой важнейшай часткай праекта было — побач з тэкстамі даваць да кожнага выдання вычарпальныя каментары, якія да гэтага часу ў большасці выпадкаў адсутнічалі. Да гэтай аб'ёмнай і важнай працы прыцягваліся найбольш кваліфікаваныя вучоныя з усіх славянскіх краін. Ужо на пачатку 90-х гадоў стала вядома, што міжнародная згуртаванасць навукоўцаў усвядоміла важнасць выдання такіх крыніцаў, каб выцягнуць іх з небыцця і пазнаёміць з імі грамадскасць усяго свету. Праца здзяйснялася выключна на прыватнай аснове, зусім без дзяржаўнай дапамогі і фінансавалася ўласнымі фондамі. Да сёння выпушчана 36 тамоў. У партфелі рэдакцыі «Біблія славіка» маецца яшчэ тры выпускі ў 5 тамах: беларускі, славенскі і польскі. Выданне серыі будзе прадоўжана да 2008 года. З беларускіх старадрукаў чакаюць выпуску «Катэхізіс» Сымона Будната і «Малая падарожная кніжка» Францыска Скарыны.

Уладзімір Сакалоўскі

*******************************************************

# «Упачатку было Слова, і слова было ад Бога...»

Па ініцыятыве ЮНЕСКО 21 лютага адзначаецца Міжнародны Дзень роднай мовы, адзначаецца — з мэтай захавання і развіцця знікаючых...

Нам, як быццам, у званы яшчэ біць зарана, але...

Госці нашай краіны пастаянна пытаюць, чаму ў нас не гавораць па-беларуску? Тлумачу, расказваю шматпакутную гісторыю сваёй роднай мовы. Пра сябе ж зазначаю, што ў большасці — гаворым мы на «трасянцы». Трасянка — у прамым значэнні — стрэсенае сена з саломай, якое ідзе на корм жывёле, калі лепшага ўжо няма. У нас ёсць, але...

У кіёску трэцяга дня хачэў купіць газету «Культура». Кіяскёрша тут жа папярэдзіла: «Она по-белорусски!». Як быццам па-беларуску — гэта не па-людску...

...Так, на першай дзяржаўнай гавораць нямногія. Мова ж без ужытку асуджаная — спачатку на заняпад, потым — на забыццё, а ў ёй жа, як занатавана ў Свяшчэнным пісанні, «жыццё і смерць народа».

«Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!» — перасцерагаў першы класічны нацыянальны паэт Беларусі Францішак Багушэвіч. Сваіх прарокаў мы слухаем рэдка.

Але ж гэта — не той выпадак, каб не пачуць.

Кастусь КАРНЯЛЮК

# За беларускую Беларусь

**21 лютага ў свеце адзначаўся Міжнародны дзень роднай мовы. Гэты дзень абвясціла ЮНЕСКА шэсць гадоў таму па ініцыятыве Бангладэш, дзе 21 лютага 1957 года загінулі пяць студэнтаў, якія адстойвалі свае права вучыцца на роднай мове.** Паводле ААН, амаль палова з шасці тысяч існуючых у свеце моваў знаходзіцца пад пагрозай знікнення. Мовазнаўцы лічаць, што для выжывання мовы дастаткова 10 тысяч яе актыўных носьбітаў. Хочацца думаць, што на 10 мільёнаў беларусаў набярэцца 10 тысяч актыўных носьбітаў беларускай мовы. Актывісты Таварыства беларускай мовы часта згадваюць, што падчас апошняга перапісу насельніцтва абсалютная большасць жыхароў краіны назвалі роднай моваю менавіта беларускую. Але назвалі — не значыць карыстаюцца ёю. А моўную палітыку ў нас наўпрост вызначае вялікая палітыка. Узаконенае ў дзяржаве двухмоўе фактычна пазбавіла магчымасці пашыраць сферы выкарыстання беларускай мовы ва ўсіх дзяржаўных і грамадскіх інстытутах. Узяты яшчэ апошнім бээсэсэраўскім урадам і дэпутатамі Вярхоўнага Савета 12-га склікання курс на паступовую беларусізацыю краіны з цягам часу паступова скончыўся ў незалежнай ужо Беларусі. У моўнай палітыцы пачаўся рэзкі адкат назад. Наданне расійскай мове статуса дзяржаўнай прывяло да яе поўнага панавання ва ўсіх сферах жыцця. Беларуская мова сёння актыўна выцясняецца адтуль, дзе яшчэ захавала сваю прысутнасць — з сістэмы адукацыі. Паводле Радыё Свабода, толькі за апошні год ліквідавалі 152 сярэднія школы з беларускамоўным навучаннем. Яшчэ раней улады зачынілі ў сталіцы Нацыянальны гуманітарны коласаўскі ліцэй, не кажучы ўжо, што абсалютная большасць ВНУ пераведзена на расейскамоўнае навучанне. Вельмі паказальнае ў моўным пытанні наша тэлебачанне, дзе пануе афіцыйная Беларусь. Расейскамоўную ўладу дзяржаўнае тэлебачанне абслугоўвае выключна па-расейску. Здаецца, каб пачуў сёння, што прэзідэнт, прэм'ер-міністр ці хаця б які проста міністр дае інтэрв'ю па-беларуску — падумаў бы, што з'ехаў з глузду. І ўсё ж беларускасць не-не дый прабіваецца праз афіцыйную расейшчыну. Прычым у самым, здаецца, нечаканым месцы. Надпіс "За батьку!" на афіцыйных дзяржаўных сцягах, якімі махалі камсамольцы падчас прапагандысцкай тэледыскатэкі "Чистый возраст" на канале ОНТ, якраз і з'яўляецца прыкладам такой беларускасці. Хоць агітка і напісана ў расейскай транскрыпцыі. Але чырвона-зялёны сцяг, вернуты праз рэферэндум у якасці галоўнага дзяржаўнага сімвала, натуральна, павінен асацыявацца з ім, з "батьком". Можна сказаць, малайцы паліттэхнолагі, унеслі навіну ў выбарчую кампанію! Да сёлетніх прэзідэнцкіх выбараў на сцягах, здаецца, персанальныя заклікі яшчэ не пісалі.

Моўная спецыфіка Беларусі яшчэ і ў тым, што мова ў нас не толькі сродак зносінаў, але і палітычны інструмент. Расейскамоўнае кіраўніцтва краіны усіх носьбітаў беларускай мовы адносіць да ліку сваіх праціўнікаў. Праўда, гэта яшчэ зусім не значыць, што ў нас спрэс беларускамоўная апазіцыя. Нават калі меркаваць па сённяшніх прэтэндэнтах на прэзідэнцкую пасаду, то Аляксандр Мілінкевіч, які свабодна валодае і выкарыстоўвае беларускую мову ў сваіх публічных выступленнях, застаецца сярод сваіх супернікаў у меншасці. У Аляксандра Казуліна загаварыць па-беларуску пакуль не атрымліваецца, а Лукашэнка з Гайдукевічам гавораць толькі па-расейску.

Сёння ўказамі прыватызаваны для дзяржавы словы "беларускі", "нацыянальны" ў той час, як улада па ўсёй вертыкалі знаходзіцца недзе ў зусім іншай прасторы ад усяго сапраўды беларускага і нацыянальнага. Як і ў гісторыі з перайменнем мінскіх праспектаў, зроблена гэта было хіба толькі дзеля таго, каб лішні раз паказаць, хто ў доме гаспадар. Сённяшняя небеларуская Беларусь найбольш прывабная і прыцягальная для Расіі, з якой даўно і ўмела ідуць інтэграцыйныя гульні на яе ж мове... У штодзённым жыцці большасць з нас сёння размаўляе на адаптаванай расейскай. У правінцыйных гарадах кшталту нашага Слоніма амаль за норму сыходзіць "трасянка". Пры гэтым мы ў сваёй большасці называем роднай беларускую мову. Разгадку гэткага феномена беларускага народа трэба шукаць ці не ў глыбока схаванай генетычнай памяці. Ва ўмовах, калі вякамі і да апошняга часу беларусы не жывуць, а выжываюць паміж Захадам і Усходам, надзея на тое, што калісьці і ў нас будзе свая па форме і змесце беларуская дзяржава, — не так і мала.

**************************************************

# Зварот Таварыства беларускай мовы

Апошнім часам у Менску назіраецца сьвядомае абмежаваньне канстытуцыйных правоў беларускамоўных чытачоў. У газэтных шапіках "Белсаюздруку" і "Белпошты" амаль немагчыма знайсьці газэту альбо паштоўку на дзяржаўнай беларускай мове. "Менгарсаюздрук" не заключыў дамоваў на продаж у сталіцы вядомых незалежных беларускамоўных выданьняў - "Нашага слова", "Нашай Нівы" і "Рэгіянальнай газеты". У нязначнай колькасьці паступаюць у продаж газэты "Літаратура і мастацтва", "Культура" і "Звязда". У адрозьненьне ад аддзяленьняў сувязі і Галоўпаштамту, у шапіках "Белсаюздруку" практычна зьніклі беларускамоўныя паштоўкі, календары і дзіцячая літаратура.

Мы зьвяртаемся да сяброў і прыхільнікаў ТБМ, усіх неабыякавых грамадзян і гасьцей нашай сталіцы рабіць адпаведныя запісы ў кнігу заўваг і прапаноў, якая павінна быць у кожным шапіку, альбо непасрэдна зьвяртацца да сп. І.В. Дудзіча, дырэктара Менгарсаюздруку па адрасе: 220050 Менск, вул. Валадарскага, 16.

**************************************************

# ВЫДАДЗЕНЫЯ ЧАЦВЁРТЫ, ПЯТЫ І ШОСТЫ ТАМЫ ПОЎНАГА ЗБОРУ САЧЫНЕННЯЎ ВАСІЛЯ БЫКАВА

Выдадзеныя чацвёрты, пяты і шосты тамы поўнага збору сачыненняў народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава ў 14 тамах. Па словах старшыні Саюзу пісьменнікаў Алеся Пашкевіча, выдавецкі праект з'яўляецца не камерцыйным, а нацыянальна-асветніцкім. Увесь тыраж - 3.000 асобнікаў - бясплатна перадаецца ў бібліятэкі Беларусі. Пашкевіч адзначае, што службоўцы баяцца кніг Быкава. Напр., міністр культуры афіцыйна адмовіў у цэнтралізаванай перадачы першых трох тамоў у бібліятэкі Беларусі. Таму чальцы Саюзу пісьменнікаў самастойна развозяць і прэзентуюць кнігі з творамі Быкава. У бліжэйшыя два гады плануецца завяршыць працу па выданні поўнага збору сачыненняў класіка беларускай літаратуры.

**************************************************



ЦІКАВЫ СУРАЗМОЎЦА

# Бог разумее нашую мову

Айцец Сергій (Сяргей Гардун) — асоба ў пэўных колах вядомая. Разам са сваімі паплечнікамі ён зрабіў пераварот у праваслаўным богаслужэнні, укараніўшы ў яго беларускую мову. Сёння ён госць нашай рэдакцыі

— Айцец Сергій, з чаго ўсё распачыналася?

— На Русі здаўна (ды і ў нас) богаслужэнне ў храмах вядзецца на стараславянскай мове, хаця ў 1875 годзе Біблія была перакладзена на рускую мову. Падчас перабудовы, станаўлення беларускай дзяржавы востра адчувалася запатрабаванасць у развіцці нацыянальных традыцый, і пад уплывам твор чай інтэлігенцыі ў асяродку праваслаўных святароў пачалася частковая беларусізацыя, пытанне было пастаўлена і перад мітрапалітам Філарэтам. І ў 1991 годзе па яго блаславенні была створана Беларуская біблейская камісія для перакладу Евангелля са старадаўняй грэчаскай мовы (арыгінала) на беларускую. У камісію ўвайшлі пяць чалавек — вучоныя-славісты і святары, а я стаў кіраўніком камісіі і вызначаю канчатковы варыянт перакладу.

— Што зроблена за гэты перыяд?

— Пераклалі чатыры кнігі Евангелля — ад Матфея, ад Марка, ад Лукі і нядаўна скончылі — ад Іаана. Зараз ідзе праца над агульным беларускім богаслужэбным выданнем Евангелля, якое, акрамя гэтых чатырох кніг, будзе мець расклад (каляндар) малітваў на кожны дзень. Гэтая праца накіравана не толькі ў дапамогу святарам, але і прыхаджанам. Напрыклад, калі служба ідзе не па-беларуску, а на стараславянскай мове, то дома можна будзе прачытаць гэтую малітву па-беларуску. Тыраж кнігі будзе дастатковым, каб задаволіць усіх жадаючых.

— А колькі іх у нас?

— Па царкоўных правілах службу можна весці на любой мове. У многіх нашых храмах людзі падыходзяць да святара і просяць весці богаслужэнне на беларускай мове і чытаць малітвы з нашых кніг. Сёння каля дваццаці прыходаў у Беларусі цалкам перайшлі на беларускую мову, але я ўпэўнены, што пасля выхаду ў наступным годзе беларускамоўнага агульнага Евангелля іх будзе больш.

— Але ёсць і іншае меркаванне — што з Богам трэба "размаўляць" на ўзнёслай, не зразумелай простаму народу мове?

— Я закаханы ў беларускую мову і цвёрда ўпэўнены, што яна павінна быць ва ўсіх сферах жыцця беларусаў, у тым ліку — у рэлігіі і адукацыі. Мой асабісты ўнёсак у гэтую святую справу — пераклад на беларускую мову чына споведзі, вячэрняй малітвы, літургіі. І ўвогуле ўсё богаслужэнне я вяду толькі на беларускай мове.

— Якія Вашы абавязкі ў служэнні і на працы?

— Я адзін са святароў у Мінскім кафедральным саборы, акрамя таго — загадчык кафедры бібліістыкі і царкоўна-практычных дысцыплін у Інстытуце тэалогіі пры БДУ.

— Як ідуць справы ў інстытуце пасля таго, як яго ад Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта перадалі БДУ?

— Ёсць праблемы ў частцы аплаты працы выкладчыкаў, яны не атрымліваюць надбаўку за ступень кандыдата багаслоўя, паколькі дзяржава не прызнае царкоўныя навуковыя ступені, спасылаючыся на тое, што царква аддзелена ад дзяржавы. Аднак гэта нелагічна: калі не прызнаваць навуковыя ступені, то не трэба ўвогуле прызнаваць багаслоўскай адукацыі. Зараз мы прэтэндуем на аплату статусу па сваіх дыпломах і спрабуем абгрунтаваць гэта ў Мінпрацы і Мінадукацыі.

— Лічыцца, што толькі высокаадукаваны чалавек мог узяцца за пераклад Святога Пісання. Якія ў Вас ступені адукацыі, як Вы асабіста прыйшлі да рэлігіі?

— Я нарадзіўся і вырас на Брэстчыне ў вёсцы Дзівін у сям'і простых веруючых сялян. З пяці гадоў хадзіў разам з бацькамі ў царкву, сябры-школьнікі мяне не асуджалі. Я дагэтуль удзячны класнай настаўніцы, што яна мне ў характарыстыцы напісала толькі адно — "цяжка паддаецца ўнушэнню". У восьмым класе я ўпершыню прачытаў у дзядзькі Біблію, шмат разнастайнай атэістычнай літаратуры і хутка зразумеў, што ўсе "савецкія пастулаты" нішто ў параўнанні са Святой Кнігай — яна нясе духоўнасць і ўнутранае абагачэнне. Тады і з'явілася ў мяне мара стаць святаром, але ў той час у Беларусі не было духоўных семінарый. Я лёгка паступіў у Інстытут замежных моў у Мінску, атрымаў спецыяльнасць настаўніка англійскай і французскай моў. Паралельна самастойна вывучыў лацінскую мову, якая ляжыць у аснове многіх еўрапейскіх. Стаў працаваць настаўнікам у суседнім сяле, але мару сваю ўсё роўна не пакінуў. Хутка паступіў у Маскоўскую духоўную семінарыю, а пасля яе заканчэння вучыўся там жа ў Духоўнай акадэміі і выкладаў у семінарыі англійскую мову. Хутка абараніў кандыдацкую дысертацыю па багаслоўі. Сем гадоў правёў у далечыні ад Радзімы, але як толькі ў Жыровічах адкрылі навучальныя ўстановы, я папрасіў, каб мяне адправілі дадому.

Зараз я выкладаю ў Жыровіцкай семінарыі практычнае кіраўніцтва для пастыраў і ў Акадэміі — пастырскае багаслоўе. У Мінску ў інстытуце я выкладаю дадаткова англійскі курс па багаслоўскай тэрміналогіі, каб мае выпускнікі маглі чытаць у арыгінале багаслоўскую літаратуру.

— У Вас вялікая сям'я, раскажыце пра яе?

— Калі я быў настаўнікам у сяле, пазнаёміўся з адной з дочак мясцовага святара, яна потым працавала там бухгалтарам, але марыла стаць царкоўным рэгентам. Калі мы ў Маскве павянчаліся, жонку выгналі з працы за тое, што яна пайшла замуж за святара, яна стала прыбіральшчыцай. У Беларусі мы жылі некаторы час у Слоніме, з чатырма дзецьмі ў невялікім пакойчыку. Затым, ужо ў Мінску, куды мяне перавялі ў 1994 годзе, епархія выдзеліла нам службовае жытло, дзе мы з шасцю дзецьмі ад шасці да васемнаццаці гадоў жывём дагэтуль. Але зараз будуем свой

дом. Іншымі словамі, у мяне звычайная сям'я, дзяцей выхоўваем у хрысціянскіх традыцыях, старэйшы сын вучыцца ў БДУ на гісторыка.

— Хутка прэзідэнцкія выбары, як паказала практыка, некаторыя святары насуперак законам рэлігіі агітуюць за нейкага кандыдата? Гэта правільна?

— Па царкоўным законе гэта не дазваляецца, але людзі часцяком ідуць раіцца да святара па тых ці іншых пытаннях, у тым ліку — палітычных. Калі я служыў у Слоніме, да мяне прыходзілі пытаца, за каго галасаваць на першых прэзідэнцкіх выбарах, ці галасаваць за Лукашэнку? Але я і сам тады не вызначыўся, мне ён тады не падабаўся, і я нічога не мог сказаць людзям. А сам і ўвогуле не пайшоў галасаваць, хаця потым мяне многія асуджалі.

— Якія Вашыя планы на будучыню ў частцы беларусізацыі богаслужэння? ?

— Будзем перакладаць Дзеянні Святых Апосталаў і Пасланне Святых Апосталаў, яны таксама патрэбны народу.

Галіна ЯФІМАВА. /Н.В./

*****************************************

# Як пачаць размаўляць па-беларуску?

Многія тысячы нашых суродзічаў хочуць загаварыць па-свойму, але ня могуць. Праблема пераходу перадусім псыхалягічная. Мы паспрабавалі падсумаваць пасьпяховы досьвед вяртаньня да сваёй мовы і выпрацаваць тэхнічныя рэкамэндацыі, як гэта робіцца. Піша **Сяргей Богдан.**

**Пачынайце з асобных**
беларускіх словаў і выразаў у сваёй расейскай гаворцы. Скажам, зь «дзякуй — калі ласка», але ні ў якім разе не кажыце гэтых словаў сьмехам. Усё павінна крыху нагадваць сытуацыі з твораў клясычнай расейскай літаратуры, дзе героі, каб падкрэсьліць думку, выкарыстоўваюць францускую мову, гаворачы збольшага па-расейску. Нічога ненармальнага ў зьмяшаньні моваў няма, таму не паддавайцеся на наезды, маўляў, давай размаўляй на нейкай адной мове.

**Кіньце пустыя**
дыскусіі аб тым, чаму нам варта размаўляць па-беларуску і чым беларуская мова лепшая альбо горшая. Гэта бессэнсоўныя спрэчкі. Беларуская мова лепшая, бо яна нашая і нам яе даў Бог. Гэта — найлепшы і адзіны аргумэнт. Запомніце: выбар мовы — гэта аксіёма, а не тэарэма. У спрэчках пра выкарыстаньне тае ці іншае мовы ня можа быць лёгікі, а рацыянальныя аргумэнты ня могуць быць вычарпальныя. Глупства — параўноўваць мовы багацьцем лексыкі, старажытнасьцю і іншымі суб'ектыўнымі крытэрамі. Спробы давесьці, што «белмова ня горшая за...» або «ня менш мілагучная, як...» сьведчаць толькі пра наяўнасьць комплексу непаўнавартасьці. Адначасова барані вас Божа абражаць пры тым іншую мову. Не прыпадабняйцеся да апанэнтаў у іх дзікунстве. Мы змагаемся ня супраць расейскай мовы, а за правы беларускай мовы. За сваю годнасьць.

**Не сьпяшайцеся і пашырайце**
сфэру свайго маўленьня па-беларуску паступова, каб не траўмавацца, шукаючы аднадумцаў. Пры пераходзе на белмову вы мяняеце свой сьвет. Пераходзячы на іншую мову, вы мяняеце нешта большае, чым мову — вы перараджаецеся як чалавек. Нярэдка пры такім пераходзе людзі перажываюць свайго роду духоўнае вызваленьне, ачышчэньне ад мінулага. Перайсьці да ўнівэрсальнага ўжываньня белмовы ва ўсіх сфэрах імгненна ня ўдасца. У некаторых вузкаспэцыяльных сфэрах вы наагул ня зможаце гэтага зрабіць да сканчэньня маральнага перавароту ў грамадзтве. Выйсьце ў тым, што, нават працуючы з расейскамоўнымі дакумэнтамі і спэцыфічнымі тэхналягічнымі пытаньнямі, вы можаце выкарыстоўваць белмову ў нефармальнай камунікацыі з калегамі (абмяркоўваючы тыя самыя дакумэнты). Ваш штодзённы дэвіз — рабі хоць штосьці. Сапраўды, што замінае вам усталяваць на працы тую ж беларускамоную інтэрнэт-праграму «Опэра» ці паставіць белмову ў наладках «Гуглу»? Гэта ж наша краіна, давайце ўстановім у ёй свае парадкі. Адцеміце, што самы эфэктыўны спосаб дзеяньня — гэта такі, пры якім відочныя толькі яго вынікі, але вінаватых знайсьці немагчыма. Таму штодня незаўважна падкопвайцеся пад існы моўны рэжым.

**Пераходзячы на родную**
мову і зьмяняючы свой сьвет, зьвярніцеся да тых рэчаў, якія вас атачаюць. Пачнём з тэлевізара і радыё. Пакуль што беларускага ТБ няма, а беларускага радыё няшмат — хіба што «Свабода», ватыканскае і іншыя дробныя станцыі. Выйсьце ў тым, што калі дагэтуль вы даведваліся пра навіны ў сьвеце з расейскамоўнага ТБ ці радыё, дык ураўнуйце гэты ўплыў расейскай мовы ў сваім жыцьці нейкай іншай мовай. Пачніце слухаць/глядзець нешта на любой іншай мове, якую вы разумееце. Для ўсіх паспалітых беларусаў гэта можа быць украінская мова, а для вельмі многіх — польская. Калі ж ніякіх магчымасьцяў дзеля таго ў вас няма, дык замяніце гадзіну сядзеньня перад электроннымі СМІ чытаньнем і стаўцеся да гэтага, як да важнага занятку. Перагледзьце і тое, што вы чытаеце, пераарыентаваўшы ўсё, што магчыма, на беларускамоўныя выданьні. Вядома, гэта не павінна ісьці на шкоду вашым прафэсійным здольнасьцям — што зробіш, калі падручнік радыётэхнікі ў нас існуе пакуль толькі па-расейску.

**Немагчыма імгненна.**
аваладаць мовай, і вам спачатку будзе бракаваць нашых словаў для азначэньня многіх рэчаў. Не бянтэжцеся, а проста выкарыстоўвайце расейскія словы. Нічога заганнага ў выкарыстаньні замежных словаў, пакуль бракуе сваіх, няма. Многія забаўляе звычка каўкаскіх і сярэднеазіяцкіх народаў былога Саюзу шчодра перасыпаць расейскімі тэрмінамі сваю гаворку. Часам у ёй ад роднай мовы застаюцца толькі дзеясловы-зьвязкі, прыметнікі ды службовыя словы (як вам «регистрация дар райотдел»?). Акурат такое юзаньне словаў імпэрскай мовы каланізаванымі дазволіла ім захаваць сваю ідэнтычнасьць, тады як беларусы, пазбаўленыя імпэрскай практыкай магчымасьці казаць усё-усё-усё па-свойму, пераходзілі на «багацейшую» расейшчыну. Калі для нейкай рэчы вы ня можаце знайсьці ў слоўніках адпаведнай беларускай назвы, дый стварыце свае слова — вядома, калі вам тое само ідзе ў галаву. Займайцеся толькі тым, што прыходзіць вам само сабою. Пры тым не зьвяртайце ўвагі на акадэмічныя каноны, але толькі на падетавовыя нормы белмовы (абы «р» не было мяккім). Акадэмічныя каноны, слоўнікі і граматыкі фіксуюць мову і дазваляюць упарадкаваць літаратурную мову, гэта праца мовазнаўцаў, якія з акіяну разнастайнасьці народных гаворак ствараюць мову, зразумелую для ўсіх. У вас больш сьціплая задача — размаўляць па-свойму, а не займацца мовазнаўствам. Калі сёньня вашае маўленьне не адпавядае ягоным нормам, дык гэта ня вашая праблема. Калі вы працягнеце размаўляць па-свойму дастаткова працяглы час, дык неўзабаве вашыя наватворы стануць акадэмічнай нормай. Няма нічога больш крохкага за аб'ектыўную рэальнасьць і акадэмічныя каноны.

**Зразумейце розьніцу**
паміж гутарковай і літаратурнай мовай. Акадэмічныя каноны існуюць для літаратурнай мовы. Калі вы хочаце напісаць артыкул ці раман, які б зразумелі ўсе суродзічы, тады вы сапраўды мусіце трымацца агульнанацыянальнага канону літаратурнай мовы. Але ў размове з сваякамі няма нічога больш дзіўнага, чым размаўляць «па-граматычнаму». Таму сьмела ўжывайце наватворы, калі можаце, прысабечвайце любыя выразы і словы з усіх магчымых крыніцаў. Памятайце, што у вашай мясцовасьці абавязкова ё свой дыялект, і калі вы загаворыце бліжэй да яго, ваш патрыятычны намер будзе лепш зразуметы ў сям'і, чым калі вы раптам паспрабуеце беларусізаваць сваю сямейную камунікацыю праз чыстую літаратурную мову, якая ў вачах вашых сваякоў будзе дзівацтвам, «мовай пісьменьнікаў». Гэта ня так складана, як спачатку здаецца. Справа ў тым, што ў многіх раёнах нашай краіны людзі «паміж сваімі» і цяпер гавораць на сваёй мове, але не атаясамліваюць яе зь літаратурнай беларускай мовай.

**Адраджайце спачатку**
гэтую «сваю мову», а пасьля ўжо літаратурную. Прыкра, але і сёньня многія фармальна беларускамоўныя суродзічы гавораць у хаце зь сям'ёй па-расейску. То й ня дзіва. У грамадзтве яны карыстаюцца агульнапрынятай беларускай літаратурнай мовай, але, ідэнтыфікуючы яе як нешта афіцыйна-грамадзкае, яны і іх сям'я не карыстаюцца гэтай беларускай літаратурнай мовай дома. Такое становішча фатальна адбіваецца на трываласьці пазыцыяў нашае мовы. Першаснай задачай для ўсіх ёсьць адмаўленьне ад расейскай мовы у хаце, ва ўласнай сям'і.

**Ваша мова — гэта само сабою найлепшы**
сродак пераканаць вашых небеларускамоўных апанэнтаў. Запомніце: усе Боскія правы і законы (канцэпцыі натуральных правоў — для лібэралаў і атэістаў) на нашым баку, як беларускамоўных. Вам непрыемна, што з вамі размаўляюць не на вашай мове, хаця павінны? Не пераймайцеся. Хай ім будзе нязручна і дыскамфортна ад таго, што вы зь імі гаворыце па-беларуску. Стварыце нязручнасьць тым, хто пагражае вашым інтарэсам. Пачніце цьвёрда размаўляць зь імі па-беларуску. Яны хочуць паставіць сябе вышэй за вас, хай жа адчуюць ніжэйшасьць сваёй пазыцыі, хай ім стане няёмка за сваю неадукаванасьць! Вы пабачыце, што мова — гэта зброя. Дык узьдыміце ж яе і наступайце пры ейнай дапамозе на вашага небеларускамоўнага візаві.

**Нашая мова сёньня**
ўжо ня так цесна зьвязаная з пэўнымі палітычнымі поглядамі («ня ёсьць БНФаўскай»), як раней. Беларускамоўных людзей большае кожны дзень, і прадстаўнікі савецкай нацыі за мову ўжо прынамсі не рашаюцца абражаць. У той самы час беларускамоўнаму чалавеку веры зазвычай даюць болей, што спрыяе ў многіх жыцьцёвых справах. Да гэтага дадаецца салідарнасьць усіх беларусаў, і гэтая супольнасьць, пашыраючыся, у будучым стане асновай новае Беларусі. Мы людзі будучыні зь несавецкай, утульнай і ўсьмешлівай Беларусі. Там, дзе мы ўсе будзем спадарамі і спадарынямі, а не «мушчынамі» і «жэншчынамі». Таму апошні запавет — будзьце аптымістамі. Калі нават пры нікчэмных сродках мы ўсяго за дзесяцігодзьдзе дамагліся такога велізарнага прагрэсу, дык нашая канчатковая перамога сапраўды блізкая.

Не зьяўляючыся мовазнаўцам, я выходзіў у гэтых парадах выключна з практычных меркаваньняў і рэальнага досьведу. Няправільна з тэарэтычнага пункту гледжаньня? Затое выпрабавана ў жыцьці. *"Наша Ніва"*

*****************************************

# Што пагражае беларускай мове?

Сёньня адзначаецца Міжнародны Дзень роднай мовы, вызначаны ЮНЭСКО 21 лютага 2000 году. Амаль паўстагодзьдзя таму з ініцыятывай заснаваньня падобнай даты выступіла Бангладэш, дзе, адстойваючы права вучыцца на роднай мове, загінулі пяць студэнтаў. А які статус і месца беларускай мовы ў Беларусі?

Паводле Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў, ледзьве не палова ад 6000 існуючых у сьвеце моваў пад пагрозай зьнікненьня. І хоць лічыцца, што дзеля захаваньня мовы дастаткова 10 тысяч яе актыўных носьбітаў, у Беларусі сытуацыя спэцыфічная. Толькі за апошні год зьліквідаваныя 152 сярэднія школы зь беларускамоўным навучаньнем, зачынены прэстыжны Нацыянальны гуманітарны коласаўскі ліцэй, абсалютная бальшыня ВНУ пераведзена на расейскамоўнае навучаньне.

Вясковая настаўніца Ларыса Казлоўская са Смаргоншчыны прычыны такога стаўленьня да роднай мовы бачыць у памылковай, на ейнае перакананьне, практыцы ўзаконенага дзьвюхмоўя ў краіне, дзе цягам стагодзьдзяў беларускую мову выціскалі іншымі.

(Казлоўская:) "Яшчэ па вёсках сытуацыя тудысюды, на вёсках беларуская мова "загнаная" яшчэ ня так. А ў гарадах вазьміце, што робіцца? Нават Смаргоні ўжо такія. Альбо едуць нашыя на працу ў Маладэчна. Прыпынкі Заскавічы, Пруды. Ад Залесься да Заскавічаў яшчэ гавораць па-беларуску, да першага прыпынку. Як прыпынак пераедуць, пачынаюць па-расейску. Дык што гэта — ня хочуць беларусамі быць? Хочуць расейцамі выглядаць, гэта нібыта куды лепей. І што зробіш? Мабыць, рэч у тым, што пытаньне так пастаўленае — дзьвюхмоўе, што хочаш, тое і выбірай".

Адмыслоўцы канстатуюць, што беларускую мову больш шануюць у замежжы, чым у самой Беларусі. Расказвае адзін з актыўных прадстаўнікоў беларускай дыяспары ў Чыкага Ванкарэм Нікіфаровіч, які жыве ў ЗША ад 1993 году.

(Нікіфаровіч:) "У той хвалі эміграцыі, якая сюды прыехала ў апошнія дзесяць-пятнаццаць гадоў, многія зь беларусаў працягваюць цікавіцца і беларускай духоўнасьцю, і культурай. Многія і мову ведаюць, многія вучыліся ў беларускіх школах. Так што, калі зьбірае імпрэзы асацыяцыя "Землякі" (а ёсьць і беларускае зямляцтва), то ўвесь час гучаць беларускія песьні, рыхтуюцца спэцыяльныя праграмы, дэманструюцца ўрыўкі зь відэа-, кінафільмаў. Так што цікавасьць да ўсяго беларускага вельмі вялікая".

У Беларусі ад сярэдзіны 1990-х хваля нацыянальнага адраджэньня, якая суправаджалася актыўным вяртаньнем беларускай мовы ў шырокі ўжытак, была спыненая прэзыдэнцкай ініцыятывай аб наданьні статусу дзяржаўнай і расейскай мове. Татальная русіфікацыя адбылася ва ўладных структурах, у электронных і друкаваных СМІ ды ў іншых сфэрах. Праз трансьляцыю расейскіх тэлеканалаў публіку выхоўваюць на ўсім спэктры расейскіх забаўляльных шоў. Лідэр этнагурту "Палац" Алег Хаменка кажа, што падобныя густы фармуюцца на дзяржаўным узроўні.

(Хаменка:) "Паглядзіце тэлевізар — каго бачаць, на таго і ідуць. Мабыць, трэба і на тэлебачаньне перанесьці тое, што ўлады прапанавалі для радыё — каб на ўсіх каналах, якія гледачы бачаць у Беларусі, былі беларускія выканаўцы. Гэта спрабуюць рабіць, але чым? Сьпяваюць расейскамоўныя песьні беларускія выканаўцы, хлопчыкі і дзяўчаткі, якія мараць пра Маскву. Таму і капіююць алегравых, газманавых, мэладзэ і г.д."

На такім тле інтарэс да беларускай мовы выяўляюць рэкламадаўцы. Тэлевізійная і газэтная рэкляма, вулічныя біг-борды ўсё часьцей зьвяртаюцца да беларускай мовы. Літаральна за апошні год буйныя ўсясьветныя канцэрны, сярод якіх "Samsung", "Panasonic", "Coca-Cola", "Mitsubishi" загаварылі са спажыўцамі па-беларуску.

*****************************************

# Кожны чацверты беларус нараджаецца па-за шлюбам

**Міністэрства адукацыі Беларусі завяршыла гадавую работу па падрыхтоўцы Нацыянальнага даклад у "Становішча дзяцей у Рэспубліцы Беларусь у 2004 годзе". Такія дакументы ствараюцца ў краіне з 1999 года па ініцыятыве ўласна Мінадукацыі, але пры шырокай падтрымцы міністэрстваў статыстыкі і аналізу, аховы здароўя, спорту і турызму, працы і сацыяльнай абароны, культуры, інфармацыі і іншых.**

Паводле слоў начальніка Упраўлення сацыяльнай і выхаваўчай работы Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь Георгія Бутрыма, даклад адлюстроўвае асноўныя накірункі і вынікі дзяржаўнай сацыяльнай палітыкі ў адносінах да дзяцей, дзеянні і меры, якія забяспечваюць прыярытэт інтарэсаў дзяцей у развіцці краіны. "З дапамогай Нацыянальнага дакладу аб становішчы дзяцей у 2004 годзе мы прааналізавалі статыстычныя звесткі, адсачылі тэндэнцыі і асабліваеці зробленага згодна з рэкамендацыямі міжнародных дакументаў па становішчы дзяцей Генеральнай Асамблеі ААН, Камітэта па правах дзіцяці, а таксама згодна з Нацыянальным планам дзеянняў па паляпшэнню становішча дзяцей і абароне іх правоў у Рэспубліцы Беларусь на 2000-2003 гады, — адзначае Георгій Аляксеевіч. — З 2004 года ўступіў у сілу больш насычаны, маштабны план, разлічаны на 2004-2010 гады. Згодна з ім, для краіны дзяцінства плануецца ажыццявіць 135 важкіх мерапрыемстваў…".

Такім чынам, на пачатак 2005 года ў Беларусі пражывала 9.800.073 чалавекі, з якіх дзеці ва ўзросце да 17 гадоў складалі 2.007.965. Гэта 20,5 працэнта ад агульнай колькасці насельніцтва. Калі гаварыць больш дакладна, то дзеці ва ўзросце да 6 гадоў складаюць каля 6,4 працэнта ад агульнай колькасці, 7-15 гадоў — 10,7, 16-17 гадоў — 3,3 працэнта. Цікава, што ва ўзроставай групе да 17-ці гадоў дзяўчаты складаюць 48,7 працэнта, а хлопцы — 51,3.

Абсалютная большасць дзяцей пражывае у гарадской мясцовасці, і толькі 28 працэнтаў — у сельскай. Багатыя на дзяцей Мінск, Брэсцкая і Гомельская вобласці, бяднейшыя — Магілёўская і Гродзенская.

У параўнанні з пачаткам 2004 года колькасць дзяцей на пачатак 2005-га зменшылася на 85.727 чалавек, або на 4,1 працэнта. На пачатак 2004-га ў параўнанні з 2003-м краіна "недабрала" 77.788 дзяцей, або 3,6 працэнта. Увогуле з 1990 па 2004 год агульнае зніжэнне колькасці дзяцей склала амаль 785 тысяч чалавек. Тэндэнцыя агульнага скарачэння колькасці дзяцей характэрная і для асобных узроставых катэгорый. Так, колькасць дзяцей ва ўзросце да 6 гадоў зменшылася на 500 чалавек, 7-15 гадоў — на 74.280, 16-17 — на 10.947.

Найбольшае зніжэнне колькасці дзяцей у 2004 годзе, як і ў папярэдні год, адбылося ў Мінскай, Гомельскай і Віцебскай абласцях, найменшае — у Мінску, Гродзенскай і Магілёўскай абласцях.

У 2004 годзе нарадзілася 89.943 дзіцяці. Каэфіцыент нараджальнасці павялічыўся з 9,0 у 2003 годзе да 9,1 у 2004, прычым сярод гарадскога насельніцтва ён застаўся на ўзроўні 2003-га і склаў 9,2, а сярод сельскага павялічыўся з 8,4 да 8,6.

Агульны каэфіцыент шлюбнасці на 1000 чалавек склаў 6,1, а ў 2003-м быў 7,1. Агульны каэфіцыент скасавання шлюбаў на 1000 чалавек быў роўны тром, у 2003 — 3,2.

У 2004 годзе вырасла колькасць дзяцей, якія нарадзіліся ў жанчын па-за шлюбам — 21.252, або кожны чацвёрты ад агульнай колькасці народжаных. У скасаваных шлюбах выхоўваліся 21,7 тысячы дзяцей.

Па выніках 2004 года 4626 дзяцей адабраны ў бацькоў, якія пазбаўлены бацькоўскіх правоў, а гэта на 470 дзяцей больш, чым у папярэднім годзе. Колькасць дзяцей, адабраных у бацькоў без пазбаўлення бацькоўскіх правоў склала 256 чалавек, што, зноў жа, больш, чым у 2003-м — на 68. Выяўлена 483 дзіцяці, ад якіх бацькі адмовіліся, што на 71 дзіця больш, чым у 2003-м.

Паводле даных выбарачнага абследавання дамашніх гаспадарак у 2004 годзе, 1.486,2 тысячы беларускіх сем'яў выхоўвалі дзяцей. Каля 60 працэнтаў сем'яў — адно дзіця, 34 працэнты — двух і 5,4 — трох і болей.

Грашовы даход у месяц склаў у сем'ях з адным дзіцем каля 575 тысяч рублёў, з двума — каля 591 тысячы, з трыма і болей — каля 600 тысяч. Характэрна, што грашовы даход у месяц у сем'ях з адным дзіцем у гарадской мясцовасці склаў каля 605 тысяч рублёў, а ў сельскай — 470 тысяч.

Ужыванне асноўных прадуктаў харчавання ў сем'ях з адным дзіцем на 1 чалавека ў год размеркавалася наступным чынам: хлебныя прадукты — 91 кг, малако і малочныя прадукты — 245 кг, мяса і мясапрадукты — 54 кг, рыба і рыбапрадукты — 14 кг, алей, маргарын і іншыя тлушчы — 9 кг, яйкі — 168 штук, бульба — 73 кг, агародніна і бахчавыя — 74 кг, фрукты і ягады — 44 кг, цукар і кандытарскія вырабы — 23 кг.

11,4 тысячы дзяцей ва ўзросце да двух гадоў былі забяспечаны бясплатным харчаваннем. 41,7 тысячы дзяцей дашкольнага ўзросту былі вызвалены ад 100-працэнтнай аплаты харчавання ў дашкольных установах і 18 тысяч — ад 50-працэнтнай аплаты. 74 працэнты няпоўных сем'яў і 17,5 працэнта мнагадзетных атрымалі адрасную дапамогу.

**Святлана БАРЫСЕНКА**, *"Звязда"*

***************************************************

# Вечны тарарам…

Не скрадзеш — не пражывеш.

У гэтай прымаўцы — сутнасць былога савецкага ладу жыцця.

Крадуць зверху да нізу. Ад Рыбакова з Жураўковай да кіраўнікоў ніжэйшага звяна. Асноўная маса народа проста вымушаная "прыбіраць да рук", бо на сённяшні дзень на зарплату, а тым больш на пенсію, не пражывеш. Нават калі чалавек зарабляе 600—700 тысяч, а жонка не працуе, а яшчэ ёсць двое дзяцей, то 150 тысяч на члена сям'і — паўгалоднае існаванне.

Крадзеж — спадарожнік беднасці. Беднасць пры савецкай уладзе стала паўсюднай. А ў сённяшняй Беларусі яна выдатна характарызуе ўзровень "дасягненняў" за апошнія 15 гадоў.

Як і ў гады застою.

Пры Сталіне, Хрушчове, Брэжневе савецкі народ жыў у вечным тарараме. Вэрхал, лямант узнімаўся з выпадку і без выпадку. Найбольш — пасля чарговых рашэнняў партыі і ўрада ды нейкіх "дасягненняў", перш за ўсё — "вялікіх будоўляў камунізму". Ох, як радасна вішчалі чыноўнікі ўсіх рангаў на пленумах, канферэнцыях, сходах, мітынгах, ва ўсіх сродках масавай інфармацыі з выпадку чарговага выказвання "правадыра", чарговага яго абяцання палепшыць, узмацніць, павысіць…

А сёння? Тое ж самае. Пабудавалі Лядовы палац — тэлебачанне ў захапленні. Між іншым, такія палацы ў Швецыі, Нарвегіі, Канадзе ёсць ледзь не ў кожным гарадку.

Падключылі прыродны газ да райцэнтра — ого, ледзь не сусветнае дасягненне. Тэлебачанне нават заявіла, што для жыхароў Докшыц — гэта падарунак ад кіраўніка дзяржавы.

Нарадзілася таленавітая дзяўчынка ў Мазыры, выхавала яе таленавітая мама — ура, гэта сістэма стварыла ўмовы для яе росквіту і перамогі на "Еўрабачанні".

Так і жывём, як у часы застою, у тарараме.

Агульны кацёл, ураўнілаўка — галоўны прынцып савецкага камунізму. Пры ім прадугледжвалі агульную бядоту. У агульны кацёл ішло ўсё: грошы, прадукты вытворчасці, прыродныя багацці і г.д. Чалавека пакідалі голым і босым, а каб ён не акалеў з голаду і працаваў "у імя камунізму" — выдавалі з таго катла мізер. Гэта называлася шчасцем.

На гэты "кацёл" працавалі цэлыя савецкія рэспублікі. Беларусь — таксама. Яна пастаўляла ў агульнасаюзны фонд усё — ад ваеннай тэхнікі да бульбы. А ўжо з гэтага фонду Масква выдзяляла ёй, як і іншым, тое, што хацела. Таму беларускае можна было ўбачыць у розных кутках імперыі, хаця ў Беларусі яго не хапала.

Разваліўся Савецкі Саюз — былыя рэспублікі сталі самастойнымі дзяржавамі, адарваліся ад "катла". Толькі Беларусь ніяк не адарвецца ад таго "карыта", пішчом пішчыць, лезе да яго. Дакладней — не Беларусь, а інтэгратары. Ім так зручней, выгадней. Прывыклі не працаваць, а хавацца за спіну "старэйшага брата".

Ну, улезе Беларусь у так званую Саюзную дзяржаву на радасць групкі людзей. Прагляне яе Расія, як калісьці праглынуў Савецкі Саюз. Не стане ў яе ўласных грошай, арміі, межаў, грамадзянства, будзе выконваць каманды Масквы, як было раней. Нават узор этыкеткі для вырабу Барысаўскай макаронай фабрыкі паедзе інтэгратар узгадняць з Масквой (так было.)

Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ,жыхар г.Мінска.

***************************************************

# Вацлаў Станкевіч: Каму Беларусь дарагая, той ня будзе супраць дэмакратыі

Хто б іх ні выйграў у 2006-м, яго не прызнаюць, мяркуе літоўскі парлямэнтар-беларус.

Сярод літоўскіх парлямэнтароў найдаўжэйшы час беларускім пытаньнем займаецца Вацлаў Станкевіч. Ён паходзіць з роду Станкевічаў, які даў Беларусі шмат вядомых дзеячаў. Другі тэрмін В.Станкевіч узначальвае ў парлямэнце камітэт па справах NATO, а за працу па далучэньні краіны да альянсу быў узнагароджаны Вялікім крыжам Камандора Вітаўта Вялікага.

На пачатку лістапада В.Станкевіч выступіў з заявай аб неабходнасьці як мага хутчэй распачаць канкрэтную размову зь беларускімі прадстаўнікамі ў сувязі са становішчам краіны на міжнароднай арэне. Аб'ектам гэткай размовы мусяць быць два беларускія законы — пра выбары і СМІ, бязь зьмен у якіх беларускія кіраўнікі ня могуць быць прызнаныя міжнароднай супольнасьцю. Прапанова В.Станкевіча мае яшчэ адзін акцэнт — далучыць да літоўска-беларускіх перагавораў і Расею, а далей гэтыя перамовы перанесьці на ўзровень эўрапейскіх структур — Эўразьвязу, Рады Эўропы і АБСЭ. «Нашы ўрады, — сказаў В.Станкевіч, — мусяць супрацоўнічаць, кажучы папросту, на поўную катушку. Дзякуючы гэтаму, пэўны, дэмакратызацыя ў Беларусі пачнецца нашмат хутчэй».

Тым часам у Беларусі адбыліся новыя зьмены — уведзены папраўкі ў Крымінальны кодэкс, якія яшчэ глыбей штурхаюць Беларусь да самаізаляцыі і яшчэ больш ускладняюць яе міжнародныя дачыненьні. «НН» прапанавала В.Станкевічу растлумачыць беларускай аўдыторыі, ці зьмянілася цяпер яго пазыцыя.

**«Наша Ніва»: Пра неабходнасьць весьці дыялёг зь беларускімі афіцыйнымі прадстаўнікамі вы казалі на працягу некалькі гадоў. Але што вы скажаце цяпер, пасьля ўнясеньня зьмен у Крымінальны кодэкс РБ?**

**Вацлаў Станкевіч:** Зьмены ў Крымінальны кодэкс, фармулёўкі пра «дыскрэдытацыю», «дэстабілізацыю» нясуць шкоду краіне, павялічваючы яе самаізаляцыю. Але я застаюся пры сваім. І суседнім краінам, і беларускім уладам, і апазыцыі трэба зразумець: Беларусь як мага хутчэй трэба выводзіць на міжнародную арэну. Таму як найхутчэй трэба зьмяніць законы пра выбары і СМІ — каб яны адпавядалі эўрастандартам. Толькі тады вынікі наступных выбараў будуць прызнаныя міжнароднай супольнасьцю і Беларусь прызнаюць дзяржавай, якая ідзе па шляху дэмакратыі. Пры цяперашнім законе, хто б іх ні выйграў у 2006 г., прэзыдэнт ня будзе прызнаны міжнароднай супольнасьцю як дэмакратычна абраны. Не мяняць законаў, ня ўводзіць элементаў дэмакратыі — гэта значыць узмацняць ізаляцыю сваёй краіны. Тое, што яны ня здольныя клапаціцца пра інтарэсы сваёй краіны. Краіна, якая самаізалюецца, ня мае будучыні.

**«НН»: Ёсьць іншы падыход у Літве: чым горшай будзе сытуацыя ў Беларусі ў выніку санкцый, тым хутчэй людзі зразумеюць сутнасьць рэжыму і паўстануць супраць яго.**

**ВС:** Я прапаноўваю эвалюцыйны шлях, але магчымы і рэвалюцыйны. Аднак я супраць рэвалюцый, прынамсі пакуль ня выкарыстаны ўсе магчымасьці эвалюцыйнага шляху. Я кажу аб праблеме самаізаляцыі Беларусі, а не пра самаізаляцыю Лукашэнкі. Трэба тлумачыць, можа, не самому Лукашэнку, а яго міністрам, рэгіянальным кіраўнікам, і такім чынам спрабаваць эвалюцыйным шляхам ініцыяваць зьмены да лепшага. Ня варта спадзявацца на нейкі цуд, а падрыхтавацца да доўгае працы.

**«НН»: Літоўскія палітыкі досыць рэзка камэнтуюць увядзеньне рэпрэсіўнага заканадаўства ў Беларусі, кажучы пра вяртаньне сталінскіх часоў. І ў той жа час Літва мае шматлікія кантакты зь Беларусьсю на ўзроўні міністэрстваў. Выглядае, што ва ўсіх сваіх кантактах краіна найперш кіруецца эканамічнымі інтарэсамі?**

**ВС:** Эканамічныя кантакты трэба разглядаць асобна ад палітычных. Палітыка — гэта палітыка. Нягледзячы на эканамічныя кантакты Літва ня можа адступіцца ад сваіх дэмакратычных каштоўнасьцяў. Мы — суседзі, мы лікуды адно ад аднога не падзенемся, незалежна ад таго, ці будзем мы разам у Эўразьвязе і ў NATO, ці не.

**«НН»: У часе візыту ў Нямеччыну В.Адамкус зрабіў рэзкія заявы наконт Беларусі, у прыватнасьці, што «не выключае магчымасьці нападу войскаў Лукашэнкі на маленькую балтыйскую краіну». Магчыма, прэзыдэнт агучыў патаемныя страхі Літвы?**

**ВС:** Я ня веру, што нехта ў Літве глядзіць на Беларусь як на нейкага ворага. Апрача таго, Літва — сябар NATO. Напасьці на Літву — значыць напасьці на NATO. Зь іншага боку, мы ўвесь час забываемся, што Беларусь зьяўляецца партнэрам NATO па шэрагу праграм. Я, калі бываю ў арганізацыях NATO ў Брусэлі, заўсёды пытаюся ў генэралаў альянсу, як яны расцэньваюць партнэрства зь Беларусьсю. Высокія прадстаўнікі NATO зазначаюць, што Беларусь выконвае свае абавязкі ў праграме «Партнэрства дзеля міру». Можна прывесьці яшчэ і шмат іншых аргумэнтаў на карысьць таго, што цяперашняя Беларусь — ня тая краіна, якая будзе пасылаць свае танкі на Вільню.

**«НН»: У Літве некаторыя палітыкі (напр. В. Ландсбэргіс) заяўляюць, што менавіта размовы пра магчымасьць кантактаў зь беларускімі ўладамі паспрыялі новым крокам да ўзмацненьня дыктатуры. Ці ня лье ваша прапанова ваду на млын дыктатуры? Ці вы ўсё яшчэ спадзяецеся, што любы кіраўнік можа зразумець, што нельга гэтак шкодзіць сваёй краіне?**

**ВС:** Калі для кіраўніка Беларусі і яго вэртыкалі дарагія ня толькі іх пасады, але й дарагая Беларусь і яе народ — крокі па ўвядзеньні дэмакратычных элемэнтаў у ўсыдзе краіны абавязкова трэба пачынаць. Калі афіцыйныя ўлады гэтага не пачнуць рабіць, кожнаму стане зразумела — ім ня рупіць Беларусь і яе будучыня. Тады афіцыйны Менск ня зможа сказаць беларускаму народу — бачыце, з намі не жадаюць размаўляць. Сёньня яшчэ магчыма пераадолець сьцяну недаверу

паміж афіцыйным Менскам і Захадам. Таму і прапаную — давайце сядзем і пагаворым. Мы не рыхтуем ніякіх пераваротаў, мы не зьбіраемся ўплываць на тое, каму быць наступным прэзыдэнтам Беларусі. Хто будзе прэзыдэнтам, скажа беларускі народ. Мы мусім пагаварыць пра будучыню Беларусі. Каб беларускае грамадзтва заняло дастойнае месца ў Эўропе, якога яно насамрэч вартае. А цяпер Беларусь нібы белая пляма у Эўропе — вось у чым бяда.

**«НН»: Што беларусу Станкевічу са знанага роду Станкевічаў баліць за Беларусь, ня дзіўна. Але што ад гэтага мае літоўскі палітык, Літва?**

**ВС:** Наадварот, афіцыйная Літва зацікаўлена ў тым, каб Беларусь была на ўсіх узроўнях, каб Беларусь прысутнічала на міжнароднай арэне. Каб яе не Расея прадстаўляла ў эўрапейскіх структурах, а самі беларускія прадстаўнікі працавалі ва ўсіх галоўных эўрапейскіх інстытутах, і Беларусь магла гаварыць сама за сябе. Для Літвы важна, каб Беларусь засталася самастойнай краінай са сваёй мовай, сваёй нацыянальнай культурай. І я гэтага хачу — і як беларус, і як грамадзянін Літвы. ***/Наша Ніва/***

**Вацлаў Станкевіч** — літоўскі парлямэнтар-беларус. Паходзіць з роду Станкевічаў, які даў Беларусі шмат вядомых дзеячаў. Другі тэрмін узначальвае ў парлямэнце камітэт па справах NATO, а за працу па далучэньні краіны да альянсу быў узнагароджаны Вялікім крыжам Камандора Вітаўта Вялікага.

Гутарыла Тацяна Поклад, Вільня

**********************************************************

# ДУХОЎНЫ СКАРБ

## А легенды жывуць...

Мне пашанцавала доўгі час жыць у Нясвіжы. Славуты беларускі горад даў магчымасць глыбей пазнаць гісторыю роднага краю. Асветлены мудрасцю пакаленняў, ён падарыў шмат надзіва рамантычных легендаў, паданняў, заснаваных на рэальных гістарычных падзеях і фактах. Цікава, што гэтыя легенды часам увасоблены матэрыяльна, іх можна не толькі пачуць, але нават... убачыць, дакрануцца рукой.

### З глыбіні стагоддзяў

...Яны прыйшлі сюды, пад шаты разложыстых дрэў, з розных стагоддзяў. Скульптурныя выявы сімвалізуюць уклад многіх прадстаўнікоў вялікага роду Радзівілаў і звязаных з Нясвіжам дзеячаў розных эпох у беларускую справу — дзяржаўную, ваярскую, мастацкую. Вось адзін з іх — князь Юрый Нясвіжскі. Загінуў у гістарычнай бітве з татарамі на рацэ Калцы ў 1223 годзе. Праз яго адбылося першае летапіснае ўпамінанне Нясвіжа... Уладальнік горада Мікалай Радзівіл (Сіротка) шмат зрабіў для яго ўзвышэння і росквіту. Пры ім былі ўзведзены каменны палац, Фарны касцёл, чатыры ўязныя брамы. У друкарні, створанай Сіроткам, Сымон Будны выдаў першую на беларускай мове кнігу "Катэхізіс", іншыя творы. А сам князь напісаў кнігу пра свае падарожжы ў Егіпет, Сірыю, Палесціну.

Слаўную памяць пра сябе пакінуў у Нясвіжы італьянскі архітэктар Ян Марыя Бернардоні. Узведзеныя пры ім будынкі і зараз захапляюць велічнасцю і мастацкай дасканаласцю.

У тыя ж гады жыў у Нясвіжы Тамаш Макоўскі. Ён працаваў у друкарні. Стварыў выдатныя гравюры Нясвіжа, Вільні, Клецка, Смаргоні, іншых гарадоў Вялікага княства Літоўскага, склаў план Масквы.

Шмат цікавага пра выдатныя мясціны напісаў паэт Уладзіслаў Сыракомля (1823—1862) — аўтар дзесяці тамоў вершаў, нарысаў, артыкулаў (вядомая руская народная песня "Когда я на почте служил ямщиком" складзена на пераклад яго верша). Ён працаваў у палацы Радзівілаў.

Наш народны пясняр Якуб Колас у свой час вучыўся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. У паэме "Сымон-музыка" ён даў цудоўныя апісанні тутэйшых паркаў і палаца.

Шэсць бюстаў — шэсць найвыдатных асоб. Кожная з іх пакінула свой прыкметны след у гісторыі нашага народа. Я доўга, калі ўбачыў першы раз, стаяў ля гэтых выяў у роздуме. Дзякуй Богу, што памяць пра іх зараз шануецца.

— Прабачце, — падышла сярэдніх гадоў жанчына. — Я прыехала сюды з віцебскай глыбінкі і ніяк не надзіўлюся: казка дый годзе! Вось, аказваецца, якімі скарбамі надзялілі нас продкі. Толькі ж мы далёка не ўсё зберарглі...

### Радзівілам зайздросціла Еўропа

Чарговы раз завітаў я сюды з дванаццацігадовай унучкай Элай — паказаць ёй горад, калісьці некаранаваную сталіцу Вялікага княства Літоўскага, падыхаць яго старынай.

Я шмат дзе пабыў, падарожнічаючы па свеце. І ганаруся, што наш невялікі Нясвіж можа стаяць у шэрагу з многімі славутымі гарадамі іншых краін. Неацэнная яго роля ў развіцці нацыянальнай гісторыі, культуры, фарміраванні беларускай нацыі.

...Находзіўшыся па самым вялікім і прыгожым у Беларусі парку, налюбаваўшыся цудоўным палацам, мы селі на лаву ва ўтульным дворыку, патанаючым у экзатычнай зеляніне. Дзень быў цёплы, ціхі. Стромкія вежы ўпіраліся ў блакітнае неба. Рамантыка...

Унучка была пад уражаннем убачанага і пачутага, захаплялася веліччу палаца, якому дзівяцца здаўна людзі розных краін свету. Яшчэ яна ўзгадала прачытанае раней аб незвычайных багацціях замка.

— А дзе ж падзелася ўсё? — спытала яна. — І карцінная галерэя аж на тысячу партрэтаў, і вялікі архіў, і незвычайна багатыя зборы зброі, і васковыя фігуры, і золата-срэбра, каштоўныя камяні князевай скарбніцы...

Давялося ўздыхнуць і расказаць дзяўчынцы, як нас абрабавалі суседзі. У Нясвіжы было шмат арыгінальнага, створанага ўпершыню на дзіва ўсёй Еўропе: выдатнейшы тэатр, дзе ставіліся драмы, оперы, балеты, а таксама цудоўны аркестр, музычная і харавая капэлы. Былі тут кадэцкая і марская вучэльні, друкарня. Да сённяшняга дня людзі любуюцца архітэктурнымі помнікамі тых часоў — Фарным касцёлам, ратушай, домікам на рынку, Слуцкай брамай, кляштарам дамініканак, іншымі будынкамі.

Пра ўсё гэта бытуе шмат паданняў...

### Праўда ці прыдумка?

У цэнтры горада, між прывабнымі архітэктурнымі помнікамі, стаіць някідкі дамок. Але нясвіжцы яго ведаюць і берагаюць, бо лічаць жывой легендай. Менавіта ў ім калісьці месцілася друкарня, у якой знакаміты асветнік і мысляр-філосаф Сымон Будны выдаў беларускі "Катэхізіс". Праўда, навуковая экспертыза гэтага не пацвердзіла, ды легенда перадаецца з пакалення ў пакаленне. Калі ў горадзе хто каму дарогу паказвае, то часам гучыць:

— ...Каля друкарні Сымона Буднага!

Жыве ў народнай памяці светач думкі і добрай справы дзеля Беларусі! Сваю гісторыю тут шануюць. Бывае, госці любуюцца збудаваным у 1593 годзе Фарным касцёлам, яго непаўторнымі роспісамі і не заўважаюць невялічкую будынінку побач. Не цікавіўся ёю і я. Аказалася — дарэмна...

Са школьнай пары памятаю імя рускага літаратара Фадзея Булгарына, які ўвайшоў у гісторыю як жорсткі крытык Пушкіна. Дык вось, карані гэтага самага Булгарына — у Нясвіжы. Дзед Фадзея паходзіў з роду героя Албаніі — Скандэрберга (мянушка — Булгарын), а з'явіўся ў Нясвіжы па запрашэнні валадароў Вялікага княства Літоўскага, каб дапамагчы адрадзіць беларускую зямлю. Сталася так, што албанец заканфліктаваў з самім Радзівілам — Пане Каханку і пабудаваў каля касцёла капліцу, у якой маліўся днём і ноччу. Урэшце магутны князь і албанец пАмірыліся. Капліца засталася, у ёй, па некаторых звестках, і пахаваны Булгарын-дзед. А ўнук яго стаў "тым самым" Фадзеем Булгарыным, які, між іншым, быў здольным пісьменнікам... Цягам стагоддзяў Нясвіж зрабіўся скарбніцай незлічоных багацццяў — і духоўных, і матэрыяльных. Яны канцэнтраваліся ў рэзідэнцыі Радзівілаў, сцякаліся сюды з бяскрайніх княжацкіх уладанняў. Магнаты, адны з самых багатых у Еўропе, будавалі на вякі, стварылі унікальны цэнтр мастацтваў, сабралі багацейшую бібліятэку на 20 тысяч тамоў, партрэтную галерэю... Багацце роду ўвасобілася ў дванаццаці скульптурах апосталаў з чыстага золата, у васковых фігурах — першых у свеце, у іншых незлічоных каштоўнасцях.

— Уладальнікі гэтай непараўнальнай скарбніцы, — расказвае знаўца нясвіжскай старыны настаўніца Клаўдзія Якаўлеўна Шышыгіна-Патоцкая, — не мелі права нічога з тых адметных багаццяў ні прадаць, ні аддаць у пасаг, ні вывезці за межы Нясвіжа. Нават падчас грозных ваенных нашэсцяў родавыя скарбы павінны былі заставацца ў надзейным сховішчы, пра які ведаў толькі сам князь і набліжаны да яго чалавек.

Найпаўнейшай скарбніца была ў другой палове XVIII стагоддзя. Ад Пане Каханку яна дасталася Дамініку Радзівілу, які ў 1812 годзе з пяццю тысячамі ўланаў далучыўся да Напалеона. Пры адступленні ад Масквы Дамінік на некалькі гадзін заскочыў у Нясвіж і даверыў сакрэт скарбніцы адданаму Радзівілам упраўляючаму. У хуткім часе рускія войскі занялі горад, упраўляючага, які не выдаў тайны, расстралялі. А Дамінік памёр ад ран.

Месца сховішча так і засталося тайнай да сённяшняга дня. Яго шукалі і навукоўцы, і аматары ўсялякіх раскопак. Шурудзілі тут і немцы ў Першую і Другую сусветныя войны...

Пошукі кладу аднавіліся ў другой палове мінулага стагоддзя. Але...

Умелі нашы продкі не толькі збіраць, а і берагчы каштоўнасці! Скарбонка хоць і не знойдзена, але скарбы мінулага — магутны стваральны дух ранейшых пакаленняў — у нас у руках. Толькі б не выпусціць.

Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ, пенсіянер, жыхар г.Мінска

**********************************************************

*Прадаўжэньне Лісты ахвярадаўцаў на "Беларускі Дайджэст" у 2006 годзе*

| | |
|---|---|
| Міхась Шабека, Sr, | $25.oo |
| Ірэна Цупрык | $50.oo |
| Др. Міхась і Таня Жылік | $100.oo |
| Алексы Кузьміч | $30.oo |
| Мікола і Ліна Сагановіч | $100.oo |
| Мікола і Мргарэт Сапежынскі | $100.oo |
| Яраслаў і Катарына Вініцкі | $100.oo |
| Славік А. Шабовіч | $200.oo |
| Галіна Руднік (Нямеччына) | $75.oo |
| Аўген Кажан | $60.oo |
| Элеонора Норык | $40.oo |
| Бэрніс Касьцюкевіч | $50.oo |
| Віталі Церпіцкі | $40.oo |
| Вольга Грыцук (Канада) | $50.oo |
| Антон Маркевіч (Канада) | $25.oo |
| Пятро Касаты | $100.oo |
| Аўген Кабяко | $50.oo |
| Васіль Шчэцька | $40.oo |
| Багдан Паўк | $50.oo |
| Др. Язэп С. Сажыч | $100.oo |
| Марыя Гаўрылюк (Канада) | $50.oo |
| Кастусь Верабей | $50.oo |

**********************************************************

# Пачалі аднаўляць Каложу

Ля старадаўняга помніка беларускага дойлідства – Барыса-Глебскай (Каложскай) царквы XII стагоддзя, распачаліся падрыхтоўчыя геалагічныя і геадэзічныя працы, прадугледжаныя агульным праектам Міністэрства культуры Беларусі па аднаўленні Каложы. Як паведаміў карэспандэнту ПАГОНІ гісторык архітэктуры Ігар Трусаў, які шмат гадоў займаўся праблемай захавання Барыса-Глебскай царквы, рашэнне аб рэстаўрацыі Каложы ў гэтым годзе было прынята на паседжанні Навуковага савета Міністэрства культуры Беларусі.

– Геолагі і геадэзісты пачалі даследваць узбярэжжа Нёмана, на якім стаіць Каложа, – гаворыць Ігар Трусаў. – Яны выкарыстоўваюць самыя сучасныя тэхналогіі, так званы геадарны метад, які дазваляе даследаваць глебу на вялікай глыбіні не выкарыстоўваючы пры гэтым буравую машыну.

На аднаўленне Каложы з бюджэта Гарадзенскай вобласці мае быць выдаткавана 970 мільёнаў рублёў. Паводле галоўнага інжынера ўпраўлення капітальнага будаўніцтва Гарадзенсканга аблвыканкама Валерыя Крыўца, у бягучым 2006 годзе на рэстаўрацыю Каложы плануецца выкарыстаць 500 мільёнаў рублёў. Распрацоўку праектна-сметнай дакументацыі Міністэрства культуры Берарусі даверыла менскай фірме "Ронса", якая мае багаты досвет падобных прац на Гарадзеншчыне. Навуковы кіраўнік аднаўлення Каложы – менскі архітэктар Генадзь Лаўрэцкі – пасля доўгіх ваганняў і даследчай працы прыйшоў да высновы, што адбудаваць Каложу ў арыгінальным варыянце XII стагодзя немагчыма, таму было вырашана аднавіць бажніцу ў выглядзе напярэдадні апоўзневай катастрофы 1853 года.

–Каложа, як аб'ект, сама па сабе невялікі, – канстатуе гісторык архітэктуры Ігар Трусаў. – Таму пры належным фінансаванні яе можна адрэстаўраваць за два-тры гады. Усё, праўда, залежыць ад узроўня рэстаўрацыйных прац. Наколькі мне вядома, Міністэрства замежных спраў Беларусі ўжо зрабіла захады па ўключэнні Каложы ў Спіс помнікаў сусветнай спадчыны ЮНЭСКА па найвышэйшай катэгорыі "Zero". Але яшчэ раз падкрэслю, што рашэнне міжнародных экспертаў па ўключэнні ў спіс ЮНЭСКА наўпрост залежыць ад якасці аднаўлення старадаўняе бажніцы.

# Каштоўнасці — у каталог

**Сяргей КУЗНЯЦОЎ**

У Беларусі плануецца пачаць працу над стварэннем каталога страчаных нацыянальных гісторыка-культурных каштоўнасцяў. Аб гэтым паведаміў журналістам намеснік міністра культуры Уладзімір Грыдзюшка.

Ён адзначыў, што толькі падчас Вялікай Айчыннай вайны за межы нашай краіны было вывезена больш за 11,5 тыс. каштоўных музейных экспанатаў. Над стварэннем каталога будуць працаваць супрацоўнікі гістарычнага факультэта Белдзяржуніверсітэта, Беларускага дзяржаўнага інстытута праблем культуры, музейныя спецыялісты. Што датычыцца тэрмінаў стварэння каталога, то намеснік міністра не змог іх назваць. «Не хачу апярэджваць падзеі. Мы проста маем на мэце выканаць гэтую працу ў поўным аб'ёме. І каталог будзе агульнадаступным...»

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# Слова пра бацьку






Мой бацька, Мікола Сьцяпанавіч Латушкін, нарадзіўся 15 студзеня 1922 году ў маленькай вёсцы на Магілеўшчыне. Ён меў трох братоў і адну сястру. Школу-сямігодку ён скончыў у Новашолках, сярэднюю дзесяцігадовую школу – у сяле Галаўчыно непадалёку ад Магілёва.

У кастрычніку 1940 г. ён быў мабілізаваны ў савецкую Чырвоную армію. Служыў спачатку ў Вентспілсе ў Латвіі, скончыў там спецыяльную вайсковую кавалерыйскую школу, атрымаў званьне лейтэнанта.

У ліпені 1941 г., літаральна праз месяц пасьля нападу Германіі на Савецкі Саюз, мой бацька быў вельмі цяжка паранены падчас бою. У цяжкім стане яго падабралі, і ён трапіў у нямецкі канцэнтрацыйны лагер, дзе прабыў, дзевятнаццацігадовы, роўна год.

З дапамогай актывістаў Саюза беларускай моладзі (СБМ) яго ўдалося вызваліць з канцэнтрацыйнага лагеру. Бацька стаў актыўна працаваць у гэтым Саюзе, асноўнай мэтай якога была барацьба за незалежнасьць роднай Беларусі ад камуністычнага прыгнёту і нямецкай акупацыі.

Перад самым канцом вайны Мікола Латушкін апынуўся ў Германіі, у Карсфілдзе. Ён не хацеў вяртацца ў Савецкі Саюз, бо добра ведаў, што там яго ў лепшым выпадку чакае турма і ссылка. Між іншым, такі лёс напаткаў ягонага старэйшага брата Хведара. У вайну ён трапіў у палон, а калі вайна скончылася, ён вярнуўся дадому і тут жа быў пасаджаны ў турму, потым сасланы ў Сібір у лагер Гулагу, дзе вельмі хутка памёр.

З 1945 па 1949 гады бацька вучыўся ў ветэрынарных школах у Карсфілдзе і Рэгенсбургу. Потым працаваў там па атрыманай спецыяльнасьці. У Рэгенсбургу ён стаў актыўным членам Беларускага камітэту, прымаў удзел ва ўсіх яго мерапрыемствах.

У ліпені 1950 году Мікола Латушкін выправіўся ў Амэрыку. 9 жніўня параход прыбыў у Бостан. Жыць бацька стаў спачатку ў Філадэльфіі. Праз 4 гады, у 1954-м, пераехаў у Клііўлянд, штат Ахайо. Там ён атрымаў яшчэ адну прафесію, вывучыўся на механіка. Адразу ж пачаў актыўна ўдзельнічаць у працы Беларуска-амэрыканскага культуровага Цэнтру, стаў членам рады гэтага Аб'яднаньня.

У траўні 1957 году бацька пераехаў у Чыгага, штат Ілінойс. Там ён сустрэўся з прыгажуняй Сафіяй Багдановіч, будучай маёй маці. Яны моцна пакахалі адзін аднаго і ажаніліся 26 кастрычніка 1957 году. У Чыкага бацька стаў актыўна працаваць у будаўнічым бізнесу. У верасні 1958 году нарадзіўся мой брат Уолтэр. Мікола Латушкін 1 травеня 1959 году стаў грамадзянінам Злучаных Штатаў Амэрыкі. Я нарадзілася ў Чыкага 24 лістапада 1964 году.

У лістападзе 1958 году ў Чыкага адкрылася Беларуская праваслаўная царква імя сьвятога Юр'я. Мае бацька і маці, разам з дзедам Янкам Багдановічам былі фундатарамі-заснавальнікамі гэтае царквы. Шмат гадоў Міколу Латушкіна выбіралі нязьменным сакратаром Царкоўнай Рады, ён быў адным з актыўных сьпевакоў у царкоўным хоры. Як спецыяліст-механік і будаўнік ён зрабіў вельмі многа ў справе рамонту царкоўнага будынку, яго перабудовы і афармленьня. Актыўна займаўся грамадскай дзейнасьцю, быў сакратаром Беларуска-амэрыканскага нацыянальнага камітэту ў Чыкага, прадстаўляў у нашым горадзе Беларускі кангрэсовы камітэт Амэрыкі.

Бацька пайшоў на пэнсію ў 1987 годзе. Прымаў актыўны ўдзел ва ўсіх беларускіх акцыях у Чыкага. Калі Беларусь стала незалежнай дзяржавай, ён паехаў на радзіму. Адбылося даўгачаканнае спатканьне праз 54 гады пасьля таго, як ён пакінуў Бацькаўшчыну.

13 чэрвеня 1998 году трагічна загінула мая маці – яе забіў п'яны афіцэр паліцыі, і бацька застаўся ўдаўцом… Усім нам гэта было страшэннай трагедыяй. Горка плакалі і дзьве ягоныя ўнучкі – Зоя і Катарына.

Мікола Латушкін пасьля цяжкой хваробы пайшоў з гэтага жыцьця 31 сьнежня 2005 году, не дажыўшы два тыдні да свайго 84-х гадоў.

Мой бацька вельмі любіў Амэрыку, краіну, якая дала яму і многім яго суайчыньнікам магчымасьць жыць і працаваць свабодна і плённа. Але да апошняй сваёй хвіліны ён быў сапраўдным патрыётам Беларусі, яе гісторыі, яе культуры. Усё сваё жыцьцё ён думаў пра Бацькаўшчыну, пра беларускі народ і рабіў усё магчымае, каб наблізіць час яго свабоды і незалежнасьці.

Вечная яму памяць!

**Ліза Латушкіна-Боскавіц, дачка.**

*(Пераклад з ангельскай Ванкарэма Нікіфаровіча).*




Сьв. Памяці

# Васіль Плескач

Jan. 30, 1916 — March 17, 2006



Сьпі пад курганам герояў,
Сьпі працаўнік і змагар.
Несены верна табою,
Ціха схіліўся штандар!

Сваё доўгае жыцьцё Васіль Плескач прысьвяціў беларускай незалежніцкай справе, сям'і і грамадзкай дзейнасьці. Яго вялікі беларускі патрыятызм быў яркім прыкладам для сяброў і малодшага пакаленьня. Ён працавіта служыў беларускай нацыянальнай справе. Пра яго яшчэ будуць пісаць і ўспамінаць дасьледчыкі беларускай дзейнасьці, як на Бацькаўшчыне, так і на эміграцыі

Вечная Яму памяць!



# Стартавала Еўрапейскае радыё для Беларусі

Ужо пачало трансляцыю Еўрапейскае радыё для Беларусі. Падчас гадзіннага эфіру, які мае назву "Акно ў Еўропу", беларускія журналісты перадаюць самую розную інфармацыю з Беларусі і свету.

Адначасова са штодзённай радыё-праграмай з'явілася таксама і тэлевізійная, якая пад той жа назвай будзе трансляваца раз на тыдзень. Еўрапейскі праект мае на мэце падтрымліваць дэмакратычныя змены ў Беларусі.

# Угодкі студзеньскіх падзеяў у Вільні

У амбасадзе Літвы 12 студзеня адбылася ўрачыстая вечарына, прысвечаная 15 угодкам трагічных і геаічных падзеяў у Вільні, калі Савецкі саюз спрабаваў задушыць аднаўленую незалежнасць Літвы танкамі. У ноч на 13 студзеня 1991 году савецкія акупацыйныя войскі захапілі Віленскую тэлевежу і шэраг урадавых будынкаў, забіўшы 14 і параніўшы каля 700 мірных цывільных абаронцаў свабоды і незалежнасці Літвы. У тыя студзеньскія дні сумленныя людзі Беларусі былі разам з віленцамі, многія паехалі ў Вільню бараніць горад ад акупантаў.

Паводле прэс-службы Партыі БНФ, ушанаванне Дня абаронцаў свабоды ў амбасадзе Літвы пачалося з відэахронікі трагічных дзён. Амбасадар Пятрас Вайтэкунас, сам удзельнік тых падзеяў, сыгнатар Акту аб Незалежнасці Літвы, нагадаў, якой цаной дасталася ягонай краіне свабода і незалежнасць. Ён шчыра падзякаваў усім беларусам, якія ў тыя дні былі поруч з абаронцамі свабоды, згадаўшы імёны Валянціна Голубева, Вінцука Вячоркі, Віктара Івашкевіча, Андрэя Ганчарова і іншых. Спадар Вайтэкунас падкрэсліў вялікае значэнне мітынгу салідарнасці з Літвой у Менску (які правёў на пляцы Незалежнасці Беларускі Народны Фронт) і падзякаваў за прыезд у змагарную Вільню дэлегацыі Вярхоўнага Савету 12 склікання на чале з Нілам Гілевічам. Вечарыну ўпрыгожыў харэаграфічны эцюд, прысвечаны падзеям 15-гадовай даўніны.

Старшыня Партыі БНФ Вінцук Вячорка, запрошаны на вечарыну як адзін з удзельнікаў студзеньскіх падзеяў, узгадвае: "Мы, фронтаўцы, не вагаліся ў адказ на пытанне, дзе нашае месца. Пасля мітынгу Сяржук Сокалаў-Воюш завёў свае "Жыгулі", і мы разам з Віктарам Івашкевічам і Кастусём Войткам паехалі ў Вільню, да будынку парламенту. Там перадалі сабраныя на мітынгу сродкі дарадніку В.Ландсбэргіса Гінтарасу Сангайлу, якога ведалі яшчэ з часоў маладзёвых згуртаванняў (у нас была "Талака", у літоўцаў – "Talka"). Суткі правялі каля парламенту, патрулюючы яго разам з віленчукамі і прыезжымі. Потым мы прыязджалі на пахаванне герояў 13 Студзеня. Многія беларусы, якія тады стала жылі ў Вільні, былі ўзнагароджаны Медалём 13 Студзеня. Сярод іх – Сяргей Дубавец, Алег Аблажэй, Алег Мінкін ды іншыя. Гэта вельмі важна, што сярод абаронцаў тэлевежы і парламенту былі беларусы: мы даказалі тады адданасць нашай агульнай свабодзе".

## ЛІТВА: КОЛЬКАСЦЬ НАСЕЛЬНІЦТВА

***У пачатку 2006 г. насельніцтва Літвы складала 3 млн. 403,2 тыс. чалавек, або на 22,1 тыс. менш, чым на пачатак 2005 г. З прычыны адмоўнага натуральнага прыросту колькасць насельніцтва скарацілася на 13,0 тыс., з прычыны адмоўнага сальда міграцыі - на 9,1 тс.***

З-за нізкага паказчыку нараджальнасці скарачаецца колькасць дзяцей (у веку 0-14 гадоў), а колькасць людзей сталага веку (за 60 гадоў і старэйшых), у параўнанні з агульнай колькасцю насельніцтва, большае. Зараз дзяцей у Літве на 15% меней, чым пажылых. Кожны шосты мужчына і кожная чацвёртая жанчына старэйшыя за 60 гадоў.

Летась уступілі ў шлюб на 640 пар болей і разышліся на 200 пар болей, чым у 2004 г. У 2005 г. у Літве нарадзілася амаль на 150 дзяцей болей, чым у 2004-м годзе, на сто дзяўчынак прыпадала 104 хлопчыка. Самымі папулярнымі імёнамі для дзяўчынак былі Габія, Каміле, Эмілія, Габрыэле, хлопчыкаў - Лукас, Матас, Нюос, Мантас.

Летась памерла амаль на 2200 чалавек больш, чым у 2004-м годзе. Паказчык смяротнасці (лік памерлых на 1000 чалавек) павялічыўся на 6,7%, аднак колькасць памерлых дзяцей у веку да 1 года на 1000 жывых панізіўся з 7,9 у 2004 г. да 6,9 у 2005-м годзе.

Колькасць з'ехаўшых для пражывання за мяжу або на тэрмін больш палугода павялічыўся з 15, 2 тыс. у 2004 г. да 15,8 тыс. у 2005 г. Больш усяго жыхароў Літвы летась з'ехала ў Вялікабрытанію (4, 4 тыс.), Ірландыю (2,1 тыс.), ЗША (2,0 тыс.), Германію (1,5 тыс.), Расію (1,1 тыс.), Іспанію (0, 8 тыс.). Вялікую частку сярод перасяленцаў (каля пятай часткі) складаюць 25-29-гадовыя, каля 16% - 20-24-гадовыя і 13% - 30-34-гадовыя. Аднак, як сцвярджаюць некаторыя эксперты, насамрэч масштабы эміграцыі перавышаюць згаданую ў шмат разоў.

Летась з іншых дзяржаваў у Літву прыбыла 6,7 тыс. чалавек, або на 1,1 тыс. больш, чым у 2004 г. Больш усяго прыехалі з Вялікабрытаніі (1,2 тыс.), Расійскай Федэрацыі (0,9 тыс.), Германіі (0,7 тыс.), ЗША (0,6 тыс.).

## ВЫБАРЫ? ПРАВАКАЦЫЯ Ў СТАСУНКУ ДА ЭЎРОПЫ!

Гэтак званыя прэзыдэнцкія выбары ў Беларусі – гэта правакацыя ў стасунку да Эўропы, - напісала нямецкая штодзённка "Sueddeutsche Zeitung". Камэнтатар акрэсьлівае сыстэму, на збудаваную Лукашэнкам як "брутальную дыктатуру", якая абапіраецца не на сацыяльнай бясьпецы, а дакладна наадварот – на "абсалютнай адсутнасьці бясьпекі і на бяспраўнасьці".

Паводле нямецкага карэспандэнта, беларускія працаўнікі ўтрымліваюцца ў няпэўнасьці пра сваю будучыню пры дапамозе кароткатэрміновых кантрактаў, а тыя, што спрабуюць бунтаваць, рызыкуюць згубіць нават мінімум, неабходны для жыцьця.

Газэта заклікае да прадуманых, канкрэтных рашэньняў, накіраваных мсупраць лукашэнкі і ягоных людзей. Забарона ўезду на тэрыторыю аб'яднанай эўропы можа быць такім сродкам, лічыць нямецкі камэнтатар.

Сытуацыю пасьля выбараў газэта ацэньвае як "дэпрэсуючую, але не безнадзейную" а рэпрэсыі супраць апазыцыі сьведчаць пра паніку рэжыму. "Sueddeutsche Zeitung" цытуе Лукашэнку, што "Дыктатура ў цэнтры Эўропы немагчымая" – дадае – Лукашэнка мае ў гэтым рацыю".

